Літаратура і мастацтва
ISSN 0024-4686
№42 (4637) 21 кастрычніка 2011 г.



# Кніга — нястомны настаўнік

*Удзельнікам II з'езда грамадскага аб'яднання "Саюз пісьменнікаў Беларусі"*

Паважаныя сябры!

Шчыра віншую вас з адкрыццём II з'езда грамадскага аб'яднання "Саюз пісьменнікаў Беларусі".

Ваш саюз дастойна выконвае важную місію згуртавання лепшых творчых дзеячаў, якія жадаюць прысвяціць сваё талент і майстэрства самаадданаму служэнню нашаму народу.

Мастацкае слова адыгрывае велізарную ролю ў грамадстве. Кніга — гэта не толькі крыніца пазнання свету, але і мудры выхавальнік, нястомны настаўнік. Таму дзяржава будзе заўжды спрыяць дзейнасці пісьменнікаў, чые творы сцвярджаюць сапраўдныя маральныя і эстэтычныя каштоўнасці, вучаць чытачоў любіць сваю Радзіму, ганарыцца яе гісторыяй і культурай.

За апошні час ваша творчае аб'яднанне стала надзейным калектывам аднадумцаў, які з годнасцю працягвае традыцыі знакамітых прадстаўнікоў беларускай літаратуры.

Няхай і надалей члены саюза ўзбагачаюць нашу духоўную скарбніцу высокамастацкімі творамі, адкрываюць свету новыя імёны паэтаў і празаікаў.

Жадаю вам моцнага здароўя, невычэрпнага натхнення, шчасця і дабрабыту.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр ЛУКАШЭНКА**

# Духоўнасць як абярэг нацыі

**Ірына ТУЛУПАВА, фота Кастуся Дробава**

**Пачатак гэтага тыдня пазначальны важнай падзеяй у жыцці літаратараў і ўсяго грамадства: 17 — 18 кастрычніка ў Мінску адбыўся II з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі.**



## Дыялог творцаў

Першы форум, які прайшоў пяць гадоў таму і стаў ужо гісторыяй, вырашаў у асноўным арганізацыйныя пытанні ды вызначаў кірункі дзейнасці на будучае. Цяпер на з'ездзе гучалі дыскусіі менавіта па творчасці. Галоўнымі тэмамі абазначыліся: развіццё літаратурнага працэсу ў краіне і трансфармацыя яго ў сусветную літаратурную плынь, праца з моладдзю як з будучыняй беларускай літаратуры, стан і перспектывы развіцця крытыкі як дзейснага дапаможніка ў праектаванні сучаснай дзейнасці творцаў, вызначэнні тэм і форм мастацкага адлюстравання свету.

Два дні сталіся досыць непадобнымі па сваім гучанні і напаўненні. Калі першы, урачыста-стрыманы і ў чымсьці прадказальны, падсумоўваў зробленае — гучалі справаздачы і ў выступленнях абазначаліся агульныя пазіцыі, — то другі разгарнуў на сваёй афіцыйнай пляцоўцы (з'езд праходзіў у Беларускай дзяржаўнай філармоніі) сапраўдны палілог творцаў, як айчынных, так і замежных, якія прыехалі на форум са сваімі думкамі і прапановамі.

Размова разгарнулася разнапланавая па сваім інфарматыўным насычэнні і з максімальна магчымай колькасцю ўдзельнікаў. Паводле дадзеных мандатнай камісіі, на з'ездзе прысутнічалі 445 дэлегатаў. Сярод іх ва ўзросце да 40 гадоў — 41 дэлегат, ад 40 да 60 — 183 дэлегаты і пасля 60 — 221 чалавек.

## Афіцыйна

На адкрыцці з'езда прагучаў гімн Рэспублікі Беларусь, у залу былі ўрачыста ўнесены сцяг пісьменніцкай арганізацыі. Віцэ-прэм'ер Беларусі Анатоль Тозік зачытаў прывітанне з'езду Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі, дзе выказвалася ўпэўненасць, што Саюз выконвае місію згуртавання лепшых творчых сіл, якія жадаюць прысвяціць сваё талент і майстэрства самаадданаму служэнню нашаму народу. І падкрэслівалася асаблівая роля кнігі — мудрага выхавальніка і нястомнага настаўніка.

Цікавай і плённай працы з'езду пажадаў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт — яго прывітанне зачытаў епіскап Барысаўскі, вікарый Мінскай епархіі Веніамін.

"Саюз пісьменнікаў Беларусі сцвердзіўся ў культурным жыцці народа і стаў магутным літаратурным цэнтрам, які робіць важкі ўнёсак у прапаганду духоўнасці, маральнасці", — падкрэсліў у самым пачатку сваёй справаздачы старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. І творцы гатовыя зрабіць усё, каб літаратура як частка нацыянальнай культуры развівалася паспяхова. "Таленавітае слова можа многае", — падкрэсліў Мікалай Іванавіч і заўважыў: пісьменнікі актыўна ўдзельнічаюць у культурным і грамадскім жыцці краіны, распрацоўваюць і рэалізуюць праекты і праграмы, накіраваныя на прапаганду лепшых дасягненняў айчыннага слова, ажыццяўляюць, як гэта было спрадвеку, сваю культурна-асветніцкую місію. Яны адлюстроўваюць рэчаіснасць, але варта паклапаціцца пра тое, каб люстэрка гэтае не было крывым. Пісьменнікі здольныя знаходзіць у жыцці заканамернасці. "І менавіта не на вокладкі кніг, а на змест сучаснага пісьменства трэба звяртаць увагу, калі ацэньваюцца мастацкія творы", — неаднаразова і на розных узроўнях падкрэслівае старшыня СПБ. І на з'ездзе выразна акрэслілася менавіта такая пазіцыя — як саміх літаратараў, так і гасцей.

Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка ёміста і па-дзелавому пазначыў кірункі супрацоўніцтва з творцамі. Міністэрства ініцыіравала распрацоўку нацыянальнай праграмы падтрымкі чытання. Праграма павінна знітаваць у адно цэлы комплекс мерапрыемстваў, накіраваных на папулярызацыю лепшых твораў айчыннай літаратуры, разумення важнасці чытання, далучэння да гэтага працэсу дзяцей. У фарміраванні грамадскай думкі важна ўлічваць і дзейнасць СМІ, задзейнічаць інтэрнэт-рэсурсы, парталы з тэкстамі беларускіх аўтараў, — лічыць міністр. Ён звярнуў увагу на папулярызацыю літаратурнай спадчыны за мяжой, дапамогу ў гэтым беларускіх дыяспар.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## Пункцірам

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб уручэнні дзяржаўных узнагарод 21 грамадзяніну Беларусі. Сярод іх начальнік Абразцова-паказальнага духавога аркестра Узброеных Сіл Сяргей Касцючэнка, якому нададзена званне “Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь”. Ганаровага звання “Заслужаны работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь” удастоены прафесар кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Акадэміі МУС Беларусі Аляксей Вішнеўскі.

Падзяка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з распараджэннем кіраўніка дзяржавы аб’яўлена работнікам розных сфер. Сярод іх першы намеснік старшыні Прэзідыума НАН Беларусі Пётр Віцязь, дацэнт кафедры вышэйшай матэматыкі БДУ Барыс Задворны і дэкан факультэта міжнародных адносін БДУ Віктар Шадурскі.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб узнагароджанні старшыні Цюменскай абласной грамадскай арганізацыі “Саюз — інтэграцыя брацкіх народаў”, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзіміра Шуглі ордэнам Францыска Скарыны.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў газеты “Культура” з 20-годдзем з дня выхаду ў свет яе першага нумара.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 70-годдзем загадчыка кафедрай струнных народных шчыпкова-ўдарных інструментаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі народнага артыста Беларусі Яўгена Гладкова, адзначыўшы, што юбіляр зрабіў вялікі ўнёсак у развіццё айчыннай музычнай культуры.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста РСФСР Леаніда Кураўлёва з 75-годдзем і народнага артыста Расійскай Федэрацыі Паўла Чухрая з 65-годдзем. Прэзідэнт пажадаў юбілярам здароўя, шчасця і натхнення.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка выказаў глыбокія спачуванні народнай артыстцы БССР Наталіі Гайдзе ў сувязі са смерцю яе мужа, народнага артыста Беларусі Юрыя Бастрыкава. “Яго творчасць была для многіх пакаленняў маладых спевакоў прыкладам адданага служэння сваёй справе”, — гаворыцца ў спачуванні.

У пярэдадзень з’езда Саюза пісьменнікаў Беларусі прайшоў сход Мінскай абласной пісьменніцкай арганізацыі. Сярод іншых пытанняў разглядалася і наступнае — выбары новага старшыні аддзялення. Кіраўніком творчай арганізацыі літаратараў Міншчыны абраны дырэктар РВУ “Літаратура і Мастацтва” Алесь Карлюкевіч.

Ганаровым госцем XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, якая пройдзе 8 — 12 лютага 2012 года, стане Балівaрыянская Рэспубліка Венесуэла. Пра гэта на пасяджэнні арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенні выстаўкі-кірмашу паведаміла першы намеснік міністра інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч.

Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі правяло суботнік па добраўпарадкаванні тэрыторыі ў раёне Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Акцыя праходзіла ў межах агульнагарадскога месячніка па навядзенні парадку і чысціні ў сталіцы.

**Падрыхтавала Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

# Духоўнасць як абярэг нацыі

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Міністэрства таксама зацікаўлена ў з’яўленні якаснага айчыннага кінапраекта, удалых тэатральных пастановак: “Мы чакаем ад літаратараў сцэнарыяў па гісторыі культуры, адчуваецца недахоп якасных сцэнарыяў і аўтарскай драматургіі”. Павел Паўлавіч абяцаў фінансавую падтрымку такім праектам.

Міністр адукацыі Сяргей Маскевіч выказаў спадзеў на далейшае супрацоўніцтва па арганізацыі сустрэч з пісьменнікамі і прадстаўнікамі рэдакцый літаратурных выданняў у школах, прэзентацый кніг, наведвання літаратурных музеяў краіны.

Першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч паведаміла, што рыхтуецца закон аб выдавецкай дзейнасці. Да таго ж, з 2011 года з удзелам пісьменнікаў працуе экспертны савет, дзе вызначаецца, выданне якіх кніг будзе ажыццяўляцца з дзяржаўнай падтрымкай. Зноў прагучала думка, выказаная падчас правядзення Мінскага міжнароднага кніжнага кірмашу, пра неабходнасць аб’яднання намаганняў усіх зацікаўленых, каб была прынята праграма падтрымкі чытання і кнігі.

Старшыня Цэнтральнага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў культуры Наталля Аўдзеева расказала пра тое, чым у працы творцаў можа дапамагчы іх арганізацыя.

Такім чынам, на з’ездзе з удзелам кіраўнікоў вышэйшых ведамстваў краіны акрэсліліся кірункі функцыянавання літаратуры ў агульным кантэксце развіцця адукацыі і культуры, а таксама пазначыліся дзяржаўныя падыходы да пісьменніцкай працы.

## Госці

На з’езд былі запрошаныя госці з многіх краін, з кім усталяваліся трывалыя творчыя стасункі альбо супрацоўніцтва з якімі толькі наладжваецца. Гэта старшыня Саюза пісьменнікаў Расіі, сустаршыня Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Валерый Ганічаў і намеснік галоўнага рэдактара часопіса “Наш современник” Аляксандр Казінцаў; публіцыст, старшыня таварыства імя Ю. Фучыка Ян Елінек і публіцыст, перакладчык, старшыня таварыства чэшска-беларускай дружбы Наталля Веберава з Чэхіі;



Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Азербайджанскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Ісфандзіяр Бахціяр аглы Вагабзадэ і сакратар Саюза пісьменнікаў Азербайджана Чынгіз Абдулаеў; перакладчык, публіцыст Вітаўтас Жэймантас і пісьменнік, выдавец Яронімас Лауцюс з Літвы; перакладчык Абдульвахам Зейтун, прафесар Зіяд Альвадзі, член-карэспандэнт Асацыяцыі арабскіх пісьменнікаў Ібрагім Аль-Джарадзі з Сірыі ды іншыя. Яны дзяліліся ўражаннямі ад наведвання Беларусі, узнімалі праблемы ўзаемаперакладаў, захавання і развіцця духоўнасці праз мастацкае слова.

“Я магу напісаць пра дрэннага азербайджанца (вымагае жанр, дзе заўсёды прысутнічаюць добрыя і дрэнныя), але не магу ўявіць дрэннага беларуса”, — сказаў з высокай трыбуны Чынгіз Абдулаеў, які назваў Беларусь краінай анёлаў. І адносіны да нашых людзей, да нашага народа асаблівыя.

## «Пісаць так, каб цябе чыталі»

“Даклад і выступленні, якія прагучалі на з’ездзе, сталі яскравым сведчаннем таго, што Саюз пісьменнікаў Беларусі зрабіў грунтоўны ўнёсак у інтэлектуальны падмурак нашага грамадства, далейшага ўмацавання сілавога поля духоўнасці, якое заўсёды было, ёсць і будзе абярэгам нацыі, — так пачаў сваё выступленне пісьменнік-ветэран Алесь Савіцкі, прамова якога стала адной з найбольш эмацыянальных на з’ездзе. — Хіба не на нашых вачах вытопталі з нашых душ памяць пра герояў вайны, хіба не нам крычалі, што не было гісторыі і няма чым ганарыцца?”… “Пісьменнік павінны рабіць сваю справу, — звярнуўся да паплечнікаў па пяры Алесь Ануфрыевіч. — Бо калі замоўкне мастацкае слова — замоўкне народ”. І яшчэ цытата з выступлення лаўрэата Дзяржаўнай прэміі А. Савіцкага: “Пісьменнік, пакладзі сваё сэрца, гарачыню сваёй душы на паперу, у сваю кнігу, і народ пакланіцца ёй”.

## Родная мова на сучасным этапе

З’езд выказаў заклапочанасць станам беларускай мовы ў грамадстве.

Клопат пра мову пачаўся, бадай, з пытання, адрасаванага міністру адукацыі: “Ці лічыце вы нармальным, што гісторыя Беларусі выкладаецца ў школах па-руску?” Пазней у досыць палемічным выступленні галоўнага рэдактара часопіса “Роднае слова” Зоі Падліпскай грунтоўна будзе вызначаны стан, у якім знаходзіцца мова і яе друкаваныя носьбіты цяпер, тэма рэхам паўторыцца ў шматлікіх выступленнях на трыбуне і з месцаў. А ў выніковую рэзалюцыю з’езда будзе ўнесены пункт пра тое, каб звярнуць увагу на неабходнасць павелічэння колькасці гадзін і прадметаў, выкладаемых на беларускай мове, ды прапанова аб звароце да Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь з просьбай, каб беларускамоўныя перыядычныя выданні знаходзілі больш дзейсную падтрымку з дзяржаўнага бюджэту і прысутнічалі ў бібліятэках краіны.

## Моладзь ідзе!

Па сутнасці, з’езд быў арыентаваны ў будучыню. І тым падкрэсліў свой клопат пра маладых. “ЛіМ” пісаў пра тое, што Саюзам пісьменнікаў Беларусі робіцца ў іх падтрымку: ад школ, дзе колькасць адукаваных вучняў амаль што прама прапарцыянальна колькасці запісаных у бібліятэкі дзяцей, да стыпендый маладым літаратарам, якія вырашыў і змог заснаваць СПБ, ды працы Савета па справах моладзі пры СПБ, шматлікіх іншых ініцыятыў.

Таццяна Шамякіна, Алесь Марціновіч і Ірына Шатыронак акрэслілі тое, што ўяўляе сабою сучасная крытыка, пра публіцыстыку і яе праблемы перакануча распавёў галоўны рэдактар часопіса “Белая Вежа” Васіль Шырко, акадэмік-сакратар Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксандр Каваленя заклікаў да супрацоўніцтва з навуковай грамадскасцю і назваў некалькі праектаў, якія могуць быць рэалізаваны ў бліжэйшай перспектыве. Гэта стварэнне цыклаў кніг, як “Мая малая радзіма”, “Старажытныя гарады Беларусі”, “Замкі і сядзібы”.

Рэзананс выступленняў, якія прагучалі на з’ездзе, яшчэ будзе высвечваць грані ў кожнай з узнятых тэм. Гэта таксама стала заўважным: тэмы дэталізаваліся, разглядаліся з розных бакоў.

І, зразумела, праблемы палягаюць не толькі ў тэхналогіях напісання, але і ў магутнай грамадзянскай пазіцыі тых, хто піша. З’езд жа паказаў: пісьменнікі аднадушныя ў тым, што трэба працаваць у імя роднай Беларусі.

На форуме вырашаліся і арганізацыйныя пытанні. Абраны Праўленне, Прэзідыум і Рэвізійная камісія, іншыя рабочыя органы. Старшынёй СПБ абраны Мікалай Чаргінец.

***На здымках: віцэ-прэм’ер Рэспублікі Беларусь Анатоль Тозік зачытвае прывітанне з’езду Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі; начальнік Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Усевалад Янчэўскі, віцэ-прэм’ер Рэспублікі Беларусь Анатоль Тозік і старшыня грамадскага аб’яднання “Саюз пісьменнікаў Беларусі” Мікалай Чаргінец дзеляцца ўражаннямі ад з’езда.***

## Афіцыйна

**На II з’ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі было абрана Праўленне СПБ. На яго першым пасяджэнні выбраны Прэзідыум. Склад Праўлення і Прэзідыума зацверджаны з’ездам.**

**Праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі**

Чаргінец Мікалай Іванавіч
Пашкоў Генадзь Пятровіч
Марчук Георгій Васільевіч
Пазнякоў Міхаіл Паўлавіч
Трахімёнак Сяргей Аляксандравіч
Марціновіч Алесь Андрэевіч
Баравікова Раіса Андрэеўна
Грышкавец Валерый Фёдаравіч
Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч
Карлюкевіч Алесь Мікалаевіч
Бадак Алесь Мікалаевіч
Саковіч Павел Паўлавіч
Гусачэнка Тамара Іванаўна
Кебіч Людміла Антонаўна
Гаўрыловіч Уладзімір Мікалаевіч
Крэйдзіч Анатоль Мікалаевіч
Дуктаў Уладзімір Уладзіміравіч
Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч
Ліпскі Уладзімір Сцяпанавіч
Праўдзін Віктар Аляксандравіч
Савіцкі Алесь Ануфрыевіч
Скарынкін Уладзімір Максімавіч
Саламаха Уладзімір Пятровіч
Глушакоў Уладзімір Сцяпанавіч
Дзялендзік Анатоль Андрэевіч
Карызна Уладзімір Іванавіч
Каршукоў Яўген Іванавіч
Сульянаў Анатоль Канстанцінавіч
Лукашанец Аляксандр Аляксандравіч
Казлоў Анатоль Сяргеевіч
Паліканіна Валянціна Пятроўна
Сакалоў Аляксандр Іванавіч
Камейша Казімір Вікенцьевіч
Сівец Таццяна Мікалаеўна
Гігін Вадзім Францавіч
Падліпская Зоя Іванаўна
Прыгодзіч Зіновій Кірылавіч
Шырко Васіль Аляксандравіч
Шамякіна Таццяна Іванаўна
Чарота Іван Аляксеевіч
Башлакоў Міхаіл Захаравіч
Антановіч Славамір Валяр’янавіч
Навумовіч Уладзімір Аляксандравіч
Нілаў Канстанцін Рыгоравіч
Мусіенка Сяргей Рыгоравіч
Левановіч Леанід Кірэевіч
Спрынчан Вадзім Браніслававіч
Чайка Ніна Цімафееўна
Шабовіч Мікалай Віктаравіч
Саверчанка Іван Васільевіч
Зарэцкая Юлія Францаўна
Мачульскі Уладзіслаў Антонавіч
Чарота Аляксей Іванавіч
Цяўлоўскі Андрэй Канстанцінавіч
Малахоўскі Рагнед Юр’евіч

**Прэзідыум Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

Чаргінец Мікалай Іванавіч
Пашкоў Генадзь Пятровіч
Марчук Георгій Васільевіч
Пазнякоў Міхаіл Паўлавіч
Карлюкевіч Алесь Мікалаевіч
Карызна Уладзімір Іванавіч
Савіцкі Алесь Ануфрыевіч
Сульянаў Анатоль Канстанцінавіч
Сівец Таццяна Мікалаеўна
Шамякіна Таццяна Іванаўна
Гусачэнка Тамара Іванаўна
Крэйдзіч Анатоль Мікалаевіч
Дуктаў Уладзімір Уладзіміравіч
Кебіч Людміла Антонаўна
Гаўрыловіч Уладзімір Мікалаевіч
Бадак Алесь Мікалаевіч
Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч
Навумовіч Уладзімір Аляксандравіч
Чарота Аляксей Іванавіч
Марціновіч Алесь Андрэевіч
Чайка Ніна Цімафееўна
Праўдзін Віктар Аляксандравіч
Цяўлоўскі Андрэй Канстанцінавіч

Літабсягі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

# Ушанаванне маці

**У межах духоўна-асветніцкай выстаўкі "Пакроўскі кірмаш", дзевяцідзённага свята, якое праходзіла ў Мінску па блаславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта, адбылася вечарына паэзіі "Пад покрывам любові мацярынскай". Яе арганізатарамі выступілі Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і газета "Воскресение".**

На працягу васьмі гадоў — а менавіта столькі часу ўжо існуе традыцыя ладзіць напярэдадні хрысціянскага свята Пакроваў Багародзіцы "Пакроўскі кірмаш" — пісьменнікі Беларусі, а разам з імі і музыканты, мастакі, тэатральныя дзеячы, кінематаграфісты, актыўна прымаюць удзел у шматдзённай духоўна-асветніцкай праграме свята. У гэтым годзе "Пакроўскі кірмаш" прадставіў наведвальнікам аж но тры мастацкія экспазіцыі — карціны члена Саюза мастакоў Беларусі Уладзіміра Чарнышова; фотавыстаўку Сяргея Міхайлава "Божы свет", выстаўку работ асацыяцыі глухіх мастакоў "Арта". У разважаннях на тэму "Духоўная спадчына святых Пятра і Фяўроніі ў сучасным грамадстве" акрамя асоб духоўнага звання прымалі ўдзел пісьменніца Алена Міхаленка, рэжысёр-аніматар Ірына Кадзюкова, оперны спявак Міхаіл Жылюк. Прайшлі прэзентацыі дзіцячых кніг з удзелам пісьменнікаў Барыса Ганага і Аляксея Клімава, творчая сустрэча з паэткай Таццянай Дашкевіч, вечар памяці паэта Веніяміна Блажэнага. Але самым насычаным па праграме і самым шматлюдным стаўся паэтычны вечар "Пад покрывам любові мацярынскай".

Упершыню ў мерапрыемстве духоўна-рэлігійнага кірунку была так моцна і шматпланава прадстаўлена сучасная беларуская паэзія. Напярэдадні дзяржаўнага свята Дня Маці, якое толькі ў Беларусі супадае з праваслаўнымі Пакровамі Багародзіцы, са сцэны канферэнц-залы Палаца мастацтваў паэты разважалі пра мацярынства, прыгадвалі сваіх маці — і чыталі самыя пранікнёныя, самыя добрыя вершы.

Светла і ўзвышана распавядала пра цуд усёдаравальнага мацярынства Валянціна Паліканіна. Матчына хата, якая і пасля сыходу гаспадыні сваёй працягвае захоўваць яе цяпло і чакаць любага сына, паўстала перад прысутнымі дзякуючы вершам Міхася Пазнякова. Ала Чорная прымусіла узгадаць, што бабуля — таксама маці. А Уладзімір Мазго — задумацца над тым, што мачыха, якая прыняла чужое дзіця да сэрца як роднае, атрымоўвае права называцца другой маці. Алена Міхаленка чытала вершы пра жанчын, якія, добраахвотна адмовіўшыся ад права нараджаць дзяцей і абраўшы шлях манаства, пераварыліся ў "матушак" — добрых маці для ўсіх, хто мае патрэбу ў парадзе і суцяшэнні. Пра жаночы лёс разважалі ў сваіх вершах Святлана Яўсеева, Вольга Сакалова, Лізавета Палеес, а маладая паэтка Марына Лайкова ўразіла публіку прыгожым выкананнем вершаў пад гітару.

Паэтычна-музычная імпрэза не пакінула нікога з прысутных абыякавым. Слова паэтаў слухалі з заміраннем сэрца і ад усёй душы апладзіравалі.



*На здымку: свае вершы чытае Валянціна Паліканіна.*

Артлінія

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

# Прыцягненне агню

**Выстаўка "Кола агню" ў сталічнай мастацкай галерэі "Універсітэт культуры" прадставіла публіцы вынік артпраекта, які штогод набывае ўсё большую папулярнасць і ў саміх творцаў, і ў аматараў эксклюзіўнай аўтарскай керамікі.**

Дзявяты па ліку міжнародны пленэр па кераміцы "Арт-Жыжаль" праходзіў у наваколлі Чыгірынскага вадасховішча — на базе Дома рыбака СВК "Рассвет" імя К. Арлоўскага. Удзельнікамі праекта, вядомага ўжо далёка за межамі Беларусі, былі 23 аднадумцы з 10 краін. Апроч нашых суайчыннікаў ля рытуальнага творчага агню "Арт-Жыжаля" гэтым разам сабраліся іх калегі з Балгарыі, Казахстана, Латвіі, Літвы, Малдовы, Польшчы, Расіі, Турцыі, Украіны. Заснавальнікі пленэру — Магілёўскі аблвыканкам і Бабруйскі гарвыканкам. Арганізатары — аддзел культуры Бабруйскага гарвыканкама, Бабруйскі мастацкі музей імя Г. Паплаўскага ды гарадская арганізацыя Беларускага саюза мастакоў. А нязменны кіраўнік "Арт-Жыжаля" — віртуоз керамікі, вядомы педагог, бабруйчанін Валерый Калтыгін. Сёлета ўдзельнікам пленэру была прапанавана значная і адказная ў сваёй канкрэтнай, прыкладной сутнасці тэма: "Кераміка ў архітэктурнай прасторы". Таму плёнам 22-дзённага шчыравання керамістаў ля адкрытага агню сталіся не толькі іх індывідуальныя творчыя эксперыменты і знаходкі з выкарыстаннем старажытных беларускіх тэхналогій апрацоўкі гліны, але і работы, створаныя ў адпаведнасці з вызначанымі параметрамі — для афармлення пэўнага інтэр'ера.

Праца азнаменавалася вернісажам новых твораў у Бабруйскім мастацкім музеі імя Г. Паплаўскага. А затым плён творчага натхнення майстроў (або іх творчага гарэння, або малення старажытнаму беларускаму паганскаму богу агню — Жыжалю, апекуну мастакоў-керамістаў!) пабачылі і ў Мінску. Фантастычны "Карабель" маладога беларускага майстра Максіма Калтыгіна; напоўнены гумарам і дабрынёй бальшагаловы "Сабака" бабруйчаніна Алега Ткачова; карункава-крохкая і трапяткая, нібы жывая марская істота, сфера пад назваю "Адзінства ў разнастайнасці", выштукаваная латвійскай мастачкай Элінай Цітане; "Чайнікі" студэнта ВДУ Рамана Чыгірова — "сямейства" дэкаратыўнага посуду з кідкімі чырвонымі акцэнтамі; тры кранальныя і непаўторна афарбаваныя ўзорыстыя лісточкі — кампазіцыя "Дуб", створаная Кемалем Цізголем, доктарам філасофіі факультэта вытанчаных мастацтваў з турэцкага горада Кампус-Анталія... Багацце ідэй, формаў, фактур, фарбаў!

Выстаўка ўдзельнікаў "Арт-Жыжаля" ўпершыню суправаджалася паказам відэафільма. Дзякуючы гэтым рэпартажным здымкам яе наведвальнікі ўлучаліся ў "Кола агню", спрычыняліся да імправізаванага майстар-класа і шукалі сакрэт ажыўлення звычайнай гліны.



*На здымку: Алег Ткачоў "Каланізацыя".*

Повязі

# Чорна-белая магія

**Усё новыя выбітныя падзеі адбываюцца ў межах грандыёзнай міжнароднай культурнай праграмы "I, CULTURE", якой Рэспубліка Польшча адзначае сваё сёлетняе старшынства ў Еўрасаюзе. У чарадзе заўважных артпраектаў — манаграфічная выстаўка Зоф'і Хамянтоўскай "Паміж кадраў. Фатаграфіі з 1925 —1945 гадоў", зладкаваная Міністэрствам культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы, фондам "Археалогія фатаграфіі" ў партнёрстве з Польскім інстытутам у Мінску ды Нацыянальным гістарычным музеем Рэспублікі Беларусь, дзе і размясцілася экспазіцыя.**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

Дзякуючы кампетэнтным каментарыям і лекцыям нашых гасцей — спецыялістаў фонду "Археалогія фатаграфіі", які ўжо чацвёрты год займаецца апрацоўкай спадчыны Зоф'і Хамянтоўскай, мінчане адкрылі для сябе яркую асобу XX стагоддзя. Постаць, адметную не толькі для польскай культуры, бо і нараджэннем сваім, і жыццём, і дзейнасцю Зоф'я Хамянтоўска спрычыненая да ўнікальнага асяродка, які сёння завецца Беларускім Палессем, — дзівоснага каларытнага краю, дзе яшчэ да 1940-х захоўваліся даўнія і моцныя жыццёвыя, пабытавыя, міжэтнічныя, міжканфесійныя повязі між палешукамі: беларусамі, палякамі, украінцамі, яўрэямі... А яшчэ мы адчулі магію яе творчасці, у якой спалучаецца строгая аб'ектыўнасць гістарычнага дакумента і крэатыўнасць індывідуальнага, мастакоўскага, захопленага погляду на рэчаіснасць.

Зоф'я Хамянтоўска (1902, Парахонск — 1991, Буэнас-Айрэс), член элітарных фатаграфічных таварыстваў міжваеннай Польшчы, хаця і нарадзілася ў шляхетнай сям'і, гадавалася ў ваколіцах Пінска і з маленства захоплена прыглядалася да жыцця простых палешукоў. Іх побыт, звычаі; сцэнкі на кірмашах; штодзённыя справы рыбакоў, гандляроў, паляўнічых, местачковых жанчын; каларытнае асяроддзе былі крыніцай натхнення для яе. Пазней, жывучы і працуючы ў Варшаве, З. Хамянтоўска пашырыла тэматычны і жанравы абсяг сваіх фотаздымкаў. Пры канцы 1940-х яна разам з дачкой і сынам эмігравала ў Аргенціну, дзе перастала прафесійна займацца фатаграфіяй.

У мінскую экспазіцыю ўвайшлі пераважна здымкі Палесся, а таксама Варшавы: даваенный, зруйнаванай падчас вайны, у першыя гады аднаўлення. Прэзентаваныя на выстаўцы матэрыялы (экспазіцыя твораў фатографа; манаграфічнае альбомнае выданне ў польска-англійскай і польска-беларускай моўных версіях — першая даследчая, багата ілюстраваная, кніга пра З. Хамянтоўскую) — своеасаблівая прэм'ера. У Мінску экспазіцыя працуе да 13 лістапада, затым пераедзе ў Пінск — бліжэй да малой радзімы фотамастачкі. А ўжо ў 2012-м выстаўку плануецца ўпершыню паказаць у Польшчы.



*На здымку: палешукі-местачкоўцы 1930-х гадоў у аб'ектыве Зоф'і Хамянтоўскай.*

З-пад пяра

20 кастрычніка ў Кіеве адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця помніка Уладзіміру Караткевічу. У ёй узялі ўдзел Міністр культуры Беларусі Павел Латушка і Міністр культуры Украіны Міхаіл Кулыняк, дзеячы культуры і мастацтва Беларусі і Украіны. З нагоды адкрыцця помніка ў Кіеўскім нацыянальным універсітэце прэзентавана спецыяльнае выданне кнігі Уладзіміра Караткевіча "Дзікае паляванне караля Стаха" на чатырох мовах — беларускай, рускай, украінскай, англійскай, — прымеркаванае да 80-годдзя з дня нараджэння пісьменніка, якое адзначалася ў 2010 годзе.

**Прэс-служба
Міністэрства культуры РБ**

У Доме Дружбы прайшоў III Конкурс вусных выступленняў на карэйскай мове сярод студэнтаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Конкурс праводзіцца раз на два гады па ініцыятыве Пасольства Рэспублікі Карэя ў Рэспубліцы Беларусь, і прымеркаваны ён да Дня Хангыля — гістарычнага свята стварэння ў XV ст. каралём Сечжонам сістэмы карэйскай пісьменнасці. У гэтым годзе свае выступленні на тэму карэйскай мовы, культуры, традыцый, нацыянальнай кухні прапанавалі 14 беларускіх студэнтаў. А пераможцамі сталі Ірына Найпак (3 месца), Ар'ян Аскары (2 месца) і Антон Лупанаў (1 месца).

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

Вёска Бабовічы Гомельскага раёна для Анатоля Зэкава — не проста кропка на карце. Тут ён неаднаразова бываў падчас колішняй працы ў рэдакцыі раённай газеты "Маяк". Яшчэ і дагэтуль жывуць некаторыя з тых вяскоўцаў, якія напрыканцы 70-х гадоў мінулага стагоддзя сталі героямі газетных публікацый журналіста. Ёсць згадкі пра гэты кут і ў яговых вершах. Вучні і настаўнікі мясцовай сярэдняй школы атрымалі цудоўную магчымасць паслухаць успаміны паэта пра час, калі ён хадзіў па гэтай зямлі, а таксама яго вершы. Выступленне Анатоля Зэкава арганічна дапоўнілі яго калегі па пяры — Васіль Ткачоў з Гомеля і мясцовы паэт Аляксандр Бардоўскі.

**Лізавета ШЫЛАЙ**

"Мой любімы Рагачоў" — пад такой назвай выйшаў з друку фотаальбом, які расказвае пра гісторыю, справы і людзей аднайменнага горада і раёна. У выдатна афармленай кнізе змешчана амаль сотня фотаздымкаў і шмат цікавага для краязнаўцаў. Значная частка матэрыялаў прысвечана сучаснасці: расказваецца пра развіццё народнагаспадарчага комплексу Рагачоўшчыны. Можна пазнаёміцца і з памятнымі мясцінамі краю, і з рэкламай прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў горада.

**Міхась КАВАЛЁЎ**

Супрацоўнікі Літаратурнага музея Петруся Броўкі кожную суботу да 20 лістапада запрашаюць бацькоў з дзецьмі малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту ў займальнае падарожжа, скіраванае ў якое можна з дапамогай інтэрактыўнага пуцяводніка "Звычайныя рэчы незвычайнага чалавека". Удзельнікі праекта павінны прайсці ўвесь маршрут — пяць літаратурных музеяў Мінска — каб атрымаць дыплом нястомнага падарожніка. А завершыцца праект выбарам сям'і-пераможцы, якая атрымае галоўны прыз — паездку ў Белавежскую пушчу, у рэзідэнцыю Дзеда Мароза.

**Віктар ЗАЯЦ**

# Ракурс

**З'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі стаў сапраўднай падзеяй не толькі для беларускіх літаратараў, але і для нашых замежных калег. Сваімі думкамі пра форум, пытанні, якія на ім абмяркоўваліся, і сучасны літаратурны працэс дзеляцца дэлегаты з'езда і яго госці.**



**Валянціна ПАЛІКАНІНА, паэтэса:**

— Прыемна, што на нашым пісьменніцкім з'ездзе прысутнічалі замежныя госці, гаварылася пра развіццё міжнародных кантактаў, сумесныя праграмы папулярызацыі сучаснай літаратуры. Цяжка пераацаніць важнасць міжнароднага прызнання для сучаснага пісьменніка. А яно пачынаецца з апублікавання яго твора за мяжой. Што для гэтага трэба? Безумоўна, добры пераклад і — зацікаўленасць замежнага выдавецтва. Але самастойна наладзіць міжнародныя кантакты сёння цяжка. Добра, калі гэты клопат возьме на сябе наш Саюз пісьменнікаў. Пабольш ладзіць творчых сустрэч літаратараў розных краін, накіроўваць нашых аўтараў для ўдзелу ў міжнародных форумах і запрашаць "замежнікаў", скажам, прадстаўнікоў выдавецтваў, да нас. Прапагандаваць творы беларускіх аўтараў ва "ўсясветным павуцінні". Можна ініцыяваць з творчымі саюзамі іншых краін праекты ўзаемавыдання твораў сучасных літаратараў. Нашы — за мяжой, іх — у Беларусі. Гэта будзе цікава не толькі беларускім пісьменнікам, але і беларускаму чытачу.



**Чынгіз АБДУЛАЕЎ, сакратар Саюза пісьменнікаў Азербайджана, віцэ-прэм'ер азербайджанскага ПЕН-клуба:**

— Самыя лепшыя ўражанні ад з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі! Сапраўды, гэта цудоўна, што ў краіне такое паважлівае стаўленне да вашага творчага саюза, да пісьменнікаў увогуле — прысутнічалі і міністр культуры, і міністр адукацыі, і намеснік міністра інфармацыі! Увогуле, гэтак павінна быць паўсюль і заўжды. Пісьменнікі — гэта пасрэднікі паміж Богам і людзьмі. Яны выражаюць ментальнасць свайго народа, распавядаюць пра яго спадзяванні і патрэбы. Пісьменнікі — лепшыя праваднікі ідэй. І безумоўна, такія адносіны да пісьменнікаў, як у Беларусі, могуць толькі радаваць і ўражваць. У Азербайджане таксама шануюць літаратараў. Мала таго, мы — адзіная краіна, дзе Саюз пісьменнікаў захаваўся такім, як быў у часы СССР. Наша творчая арганізацыя цалкам фінансуецца з дзяржаўнага бюджэту. Мы выдаём 11 часопісаў і газет. Нашы аўтары атрымліваюць вартыя ганарары — ад 1 да 1000 долараў за кнігу. Гэта — заслуга Гейдара Аліева, нашага першага прэзідэнта. Гэта ён прыняў рашэнне ўзяць Саюз пісьменнікаў з усімі яго структурамі на дзяржаўны баланс. Кожны год 70 азербайджанскіх пісьменнікаў атрымоўваюць спецыяльную прэмію ў памеры да 500 долараў, а ўсе народныя паэты і пісьменнікі Азербайджана маюць асобую Прэзідэнцкую пенсію — 1,5 тысячы долараў у месяц незалежна ад таго, дзе яны працуюць ці якая ў іх яшчэ ёсць пенсія. Віцэ-прэм'ер па культуры ў нас — пісьменнік, многія міністры — літаратары, у Парламенце 15 пісьменнікаў. І ўвесь горад Баку — па сутнасці помнік вялікім паэтам і празаікам Азербайджана. Нягледзячы на такое надта паважлівае стаўленне да пісьменнікаў, мы перажываем сёння, як і іншыя народы свету, вялікую праблему — сярэднестатыстычны азербайджанец перастае быць актыўным чытачом. Аднак, калі спытацца, наколькі ведае і чытае сярэдні амерыканец, француз ці то англічанін сваю нацыянальную літаратуру, давялося б, пэўна, канстатаваць яшчэ больш сумны вынік. Веру, што ўсё ж такі сітуацыя пераменіцца. Дзеля гэтага мы, пісьменнікі, і працуем, дзеля гэтага выдаём кнігі і збіраемся на сходы.



**Андрэй АНТОНАЎ, член Ленінградскай абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі, намеснік старшыні Расійска-Беларускага брацтва:**

— Для нас, літаратараў Расіі, з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі — таксама падзея. Бо разам з беларускімі калегамі мы стварылі пісьменніцкую арганізацыю Саюзнай дзяржавы і імкнёмся ўсяляк падтрымліваць літаратурныя і сяброўскія сувязі. Відавочна, што за пяць гадоў у вас зроблены дастаткова істотныя крокі наперад. Бачная падтрымка дзяржавы, бачная праца кіраўніцтва СПБ, бачныя намаганні старшыні Мікалая Чаргінца ўзняць пісьменніцкі статус у краіне і дадаць вагі пісьменніцкаму слову. А гэта сёння надта важна. Бо мы маем справу з агульнай тэндэнцыяй вульгарызацыі літаратуры. Гэта характэрна і для нашага Санкт-Пецярбурга, і для Масквы, Кіева, Мінска, якія заўжды лічыліся славянскімі інтэлектуальнымі цэнтрамі, і ў такой жа ступені для правінцыі. Безумоўна, на кніжных паліцах магазінаў прысутнічае і правераная часам кніжная класіка, і сур'ёзныя, густоўныя творы сучаснікаў. Але гэтая літаратура не заўжды запатрабаваная чытачом. У Расіі больш чытаюць Данцову, Марыніну, кнігі лёгкага жанру. Але дасведчаны чытач дакладна існуе. І пра гэта гаворыць тое, што і сёння даволі ахвотна людзі ідуць на сустрэчы з вядомымі літаратарамі і самі спрабуюць сябе ў літаратуры. Прыемна адзначыць, што ў Санкт-Пецярбургу і Ленінградскай вобласці паспяхова існуюць літаратурныя аб'яднанні. Народ збіраецца, імкнецца да сустрэч з аднадумцамі, абмяркоўвае вершы і прозу. У такім асяроддзі выспяваюць таленты, якія пасля ўваходзяць і ў прафесійныя пісьменніцкія арганізацыі. Моладзі, якая імкнецца ў літаратуру, няшмат, але яна ёсць. Маладыя дзяўчаты і хлопцы ствараюць удалыя літаратурныя творы, спалучаючы з творчасцю працу па асноўнай спецыяльнасці. Бо, на жаль, у нас няма сёння падстаў для таго, каб пісьменніцтва стала прафесіяй.



**Ібрагім АЛЬ-ДЖАРАДЗІ, член выканаўчага камітэта Саюза Арабскіх пісьменнікаў:**

— Прыемна было падчас з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі пабачыць тых, хто сёння робіць беларускую літаратуру, хаця кніг выстаўлена было няшмат, і гэта крыху засмучала. Наогул тэма прэстыжнасці пісьменніцкай працы, якая была ўзнята нашымі беларускімі калегамі, актуальная не толькі ў вашай краіне. Наш Саюз пісьменнікаў узнік у Сірыі як уласна сірыйскае творчае аб'яднанне. Аднак з-за таго, што ў іншых арабскіх краінах такіх саюзаў не было, мы агаварылі магчымасць для ўступлення аўтараў іншых арабскіх краін. Цяпер Саюзы пісьменнікаў створаны шмат дзе, але ўсё роўна мы прымаем у свае шэрагі пісьменнікаў розных краін.

Доўгі час членства ў Саюзе арабскіх пісьменнікаў было справай прэстыжу і гонару. І гэта стала выглядаць прыцягальна для людзей, якія займаюцца палітыкай, а таксама для людзей, добра забяспечаных матэрыяльна. Яны скарысталі свае магчымасці, каб увайсці ў пісьменніцкае кола, не маючы пры гэтым ніякіх асаблівых літаратурных здольнасцей. І гэта значна панізіла планку прафесійнасці. Тым не менш членства ў Саюзе пісьменнікаў дагэтуль надае вагу чалавеку ў нашым грамадстве. Прыходзіць шмат таленавітай моладзі.



**Уладзімір ВАСІЛЕНКА, паэт, празаік:**

— Самае яркае маё ўражанне ад II з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі супадае з тым, чаму па-добраму пазайздросцілі з трыбуны выступоўцы — госці з Расіі, Азербайджана і Літвы, — прысутнасць на з'ездзе міністраў і іншых афіцыйных асоб. Дыялог, які вёўся паміж кіраўніцтвам саюза і лідарамі выканаўчай улады краіны, а таксама прынятыя на базе гэтага дыялогу Палажэнні Рэзалюцыі з'езда, дазваляюць спадзявацца на ўзмацненне дзяржаўнай падтрымкі нашага саюза і на змяненне з гэтай нагоды сітуацыі на кніжным рынку краіны на карысць сур'ёзнай літаратуры. У асабістых зносінах з дэлегатамі з'езда прыемным адкрыццём для мяне стала наяўнасць у нашых пісьменніцкіх колах людзей, якія глыбока адчуваюць час, знаёмых з апошнімі дасягненнямі сучаснай навукі, што мяне як выхадца з акадэмічнага асяроддзя парадавала: і Талстой, і Дастаеўскі ведалі дасягненні сучаснай ім навукі, што бачна з іх тэкстаў.



**Вітаўтас ЖЭЙМАНТАС, член Саюза пісьменнікаў Літвы і Саюза пісьменнікаў Беларусі:**

— Літаратурныя праблемы ў літоўскіх і беларускіх пісьменнікаў падобныя: ганарары, тыражы, цяжкасці з надрукаваннем у літаратурных выданнях, пошукі "свайго" чытача. Але як бы цяжка і напружана ні было нам сёння, пісьменнік усё роўна застанецца пісьменнікам. Жаданне быць літаратарам — гэта, пэўна, дзесьці ўнутры чалавека, і я думаю, кожны час ад часу спрабуе штосьці напісаць, але не кожнаму гэта ўдаецца. Урэшце, у нас кажуць: ёсць людзі, якія народжаны быць архітэктарамі, урачамі. Гэтаксама і пісьменнікамі.

Праблемы падобныя, але стаўленне да іх у нашых краінах рознае. З белай зайздрасцю глядзеў падчас з'езда на Прэзідыум. Каб на наш пісьменніцкі з'езд сабралася так многа афіцыйных асоб! Такога ў нас няма. Ды і сам з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі праходзіў канструктыўна, дыскусійна, але добразычліва. Мне падабалася, што людзі шчыра кажуць пра тое, што ім баліць.

А мне асабіста баліць тое, што два нашыя народы, якія доўгі час мелі так шмат агульнага, цяпер страчваюць сувязі і ўжо так мала ведаюць адзін пра аднаго. Нам моцна перашкаджае моўны бар'ер, пераадолець яго можна было б з дапамогай перакладчыкаў. Але ў нас у Літве нідзе не знойдзеш нават літоўска-беларускага ці то беларуска-літоўскага слоўніка. Англа-літоўскі, франка-літоўскі, латвійска-літоўскі і нават літоўска-старажытнагрэчаскі — ёсць. А слоўнікаў, якія б дапамаглі ў зносінах з бліжэйшым суседам, — няма. Пахадзіўшы па беларускіх крамах, упэўніўся, што і тут няма неабходных слоўнікаў. Купіў беларуска-рускі, каб займацца перакладам на літоўскую мову твораў сучасных беларускіх аўтараў. Я ўжо працаваў з тэкстамі Георгія Марчука, Лідзіі Арабей, аўтаркі цікавай кнігі пра беларускую пісьменніцу Цётку. У Літве запатрабавана літаратура пра дзеячаў сусветнай культуры, якія жылі і працавалі на нашай зямлі. Таму кніга пра Алаізу Пашкевіч сёння патрэбная нашаму чытачу. А наогул я, вывучаючы беларуска-літоўскія літаратурныя сувязі, зрабіў для сябе адкрыццё. Аказваецца, каля 40 перыядычных выданняў на беларускай мове ў розныя часы выдаваліся ў нашым Вільнюсе. Усе класікі беларускай літаратуры мелі ў сваёй біяграфіі "віленскі перыяд". Дык хіба ж можна, каб сувязі гэткія перарваліся!

## Віншуем



Ва ўрачыстай абстаноўцы, падчас з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі, лепшым майстрам слова былі ўручаны ўзнагароды. Прыемна, што сярод тых, хто выходзіў на святочную сцэну, і наша калега, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Ірына Масляніцына. Яна ўзнагароджана нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі". Ірына працавала ў розных выданнях, а цяпер яна — аглядальнік газеты "Літаратура і мастацтва". Акрамя журналісцкай дзейнасці Ірына піша кнігі ў жанры гістарычнай публіцыстыкі, стварае п'есы. Яна — аўтар кніг "Млын на сямі колах. Беларускія паданні і легенды", "Кавалеры і дамы беларускага рэнесансу", "Па рыцарскіх законах", "Летапісцы распавядаюць пра каханне", "Век сентыментальных пісем", многія — у суаўтарстве з Мікалаем Багадзяжам ("Слава і няслаўе", "Радзівілы — нясвіжскія каралі", "Радзівілы ў эпоху інтрыг і аванцюр", "Жанчыны, найбольш знакамітыя ў гісторыі Беларусі", "Беларусь далетапісная") і іншых. Віншуем з высокай узнагародай і жадаем плёну, новых цікавых задум і іх здзяйснення!

# Маці Юрыя Алешы шмат гадоў чакала сына ў Гародні

**Упершыню пра тое, што імя Юрыя Алешы, аўтара шырокавядомай казкі "Тры таўстуны", звязана з Гародняй, я пачула ад выкладчыка ГрДУ імя Янкі Купалы Валерыя Чарапіцы. Ён выявіў гэта ва ўспамінах пісьменніка Уладзіміра Лідзіна, з якіх вынікала, што ў 1939 годзе бацькі Алешы жылі ў Гародні, у кватэрцы пры гасцініцы, дзе служыў бацька Юрыя.**

**Таццяна НІКІЦІНА,**
**Гародня,**
**фота аўтара**
**і з архіва Юрыя Алешы**

## Таямніца старой сядзібы

Вядома, што ў 1922 годзе бацькі Алешы эмігрыравалі ў Польшчу з Адэсы, дзе прайшлі дзяцінства і юнацтва пісьменніка. А іх адзіны сын Юрый (яго сястра Ванда памерла ад тыфу), у той час паэт-пачатковец, зрабіў лёсавызначальны выбар: адмовіўшыся ехаць з бацькамі, накіраваўся ў Маскву ўслед за дзяўчынай, без якой не ўяўляў свайго жыцця. Так, па словах Алешы, скончылася яго мінулае. А прозвішча ўмілаванай Сімы Суок стала імем галоўнай гераіні "Трох таўстуноў". Пасля таго як Сіма яму здрадзіла, Юрый ажаніўся з яе сястрой Вольгай.

Акрамя скупых радкоў Лідзіна і знойдзеных мясцовымі гісторыкамі звестак пра бацьку Алешы, які ў даваенны час быў упраўляючым у гасцініцы "Еўрапейская", меў славу заўзятага карцёжніка і прайграў усю маёмасць, пакінуўшы жонку без сродкаў да існавання, нічога больш пра гарадзенскі перыяд жыцця бацькоў пісьменніка вядома не было. Гасцініца "Еўрапейская" была разбураная падчас бамбардзіровак, на яе месцы цяпер знаходзіцца ўнівермаг.

Але нядаўна, дзякуючы артыкулу філолага з Ізраіля Ларысы Гарбар, раней жыхаркі Гародні, стала вядома, дзе менавіта пасля вайны жыла маці Юрыя Алешы. Высветлілася, што жыла няпростая бабулька на маёй вуліцы, у хаце насупраць, і я не раз яе бачыла! Але яшчэ лепш памятаюць пані Алешу яе былыя суседзі Марына Мажарова, Людміла Рамашкан і Уладзімір Калеснік — старажылы цаглянага дома на вуліцы Міцкевіча. Паводле іх слоў, заўсёды акуратна апранутая бабулька з ціхім голасам, якая жыла на першым паверсе, была інтэлігентнай, начытанай дамай, ведала некалькі еўрапейскіх моў, выдатна грала на піяніна і любіла пасядзець на зэдліку перад парадным уваходам. Жыла яна ў поўнай адзіноце, а звалі яе Вольга Уладзіславаўна.

Пры выпадку пажылая таварыская дама напаўголаса распавядала, што яна з багатага польскага роду, што ў сям'і быў свой герб, вялікая хата і экіпаж. Што ў маладосці яна добра малявала і падавала надзеі як мастачка. А яшчэ, збянтэжана дадавала сівавалосая пані, у яе было шмат прыхільнікаў. Пані Алеша частавала суседскіх дзетак цукеркамі і гарбатай у сваім таямнічым пакоі, дзе зачароўвалі велізарнае, пад столь, люстэрка ў цёмнай раме, старадаўняе крэсла, высокая разьбяная камода і партрэт прыгожай дамы ў шыракаполым капелюшы, які вісеў над ложкам. Дзеці ведалі, што сын бабулькі — пісьменнік, аўтар добра знаёмай ім казкі "Тры таўстуны", і думалі, што калі-небудзь убачаць і яго самога, бо павінен жа ён прыехаць у госці да мамы!

## Доўгая дарога да маці

Ці прыязджаў Юрый Алеша калі-небудзь у Гародню, дакладна не ведае ніхто. А раптам? Ва ўспамінах Барыса Ямпольскага пра Алешу сустрэла фразу, што дае надзею: "Ніколі ён не выязджаў далей Гародні". Значыць, усё-такі быў?!

Паасобку яны перажылі не толькі час, калі бацькі апынуліся ў буржуазнай Польшчы, а Юрый — у Маскве, але і ваенныя гады, якія Алеша з жонкай правялі ў эвакуацыі ў Ашхабадзе, а Вольга Уладзіславаўна і Карл Антонавіч — у акупаванай немцамі Гародні. У архіўных матэрыялах я знайшла, што бацька пісьменніка памёр у жніўні 1944-га ад раны, атрыманай пры разрыве бомбы. Юрый і Вольга вярнуліся ў Маскву з эвакуацыі ў 1946-м. Дык няўжо і пасля кровапралітнай вайны Юрыю не хацелася на свае вочы ўбачыць маці? Але пасляваенныя суседзі Вольгі Уладзіславаўны нічога не ведаюць пра гэтую сустрэчу і сына яе ніколі не бачылі. Магчыма, Юрый прыязджаў да вайны?..

Я працягвала шукаць хоць нейкія сведчанні яго вандроўкі ў Гародню. І аднойчы даведалася, што ў Расійскім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва ў фондзе Юрыя Алешы сярод дакументаў, рукапісаў і фотаздымкаў захоўваецца і яго перапіска з маці. Аказалася, ён і яна асцярожна захоўвалі лісты адно аднаго пачынаючы з 1924 года! Ды гэта ж сапраўдны скарб!

За два дні працы ў маскоўскім архіве я прагна прачытала ўсе 58 лістоў, ад радка да радка, горача спадзеючыся выявіць хоць нейкую згадку пра паездку Алешы ў Гародню і сустрэчу з маці. З лістоў і тэлеграм вынікала, што грошы ў Гародню ён дасылаў рэгулярна і пры выпадку нават перадаваў са знаёмымі пасылкі з Масквы.



*Вольга Алеша (справа) з сястрой у Гародні, на лесвіцы, што вядзе да Нёмана.*

У снежні 1939-га Юрый пісаў маці, мабыць, тлумачачы, чаму не змог паехаць у Заходнюю Беларусь і Гародню з групай пісьменнікаў: "Пісаў сцэнарый да 20-годдзя савецкага кіно і не мог з'ехаць з Масквы, стасаваўся з рэжысёрамі. Як толькі скончу гэтую працу — прыкладна ў сярэдзіне студзеня — неадкладна адпраўлюся да вас, у вашу загадкавую Гародню, якую не раз бачыў у сне, калі думаў пра вас. Неспасцігальна, што мы зноў убачымся, так шмат год прайшло — жыццё!"

## «Я не хачу, не пабачыўшыся з табою, паміраць…»

Вольга Суок упершыню прыехала да свекрыві ў 1954 годзе, каб даглядаць яе, калі ў пані Алешы здарыўся інсульт. Цяпер маці чакала ў госці сына, з нецярплівасцю і надзеяй учытваючыся ў радкі яго рэдкіх лістоў…

**29 мая 1954.** "Матуля! Я безумоўна пастараюся прыехаць. Не трэба думаць, што мяне ўтрымлівае ад паездкі якоенебудзь пачуццё супраць цябе. Наадварот, твой вобраз паўстае перада мною бясконца мілым, дарагім.

Ад цябе я атрымаў дар паэзіі, любоў да свету. Калі я не еду да цябе, дрэнна клапачуся пра цябе — то тут вінавата вечная турбота душы, вечная трывога, думка пра тое, што нешта галоўнае не зроблена…

Вось напішу нешта выдатнае, а потым ужо і буду жыць, як усе!.. Ведай таксама, што ўсё жыццё я ганарыўся падабенствам да цябе.

Прыеду! Баюся называць тэрмін. Хутка. Восенню.

Юра".

**20 верасня 1954.** "Пішу кнігу ўспамінаў. Там фігуруе Адэса з дзіцячымі і гімназічнымі гадамі. Так што я часта цяпер знаходжуся ў сферы дзяцінства, у блізкасці да цябе, Ванды, бацькі…"

**10 сакавіка 1955.** "Кожны раз думаю пра тое, якая ў цябе светлая галава, які цудоўны почырк — вядома, мой аптымізм, мая любоў да рэальнага свету — усё гэта ад цябе!"

Стоячы ля камоды і мачаючы пяро ў чарніліцу, пані Алеша пісала сыну сваім выразным каліграфічным почыркам…

**8 верасня 1956.** "Нядаўна, у адну з нядзель, — ты выступаў па радыё; мае суседзі сталі мяне клікаць, але ў мяне шумеў прымус, і пакуль я прыйшла па калідоры — ты яшчэ сказаў 2 — 3 словы і перастаў.

Не паверыш, як мне было крыўдна — але і голасу твайго я не пазнала — няўжо з 39 года мог так голас змяніцца? — я тады адразу пазнала".

Хутчэй за ўсё, у 1939-м пасля візіту пісьменнікаў у Гародню Юрый звязаўся з маці па тэлефоне.

**23 лютага 1957.** "Ад знаёмых чую, што ў продажы ёсць твая новая кніга ("Выбранае" — **Т. Н.**) — купляць яе не жадаю — лічу, што сын-пісьменнік павінен першы асобнік кнігі дасылаць сваёй маме — калісьці так было…

…Не жадаю цябе папракаць — але прашу і ўмольваю: не пі, не пі! Тут крыніца ўсіх тваіх няўдач.

Хоць Нікулін (пісьменнік Леў Нікулін, які таксама сустракаўся з бацькамі Алешы ў 1939 годзе. — **Т. Н.**) і казаў мне, што ён з табой выпіў мора гарэлкі, але ўсё-такі ў яго ёсць усё — і дача, і машына, а ў цябе няма нічога! Нават за 37 год не можаш сабе дазволіць пабачыцца з маці. (Выходзіць, за ўсе гэтыя гады ён так і не прыязджаў — ні да вайны, ні пасля? — **Т. Н.**)

Дарэчы: у Беларусі ёсць таксама дамы творчасці — ты, можа, мог бы сюды прыехаць у такі дом — тады мы маглі б пабачыцца? (Выдатная ідэя! — **Т. Н.**) Даведайся пра гэта і падумай, Юра, я не жадаю, не пабачыўшыся з табой, паміраць…"

**11 лістапада 1957.** "Я, вядома, маючы знаёмых у Маскве, магла б лёгка даведацца пра ўсё тваё жыццё — але я лічу крыўдным і для цябе, і для сябе даведвацца ад чужых пра жыццё майго сына!

Ты пісаў неяк, што часта бачыш мяне ў сне, а гэта таму, што я ў большасці не сплю начамі і тады думаю пра цябе — і вось табе перадаецца…"

**28 студзеня 1958.** "Мама! Мілая! О, як я вінаваты перад табой! Адзінае апраўданне — што я ўсё жыццё не быў унутрана ўладкаваны; заўсёды ў мяне нейкае імкненне сам не ведаю куды, нейкая незадаволенасць. Я неяк удала сказаў сабе, што я не іду па зямлі, а лячу над ёй".



*Юрый Алеша.*

**20 лютага 1958.** "Я паміраць не магу, пакуль не пабачуся з табой — ты павінен пра гэта падумаць і знайсці магчымасць хоць на 3 дні мяне адведаць, умольваю цябе пра гэта, мне вельмі дрэнна, я вельмі хутка памру — і калі не прыедзеш, то сумленне будзе мучыць цябе!"

Можа быць, пасля гэтых просьбаў Алеша хоць на дзянёк вырваўся ў Гародню? Але акрамя загадкавай фразы Ямпольскага "Ніколі ён не выязджаў далей Гародні" іншых пацверджанняў гэтаму я не знайшла… А пані Алеша не памірала — усё чакала сына, чакала з апошніх сіл. Але першы памёр ён.

## У пісьменніцкім доме

У маі 1960-га на імя Вольгі Уладзіславаўны прыйшоў ліст, напісаны хімічным алоўкам — почырк быў незнаёмы. У ім паведамлялася, што Юра памёр ад разрыву сэрца. Узрушаная горам, пані Алеша канчаткова занямагла. З наступленнем халадоў прыехала ў Гародню Вольга Суок і забрала свякроў у Маскву.

Перабраўшыся ў Маскву, Вольга Уладзіславаўна жыла ў пісьменніцкім доме ў Лаўрушынскім завулку, насупраць Траццякоўскай галерэі, на дзявятым паверсе. З акна Юравага кабінета бачныя былі старая царкоўка і дамы Замаскварэчча. Былым гарадзенскім суседзям пані Алеша напісала з Масквы пра тое, як кранальна ставіцца да яе новыя суседзі — Таня і Канстанцін Паўстоўскія. Масціты савецкі пісьменнік і крытык Віктар Шклоўскі (ён, Юрый Алеша і паэт Эдуард Багрыцкі былі жанатыя з трыма сёстрамі Суок — дзіўнае пераплячэнне іменаў і лёсаў!) пазнаёміўся з Вольгай Уладзіславаўнай у Маскве, калі той было ўжо за 85. І запомніў яе такой: "…старая, культурная, іранічна захопленая жыццём, устойлівая ў жыцці полька, якая выдатна размаўляла па-руску". Яна паказала Шклоўскаму фамільны герб Алеш: алень з залатой каронай, надзетай на шыю. Вядома, што паходзіў старадаўні род ад беларускай шляхты са Століншчыны, а дзіўнае прозвішча Алеша азначае не што іншае, як аленяня.

Дзяцей у Юрыя, а значыць і ўнукаў у Вольгі Уладзіславаўны, не было. Праз два гады пані Алеша памерла, пахавалі яе на Новадзявочых могілках, побач са знакамітым сынам. На надмагільных плітах выбітыя даты жыцця: 1875 —1963 і 1899 — 1960. Хаця б пасля смерці яны апынуліся разам.

# Багаты плён пісьменніка, рэдактара, перакладчыка

Віктар ГАРДЗЕЙ

**На славуты свіцязянскі семінар творчай моладзі, які цёплымі майскімі днямі 1968 года праходзіў у ваколіцах старажытнага возера, спачатку высадзіўся прадстаўнічы дэсант газетчыкаў: ад рэспубліканскай “Звязды” — Зіновій Прыгодзіч, ад “Чырвонай змены” — Алесь Бяржынскі, ад “Знамени юности” — Віктар Поляк, ад беларускага радыё — Аляксей Жук. Гэтых я ўжо добра ведаў, таму што паводле роду сваіх службовых заняткаў яны не адзін раз прыязджалі ў Ганцавічы, дзе я працаваў у раённай газеце “Савецкае Палессе”. Але сярод вялікай плоймы журналістаў, што дружна зляцеліся на Свіцязь асвятляць у друку ход векапомнага семінара маладых паэтаў і празаікаў, быў і яшчэ мала знаёмы мне карэспандэнт газеты “Літаратура і мастацтва” Мікола Гіль — высокі і хударлявы, у акулярах і, як запомнілася, з нязменнай цыгарэтай у руцэ.**



У пісьменніцкіх дыскусіях і спрэчках, што разгараліся тут і там на калідорах свіцязянскага пансіяната, ён меў свой важкі голас, калі вельмі актыўна і з нейкай душэўнай захопленасцю абмяркоўваліся кніжныя навінкі — першыя зборнікі паэзіі “Зямля-магніт” Міколы Федзюковіча і “Непазбежнасць” Міколы Купрэева, кнігі прозы “Падранак” Віктара Карамазава, “На зялёнай дарозе” Анатоля Кудраўца, “Скрозь жывуць людзі” Міколы Капыловіча, дарэчы, удзельнікаў гэтага самага свіцязянскага семінара. Гарачыя літаратурныя дыскусіі нязменна пачыналіся там, дзе ў цесным акружэнні маладых творцаў рэй вялі нашы выдатныя майстры слова Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч, Міхась Стральцоў, Барыс Сачанка, і ўсё, пра што гаварылася ў тым цесным гурце, было для нас плённай вучобай, назаўсёды заставалася ў памяці.

Вось так па збегу лёсу і абставін на Свіцязі я пазнаёміўся не толькі са сваімі равеснікамі, але і з многімі старэйшымі пісьменнікамі, чые імёны шырока гучалі ў друку і на радыё, а хто-ніхто выдаў і свае першыя зборнікі. Сярод аднагодкаў-творцаў Мікола Гіль, як я ўжо казаў, вылучаўся нейкай унутранай сталасцю і сур'ёзнасцю, дасведчанасцю ў літаратурных справах, чаму я не здзіўляўся, даведаўшыся, што гэты высокі і хударлявы юнак — малодшы брат тады ўжо вядомага паэта і вучонага-філолага Ніла Гілевіча. Між іншым, на творчы семінар Мікола Гіль прыехаў як цалкам незалежная і яркая творчая індывідуальнасць, у першую чаргу як аўтар цікавых нарысаў і апавяданняў для дзяцей і дарослых. Творы даволі маладога празаіка на той час з зайздросным пастаянствам друкаваліся ў часопісах “Бярозка”, “Маладосць”, “Полымя”, “Беларусь”. Чытачы старэйшага веку, напэўна, памятаюць яшчэ адно захапленне Міколы Гіля — яго вытанчаныя, напісаныя з выдатным мастацкім густам крытычныя артыкулы і рэцэнзіі на новыя кнігі прозы і паэзіі. Захапленне гэтае прыйшло ў маладыя гады, але ёмкай, змястоўнай рэцэнзіі не цураўся ён і ў сталасці. Няма патрэбы пералічваць пісьменнікаў, чые творы разгледжаны ім тактоўна і патрабавальна, бо такіх пісьменнікаў — дзясяткі, паэтаў і празаікаў, старых і маладых. Зноў жа, цікавы факт. Звольніўшыся з “ЛіМа”, Мікола Гіль нейкі год ці два працаваў у часопісе “Родная прырода”, і тады ў яго творах на поўную сілу загучала тэма экалогіі, аховы роднай прыроды, асабліва ў нарысе “Зялёная пушча — калыска мая...”, а таксама ў рэцэнзіях на кнігі пісьменнікаў-анімалістаў — “Дзівосная птушка” Э. Самусенкі, “Палессе” В. Вольскага, “Ляснымі сцежкамі” А. Курскова, “Па талым снезе” В. Карамазава, “Вандроўнае шчасце” К. Кірэенкі і іншых.

Ну, а сваю першую кнігу прозы “Ранішнія сны” Мікола Гіль выдаў у 1973 годзе, ужо ў даволі сталым узросце, прынамсі, намнога пазней за сваіх равеснікаў-пісьменнікаў так званага філалагічнага пакалення, тых жа празаікаў Міхася Стральцова, Уладзіміра Паўлава, Анатоля Кудраўца. І на гэта, мусіць, былі свае прычыны, аднак менавіта яны, “Ранішнія сны”, паставілі аўтара ў шэраг перспектыўных беларускіх пісьменнікаў, хаця пісаў ён толькі апавяданні і аповесці, а на раман не “замахваўся”. Ды, як кампенсацыя за працяглае кніжнае маўчанне, адзін за адным пайшлі зборнікі ўлюбёных празаічных жанраў — “Таццянін чэрвень”, “Самы галоўны чалавек”, “Пуд жыта”, “Тэлеграма з Кавалевіч”, “Камандзіроўка ў Вішанькі”, “Кім і Валерыя”. Міколу Гіля не абмінулі тыя ж самыя праблемы і пытанні сучаснасці, якія хвалявалі празаікаў яго пакалення, у першую чаргу гэта запусценне, заняпад вёскі, масавыя ўцёкі маладых у горад, што выклікала вялікія, часам не лепшыя, змяненні ў адвечным менталітэце беларусаў. На балючыя, злабадзённыя кнігі пісьменніка напісана шмат зацікаўленых рэцэнзій і водгукаў. Крытыкі і рэцэнзенты, а сярод іх і такія вядомыя, як Ю. Канэ, Г. Шупенька, П. Дзюбайла, Л. Савік, М. Тычына, адзначаючы бездакорны стыль і выдатную аўтарскую мову, звярталі ўвагу на станоўчыя якасці герояў празаічных твораў Міколы Гіля — іх адданасць роднай зямлі, вернасць маральным запаветам і мудрасці продкаў. Калісьці паднятая пісьменнікам праблема вяртання былога вяскоўца з горада ў вёску сёння стала як ніколі актуальнай.

Канечне, Мікола Гіль не належыць да тых творцаў, якія не пакідаюць ні дня без радка, але і зроблена ім нямала. Для дзяцей ён выдаў асобнай кнігай казку-быль “На лясной вуліцы” і аповесць у апавяданнях пра касманаўта Пятра Клімука “Ёсць на зямлі крыніца”. З беларускімі касманаўтамі ў пісьменніка асаблівая трывалая дружба, калі ўлічыць, што ў ягоным літаратурным запісе выйшла кніга таго ж П. Клімука “Зоры — побач”, якая некалькі разоў перавыдавалася. Варта сказаць, на беларускай мове Мікола Гіль пераствырыў дзясяткі кніг замежных пісьменнікаў — венгерскіх, румынскіх, а таксама рускіх, украінскіх, літоўскіх, грузінскіх, туркменскіх, таджыкскіх. У сваю чаргу, яго творы перакладаліся на англійскую, балгарскую, персідскую, рускую, украінскую і эстонскую мовы. І гэта даволі няпоўны літаратурны даробак празаіка, паэта, журналіста. Тут, відаць, трэба згадаць і кнігу адметных, самабытных нарысаў Міколы Гіля “Пасеянае — узыдзе”, бо з таго часу як у 1959 годзе скончыў аддзяленне журналістыкі філфака БДУ, ён ні разу не перапыняў газетную працу. Прыемна, што на гэтым нялёгкім шляху было багата сапраўднага плёну і творчых удач.

Па сутнасці ўсю сваю працоўную біяграфію пісьменнік і журналіст Мікола Сямёнавіч Гіль прысвяціў штотыднёвіку “Літаратура і мастацтва”, займаючы тут высокія пасады — загадчыка аддзела, адказнага сакратара, намесніка галоўнага рэдактара. Толькі адзін раз адлучаўся з гэтага калектыву для працы ў часопісах “Родная прырода” і “Маладосць”. Аднак праз пяць гадоў вярнуўся назад — туды, дзе калісьці надрукаваў свае першыя літаратурныя творы, дзе пакінуў добрыя згадкі пра сябе. Невыпадкова ў 1990 годзе Мікола Гіль быў прызначаны галоўным рэдактарам “ЛіМа”, 15-м па ліку з года выдання газеты. І займаў гэтую адказную пасаду шэсць гадоў, аж да выхаду на пенсію. Час быў складаны, суровы, але газета творчай інтэлігенцыі выстаяла, захавала сваё аблічча, займеўшы ў рэспубліцы многа новых сяброў. Сёння згадаць пра той ужо далёкі час ёсць добрая нагода, таму што 15 кастрычніка Мікола Гіль сустрэў свой 75-гадовы юбілей, і, віншуючы слыннага пісьменніка з гэтай прыемнай датай, рэдакцыя “ЛіМа” не забылася і на яго колішнія рэдактарскія заслугі.

Школа добрых пачуццяў

# Шчырэць любасцю

Раіса БАРАВІКОВА



Так, “хто гадаваўся ў цішы дрэў, той ашчаджае і ўспаміны аб тым, як любасцю шчырэў да кожнай зёлкі і нацыны…” — напісаў калісьці выдатны і па-свойму непаўторны Міхась Стральцоў. І ён сапраўды непаўторны, належыць да тых паэтаў, каго не-не ды і перачытаеш, асабліва ў час нейкага душэўнага неспакою, жыццёвай трывогі. Ці не Жорж Санд пісала, што толькі ў час глыбокай сталасці адчула ўсю асалоду жыцця, калі з душы абтрэсліся бурлівыя страсці зямныя і яна, душа, засталася сам-насам з прыродай. Стральцова трэба абавязкова чытаць у глыбокім узросце, каб адчуць не толькі глыбіню яго таленту, а штосьці яшчэ, такое няўлоўнае і таемнае, але заўжды вечнае:

*За вёскаю, на адзіноце,*
*Асеннім днём пачуеш ты,*
*Як вецер на запалай ноце*
*Скуголіць аж да нематы.*

*І што ні болю, ні шкадобы*
*Не наканована яму,*
*Калі бывае даспадобы*
*Няславіць волю, як турму, —*

*Ні развітання, ні спаткання,*
*А толькі вусцішнасць быцця:*
*Нібы пра згубнае каханне*
*Пяе няўцямнае дзіця…*

Адчуйце чысціню гэтай паэзіі, як святлюткасць, дзе ніводнага выпадковага слова, дзе ўсё як адзіны працяглы музычны акорд, і ніякіх табе закручаных метафар, усё як выдыхі таленту, выдыхнулася гэтак і — чаруе, прыцягвае да сябе. Несумненна: ён — класік, — Майстар з вялікай літары. Калі сабраць усё, напісанае ім — прозу, паэзію, літаратуразнаўчыя эсэ, крытыку, — атрымаецца не адзін том і нават не тры-чатыры… Напэўна, мы ўсе, беларусы, вінаватыя, што Ён да гэтага часу не стаіць на сваім, належным яму высокім п'едэстале.

Міхася Стральцова помню з 1967 года. Ён тады загадваў аддзелам прозы ў часопісе “Маладосць” і быў на гучным, яркім узлёце сваёй славы, якую заслужана дала яму яго проза (аповесці “Сена на асфальце”, “Адзін лапаць, адзін чунь”…). Кнігі паэзіі: “Ядлоўцаў куст” і “Мой свеце ясны” выйшлі значна пазней. Сваю студэнцкую практыку я праходзіла ў рэдакцыі “ЛіМа”, дзе тым часам у аддзеле літаратуры працаваў і Стральцоў. Тады ўжо ён быў не проста вядомы пісьменнік, а і чалавек з легендамі, сэнс якіх зводзіўся да аднаго: шмат хто карыстаўся дабрынёй яго душы і шчодрасцю яго таленту. Яго ўвесь час прасілі пачаткоўцы, і не толькі яны, нешта падправіць, штосьці адрэдагаваць, адным словам, прывесці да належнага ладу будучую кніжку, і ён нікому не адмаўляў, пагаджаўся. У яго быў выключны слых на мастацкае слова, і гэта таксама дар той самай прыроды, якую ён не проста сузіраў, а нібыта быў адным цэлым з ёю і праз слова даносіў да чытача яе пейзажы, на якія накладваліся малюнкі яго душы, як, скажам, у гэтай страфе: “…А падалося: гэты дзень, свята якога дагарае, — не пакідаючы надзей, са мною разам памірае”. Ён умеў маляваць словам, і гэты дакладны малюнак міжволі робіцца вельмі блізкім, як, напрыклад, вось гэтыя радкі з верша “Бацькаўшчына”:

*…Узыдзе месяц позна. На парог*
*Я ноччу выйду. У нямым здранцвенні*
*Паветра, далеч. Серабрыцца лог*
*За сажалкай — на ім снуюцца цені.*

*О роднае маё! Як доўга да цябе*
*Ішоў я, кволы падарожнік…*

Паэты нярэдка ўяўляюць сябе падарожнікамі, рамантычнымі вандроўнікамі. Але толькі ўяўляюць, застаючыся прывязанымі на ўзроўні духу да адной-адзінай зямлі, да аднаго краю. Пра гэта і сведчыць уся зажурана-ўзнёслая і заўжды глыбока-жывая паэзія Міхася Стральцова.

## Эпоха 1910 — 1950 гг. у асвятленні Коласа-публіцыста

Міхась МУШЫНСКІ,
доктар філалагічных навук

**Дзейнасць Коласа-публіцыста ў 1941 — 1945 гг. — адметны перыяд яго творчай біяграфіі. Гэты этап шмат у чым блізкі перыяду 10 — 20-х гг. і вельмі істотна адрозніваецца ад 30-х, дзе высокі пафас апявання светлай сацыялістычнай явы, услаўлення велічных здзяйсненняў рабочага класа і калгаснага сялянства часта ўступаў у супярэчнасць з рэальным становішчам у краіне і ў рэспубліцы. Негатыўныя з'явы ў жыцці савецкага народа з агульнага малюнка, створанага Коласам-публіцыстам, як правіла, выпадалі, што не магло не адбіцца на змесце артыкулаў, якія не сталі праўдзівымі дакументамі эпохі. А вось пагроза, якую нёс савецкай краіне, беларускаму народу, сусветнай супольнасці фашызм, выклікала ў пісьменніка шчырыя, глыбокія пачуцці пратэсту, асуджэння чалавеканенавісніцкай ідэалогіі. У гэтых пачуццях не было месца павярхоўнаму пафасу, штучнаму, робленаму аптымізму, на што хварэлі многія публікацыі 30-х гг. Пачуцці ішлі ад сэрца, нараджаліся з глыбіні душы. Якуб Колас балюча перажываў трагедыю, невымерныя пакуты народа, на які так нечакана абрынулася вайна. Натуральна, што многія апісанні ў яго артыкулах кранаюць мужнай, суровай праўдай.**



# «У грозны час вайны суровай...»

Трэба сказаць, што і змест, і форма выкладу думак і пачуццяў у публіцыстыцы Коласа ваенных гадоў не заставаліся нязменнымі. Першым артыкулам нексатавала канкрэтыкі. Аўтар аддаваў перавагу эмацыянальным заклікам да народа мабілізаваць сілы на барацьбу з ворагам, не страчваць веру ў перамогу, выкрываць фашызм як з'яву, варожую жыццю, не паддавацца на гітлераўскую прапаганду магчымасці мірнага суіснавання акупантаў і насельніцтва і г.д. Заклікі, вытрыманыя ў эмацыянальна-ўсхваляванай, пабуджальна-пафаснай танальнасці, спалучаліся з кароткімі замалёўкамі страшэнных разбурэнняў, учыненых акупантамі на беларускай зямлі: "Шугаюць агнём твае гарады і сёлы. Тысячы мірных людзей асталіся без даху над галавой, кінутыя ў бяздонне пакуты" ("Роднаму народу"). Тут дамінуе стыль гнеўнага памфлета, суровага абвінавачвання. Такая манера падачы матэрыялу зразумелая: жанр звароту патрабаваў лаканізму. З другога ж боку, Колас, знаходзячыся ў тыле, не меў магчымасці непасрэдна сутыкацца з салдатамі, з партызанамі, якія б падзяліліся з ім рэальнымі фактамі пра тое, што насамрэч адбываецца на фронце, у акупаванай Беларусі.

Праўдзівая інфармацыя, зыходзячы з абставін ваеннага часу, строга фільтравалася цэнзурай. І калі дзеля пацвярджэння думкі пісьменніку патрэбна была канкрэтыка, ён карыстаўся афіцыйнымі звесткамі, дапускаючы пры гэтым — з мэтаю ўзмацнення мастацкага эфекту — відавочныя перабольшванні. Вось якімі фарбамі малюе Колас паразу нямецкіх войскаў пад Масквой у канцы 1941 года: "Усе дарогі, вялікія і малыя, усе ямы, канавы, падземныя збудаванні шчыльна забіты трупамі нямецкіх салдат. А колькі самі немцы пахавалі іх пад дзеравянымі крыжамі! На цэлыя доўгія вёрсты ў розных напрамках ад Масквы — на поўнач, на поўдзень, на захад — параскіданы шкілеты нямецкіх бронемашын, гармат, танкаў, грузавікоў".

Аднак даволі хутка на змену агульнай пафаснасці прыйшло больш глыбокае, праблемнае асвятленне падзей, што яскрава праявілася ў матэрыялах, якія ўпершыню ўключаныя ў новы Збор твораў. Менавіта ў "новых" артыкулах мы бачым прысутнасць асобаснага, аўтарскага пачатку. Пашырыліся і тэматычныя межы выступленняў і публікацый. Так, падчас гутаркі з карэспандэнтам адной з замежных газет (у межах 9 лют. — 6 крас. 1942 г.) Колас прадэманстраваў шырыню погляду на пытанні вайны, на міжнароднае становішча. Кленічы, да якіх так ахвотна звяртаўся паэт пры выкрыцці фашызму, эмацыйныя выказванні пра "орды вандалаў", "раз'юшаных гунаў, гітлераўскіх акул", "крывасмокаў" тут не дзейнічалі. Патрэбна была неабвержная логіка. І Якуб Колас у гутарцы "са сваімі заморскімі і заакіянскімі сябрамі" паспяхова прымяняў такую логіку. Ён вельмі дарэчы ўспомніў антыфашысцкі кангрэс у Парыжы (1935 г.), каб нагадаць пра існаванне агульнай "ідэйнай платформы, што яднае ўсіх перадавых пісьменнікаў дэмакратычных краін, якія абараняюць культуру і свабоду свету ад фашысцкага варварства". Толькі агульнымі намаганнямі ўсіх дэмакратычных сіл свету, уключаючы і Злучаныя Штаты, можна выратаваць свабоду і абараніць культуру ад поўнага яе знішчэння — вось сэнс выказвання прадстаўніка зямгарнай Беларусі.

Не менш пераканаўча прагучаў і другі тэзіс Коласа — пра адметнае геаграфічнае становішча Беларусі. Мая краіна, гаворыць удзельнік гутаркі, знаходзіцца "на скрыжаванні старадаўніх шляхоў паміж Захадам і Усходам". Таму нашы і вашы мэты супадаюць: мы абараняем і сябе, і сусветную культуру". Завяршаецца гутарка зваротам да саюзнікаў як найхутчэй адкрыць другі фронт. Тут беларускі пісьменнік выступае ад імя ўсяго савецкага народа, на плечы якога лёг цяжар вайны з гітлераўскай Германіяй.

Тэма немінучасці адплаты за ўчыненыя злачынствы супраць чалавецтва трактавалася Коласам у шырокім плане, сюды ўваходзіла і адплата здраднікам, нямецкім памагатым. З вышыні сённяшніх дзён бачна, што пры асвятленні тэмы калабарацыі Якуб Колас усё ж дапускаў аднабаковы падыход, спрошчана разглядаў складаную праблему. Ім не праводзілася мяжа паміж прыстасаванцамі і тымі, хто воляю трагічных абставін застаўся на акупаванай тэрыторыі і, ратуючы сям'ю, малых дзяцей і старых бацькоў, вымушаны быў уладкоўвацца на працу ў тую ці іншую гарадскую ўстанову. У тагачасных жыццёвых абставінах існавалі і фактары грамадска-маральныя: сярод калабарантаў аказваліся людзі, несправядліва асуджаныя савецкай уладай, ім няпроста было зрабіць жыццёвы выбар. Вось гэтую абумоўленую канкрэтнымі грамадска-палітычнымі абставінамі спрошчанасць паэт паспрабаваў пераадолець у паэме "Адплата" пры стварэнні вобраза міжвольнага здрадніка Цімоха.

«Як бачым, і ў дадзеным выпадку Колас-публіцыст паказаў высокі прафесійны ўзровень пры разглядзе складаных пытанняў міжнароднага характару. А вось у публіцыстычных выступленнях 1944 г. Якуб Колас цалкам засяроджваецца на ўласна беларускай тэматыцы. Пра гэта сведчаць артыкулы "На руінах Гомеля", "Роднаму беларускаму народу", прамова на VI сесіі Вярхоўнага Савета БССР... Сустрэча з роднай зямлёй пасля трохгадовага расстання моцна паўплывала на душэўны стан, на светаўспрыманне Коласа. І на змест яго публіцыстыкі, у якой галоўнымі сталі вырашэнне канкрэтных праблем аднаўлення разбуранай гаспадаркі, новы этап нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

Асобнае месца ў публіцыстычнай спадчыне Якуба Коласа займае артыкул, які ўпершыню друкуецца паводле аўтографа. Яго публікацыю можна датаваць перыядам: восень — пачатак зімы 1941 г., г. зн. часам гераічнай абароны Масквы. У артыкуле ёсць асобныя выказванні, якія патрабуюць тлумачэння: "З адшчапенцам Гітлерам не можа быць ніякіх пагадненняў, ніякіх перамоў. Вайна да канца: "С волками иначе не делать мировой, // Как снявши шкуру с них долой". Тут меліся на ўвазе сепаратныя перамовы, якія

«Аднак даволі хутка на змену агульнай пафаснасці прыйшло больш глыбокае, праблемнае асвятленне падзей, што яскрава праявілася ў матэрыялах, якія ўпершыню ўключаныя ў новы Збор твораў. Менавіта ў "новых" артыкулах мы бачым прысутнасць асобаснага, аўтарскага пачатку. Пашырыліся і тэматычныя межы выступленняў і публікацый. Так, падчас гутаркі з карэспандэнтам адной з замежных газет (у межах 9 лют. — 6 крас. 1942 г.) Колас прадэманстраваў шырыню погляду на пытанні вайны, на міжнароднае становішча.

нібыта ішлі паміж савецкім кіраўніцтвам і гітлераўскай Германіяй. Афіцыйнага пацвярджэння таго, што такая падзея сапраўды мела месца, да гэтага часу не знойдзена. Паводле публічных выказванняў кіраўніка Федэральнага архіўнага агенцтва Расіі А. М. Арцізава, у расійскіх архівах такія матэрыялы адсутнічаюць. Але ж дадзеную гісторыю беларускі пісьменнік не мог прыдумаць! Напэўна, чуткі пра сакрэтныя перамовы распаўсюджваліся сярод нейкай часткі насельніцтва, і Якуб Колас на іх зрэагаваў. Яны задакументаваныя рукой пісьменніка і таму патрабуюць каменціравання. Згодна з адной версіяй, весткі пра сакрэтныя перамовы — гэта фальшыўка нямецкіх спецслужбаў, скіраваная на пагаршэнне адносін паміж СССР і іншымі членамі антыгітлераўскай кааліцыі. Адной з прычын вострай рэакцыі народнага паэта Беларусі на чуткі пра магчымасць сепаратных пагадненняў было тое, што згодна з дамоўленасцю значная частка акупаванай тэрыторыі, у тым ліку і беларускія землі, адыходзіла да Германіі. З такім рашэннем — нават на ўзроўні чутак — Якуб Колас не мог змірыцца. Адсюль яго выснова: "Вайна да канца". Тое, што артыкул Якуба Коласа да гэтага часу не быў уведзены ў навуковы абыходак, не змяншае яго каштоўнасці як сведчання вельмі акрэсленай пазіцыі пісьменніка-патрыёта.

Грамадзянскую, светапоглядную паслядоўнасць і дасведчанасць у пытаннях міжнароднай палітыкі прадэманстраваў Колас і ў артыкуле "Славяне змагаюцца", напісаным паводле ўражанняў ад непасрэднага ўдзелу ў ІІІ Усеславянскім мітынгу ў Маскве 9 мая 1943 г. "Ні ў кога не атрымаецца разгайдаць і парушыць адзінства славян, якія змагаюцца з самым злым сваім ворагам — нямецкім фашызмам, не атрымаецца разрэзаць надвое жывое цела беларускага і ўкраінскага народаў, не атрымаецца ўтаймаваць свабодалюбівы дух сапраўдных польскіх патрыётаў". Узнікае пытанне: хто ж у маі 1943 г. збіраўся "разрэзаць надвое жывое цела беларускага і ўкраінскага народаў"? Гаворка тут ідзе пра тое, што эміграцыйны польскі ўрад Уладзіслава Сікорскага, які знаходзіўся ў Лондане, спрабаваў "ціснуць на савецкае кіраўніцтва з мэтай вырваць у яго тэрытарыяльныя саступкі за кошт інтарэсаў Савецкай Украіны, Беларусі і Літвы". А больш канкрэтна, урад патрабаваў, каб у пытаннях мяжы паміж Польшчай і СССР захавалася статут-кво, існаваўшае да 1 верасня 1939 г. Колас рашуча пратэставаў супраць згаданых патрабаванняў, ацэньваў іх як непрымальныя з пункту гледжання гістарычнай справядлівасці, паколькі яны парушалі тэрытарыяльную цэласнасць і беларускага, і ўкраінскага народаў.

Як бачым, і ў дадзеным выпадку Колас-публіцыст паказаў высокі прафесійны ўзровень пры разглядзе складаных пытанняў міжнароднага характару. А вось у публіцыстычных выступленнях 1944 г. Якуб Колас цалкам засяроджваецца на ўласна беларускай тэматыцы. Пра гэта сведчаць артыкулы "На руінах Гомеля", "Роднаму беларускаму народу", прамова на VI сесіі Вярхоўнага Савета БССР... Сустрэча з роднай зямлёй пасля трохгадовага расстання моцна паўплывала на душэўны стан, на светаўспрыманне Коласа. І на змест яго публіцыстыкі, у якой галоўнымі сталі вырашэнне канкрэтных праблем аднаўлення разбуранай гаспадаркі, новы этап нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

Мацней загучаў і патрыятычны матыў — матыў гонару за прыналежнасць да народа-змагара. А выступаючы на юбілейнай трэцяй сесіі АН БССР (20 студз. 1944 г., Масква), Колас так акрэсліў задачы, якія паўсталі перад беларускай творчай інтэлігенцыяй, перад айчыннымі гуманітарыямі ў аднаўленчы перыяд: "Беларускі народ не атрымаў яшчэ з нашых рук свае гісторыі, аповесці аб слаўнай многавяковай барацьбе за незалежнасць, за культуру, за сваю нацыянальнасць, за зямлю сваіх продкаў". Звернем увагу і яшчэ на адзін фрагмент з прамовы: "Мы павінны вярнуць народу яго сыноў, якія бытуюць у памяці не па сваіх пашпартах". Выказванне пра "сыноў" — лаканічнае па форме, але сэнс яго шматзначны. Па-першае, Колас, напэўна, меў на ўвазе пісьменнікаў, дзеячаў культуры, асветы, якія чакалі аб'ектыўнай ацэнкі сваёй працы і свайго месца ў гісторыі Беларусі. Па-другое, з прыведзеных разважанняў лагічна вынікала неабходнасць перагляду несправядлівых прысудаў, вынесеных у 30-я гады сумленным людзям. Неабходна было зняць з іх кляймо "вораг народа", вярнуць у адпаведнае працоўнае, прафесійнае асяроддзе, каб не на словах, а на справе паставіць усе творчыя, інтэлектуальныя, духоўныя сілы "на службу і навуцы і народу".

Вось якімі смелымі і аптымістычнымі былі надзеі народнага песняра напярэдадні вяртання на родную зямлю. І гэтая прамова, а яна прагучала з трыбуны высокага навуковага форуму, вельмі паказальная для характарыстыкі творчага, псіхалагічнага стану Коласа, які спадзяваўся, што пасля поўнага вызвалення акупаванай беларускай тэрыторыі, пасля канчатковай перамогі над фашызмам павінна многае змяніцца ў рэспубліцы, у жыцці народа. Мелася на ўвазе не толькі аднаўленне разбуранай гаспадаркі, але і змены грамадска-палітычнага характару — іншае стаўленне да сялянства, гісторыі Беларусі ("запоўніць тыя белыя плямы, якія да сягоннящняга дня чакаюць свайго даследчыка"), да нацыянальнай культуры, яе дзеячаў, увогуле да чалавека, яго грамадзянскіх правоў. На жаль, гэтыя тэмы не атрымалі глыбокай распрацоўкі ў першыя пасляваенныя гады, прынамсі, да 1953 года, што тлумачыцца канкрэтнымі грамадска-палітычнымі прычынамі.

*Здымак прадастаўлены Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа.*

# Паэзія



Усевалад Гарачка

* * *

*Я пайшоў шукаць цябе*
*Па вакзалах,*
*Сустракаць з начных цягнікоў.*
*Я заглядваў у твары*
*Ліловых астраў,*
*Мае вочы пыталіся:*
*Дзе ты?*

*А ты*
*Засталася чакаць мяне дома.*

*Я шукаў цябе*
*У сапляценнях прыгожых слоў,*
*У балюча-прыгожых фарбах*
*Заходнага сонца,*
*У тужлівай песні травы...*[1]

*Я шукаў цябе...*
*А ты*
*Засталася чакаць мяне дома.*

[1] *Тужлівая песня травы — з верша Наталлі Бурдзейкі.*

* * *

*Вермут...*
*Вецер з тых дзён,*
*Калі я кахаў,*
*І ты*
*Была не са мною...*
*Вермут —*
*Каляровыя слёзы.*

* * *

*Вугалем стануць ствалы*
*Загінулых дрэў,*
*А целы былых землякопаў —*
*Глінаю стануць.*

*...Вось яны разам капаюць,*
*Нібыта спяваюць*
*Бясконцую песню,*
*Вось нехта ўпаў на зямлю,*
*Вось ён глінаю стаў,*
*І яе ўжо капаюць.*

*Што яны ўмеюць рабіць:*
*Паміраць*
*І капаць,*
*Ім не баліць,*
*І па іх не ўздыхнуць,*
*Не заплачуць...*

*Вугалем стануць ствалы*
*Паваленых дрэў,*
*А целы былых землякопаў —*
*Глінаю стануць.*

* * *

*Раздалі нам білеты,*
*Пасадзілі ў таварны вагон*
*Пад назовам Жыццё,*
*І марудна,*
*Марудна,*
*Марудна*
*Павезлі наперад...*

*Мы штохвілі спыняліся,*
*Прапускалі кагосьці наперад,*
*Кагосьці чакалі...*

*Нам даўно надакучыла ехаць,*
*Каб неяк прабавіць свой час,*
*Мы*
*Спалі,*
*Елі,*
*Глушылі віно,*
*Гаварылі.*

*Нехта скочыў у цемру.*

*А мы*
*Ехалі*
*Ў гэтай жа цемры*
*Ў цягніку*
*Пад назовам Жыццё.*

* * *

*Згнілі сцягі,*
*З'іржавела жалеза,*
*Сціхлі крыкі,*
*Высахла кроў...*
*Засталіся*
*Музыка,*
*Колеры,*
*Фарбы.*

* * *

*Восень —*
*Каляровая рэвалюцыя*
*У якой ніхто не загіне.*

*І здаецца*
*Што дрэвы*
*Усё лета*
*Рыхтавалі нам гэта свята.*

*Дык няхай жа*
*Ляціць на зямлю*
*Каляровае лісце.*

*Хай зрываюцца з дрэва жыцця*
*Урачыстыя ноты.*

*І не трэба,*
*Не трэба,*
*Не варта*
*Нам думаць аб стратах.*

* * *

*Я — стары закінуты дом.*
*З непрыстойнымі надпісамі на сценах,*
*Са смуродам па кутах,*
*З гнілою падлогай,*
*Усеянай бутэлечным боем.*
*З ахоўнікам*
*Старым і дурным,*
*Які сам тут*
*Штовечара п'е,*
*А затым — б'е бутэлькі,*
*Мочыцца па кутах*
*І піша на сценах*
*Непрыстойныя словы.*
*Я — стары закінуты дом.*



*Фота Яўгена Шастакова*



Яўген Сергіеня

## Малітва

*Дапамажы, вялікі Божа,*
*У час нуды, у час імжы...*
*Калі ніхто не дапаможа,*
*Ты мне адзін дапамажы.*

*Параду дай, мой любы Божа,*
*На ўсе пытанні адкажы —*
*Як падказаць ніхто не можа,*
*Ты мне парай, дапамажы.*

*Мяне вучы, нязменны Божа,*
*Як трэба дні свае пражыць.*
*І міласэрна, і прыгожа —*
*Ты мне адзін дапамажы.*

*Дапамажы, вялікі Божа,*
*Дайсці да вечнае мяжы,*
*Дзе ўжо ніхто не дапаможа,*
*Ты мне тады дапамажы.*

## Пасланец

*Я стаю і стукаюся ў дзверы.*
*Хто пачуе і адчыніць іх?*
*Я зайду і сяду павячэраць,*
*І вячэра будзе на дваіх.*

*Праз праём дзвярэй, аднак, пабачыш*
*Новы свет, пачуеш зорак спеў.*
*Адчыні, бо чую: сэрцам плачаш.*
*Я ж цябе суцешыць захацеў.*

## Што рабіць

*Што рабіць, як чалавек хварэе?*
*Зразумела, трэба палячыць.*
*Што рабіць, калі дзіця дурэе?*
*Яго трэба пэўна навучыць.*

*Што рабіць, як блізка небяспека?*
*Бараніся й барані людзей.*
*Што рабіць, як стрэнецца калека?*
*Падтрымай яго, і чым хутчэй.*

*Што рабіць — адвечнае пытанне,*
*Ды адну параду можна даць:*
*Што рабіць — хай знойдзецца жаданне*
*Дзеямі на словы адказаць.*

## Палёт

*Птушка ўздымаецца ў неба —*
*Вышэй і вышэй, да аблокаў.*
*А параненай — падае долу,*
*Дзе трапечацца, каб паляцець.*

*Чалавека ўздымаюць у неба*
*Пачуцці, і дух за аблокі ляціць.*
*Як параншь — балюча-балюча яму,*
*Ды прагне ён зноў вышыні.*

*З вышынь падаць цяжка, але*
*На зямлі ёсць надзея, каб выжыць.*
*А ніжэй за зямлю, дзе бяздонне*
*І пекла, — надзеі няма.*

## Рукі цесляра

*Рукі цяслярскія, рукі Ісуса*
*Хлеб здабывалі працай нялёгкай,*
*Воцатны пах паўсядзённага поту*
*З дзяцінства яшчэ быў*
*даволі знаёмы.*

*Рукі Ісуса цвікамі прабілі,*
*З болем яны грэшны свет абдымалі.*
*Рукі і вусны да вечнага Бога*
*Ціха шапталі*
*малітву за грэшных.*

* * *

*Ціха плешчацца Мёртвае мора,*
*Дзе квітнелі Садом і Гамора.*
*А чаму ж іх няма?*
*Чаму пуста?*
*Там быў суд над грахамі распусты.*

*Сведчаць свету салёныя хвалі:*
*Мы наступствы праклацця схавалі.*
*На зямлі зноўку можа быць пуста,*
*Бо ўздымаецца хутка распуста.*

* * *

*Горад гораду раўня ва ўсім —*
*Гаманою, шумам, траскатнёю...*
*Ды кожны —*
*з асаблівасцю сваёю:*
*Людзьмі, народжанымі ў ім.*



Яўген Хвалей

## Райскі сад

**"Канстанцін Міхайлавіч не мог уявіць сваё жыллё, свой дом без саду: дагладаў яго, песціў. Сёння ён у цэнтры Акадэмгарадка — як цудоўны паэтычны востраў, як райскі сад".**

**З выступлення дырэктара Літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа З. Камароўскай.**

*Музейны сад...*
*Ён не зямны — нябесны:*
*Расце-цвіце на берагах аблок.*
*Анёламі ляцяць парою веснай*
*Шпакі і салаўі сюды здалёк.*

*А дрэвы птушак з выраю страчаюць:*
*Бярозы, тры дубы —*
*Як маці і сыны.*
*Іх вобразы нябесны сад вянчаюць...*
*Сасна мадоннай падыходзіць*
*Да сасны...*

*Нарцысы, гіяцынты і півоні —*
*Эдэмская аздоба дрэў яны.*
*Душа паэта каля зорак,*
*поўні,*
*А райскі сад цвіце для нас,*
*зямных.*

## Памяці маці

*Світае над тваёй магілай,*
*Мама...*
*І першы снег, нібы світанак,*
*Ахутаў свежы твой грудок за брамай,*
*Якая ў вечнасць нам дае прыстанак.*

*І сонца раніцай святой іконай,*
*Што ў пальцы мы табе уклалі,*
*Над тонкаю ўзышло сасонкай —*
*Цябе, пакутніцу, пад ёй мы пахавалі.*

*На кроне снег, як светлая хусцінка, —*
*Яе ў труне табе мы завязалі.*
*Бы крыжык твой,*
*Ірдзіць-зіхціць ільдзінка*
*На лапцы-гольцы,*
*Скутай маразамі.*

## Прозвішча

Казіміру Камейшу

*Мне прозвішча тваё нагадвае камель,*
*Камель сасны пушчанскай каля Кромані.*
*Ад характва лясного ты нямеў*
*Пад ясеня смарагдаваю кронаю.*

*Я разумею гэты дзіўны стан душы —*
*Не раз і сам маліўся ў лесе нема, —*
*Тым больш калі ў суцішанай глушы*
*Натрапіш ты на баравінны неруш...*

*Мы — землякі,*
*Як дрэваў камлюкі:*
*Яднаюць нас лясы, лугі і Нёман.*
*А вёсачку Малыя Навікі*
*Я памяняў бы на Камейшы сёння...*

## Два лебедзі

*Два лебедзі на возеры,*
*Як снег навокал, белыя.*
*Яна і ён — бы лодачкі,*
*Плывуць-грабуць да берага.*

*Чаму так рана прыляцелі,*
*Калі зіма з вясной змагаецца?*
*Іх шыі гордыя пытальнікам*
*Да неба снежнага ўздымаюцца...*

*Плывіце, лебедзі, плывіце*
*Да берага, дзе мы з табою*
*Стаім і птахамі любуемся —*
*Люстэркам нашае любові.*

# Творчасць без межаў

Чэслава ПАЛУЯН,
Мінск — Перадзелкіна — Мінск,
фота аўтара

**Непадалёк ад Масквы, у Доме творчасці "Перадзелкіна", прайшла Першая Міжнародная нарада маладых пісьменнікаў. Каб абмяняцца досведам з калегамі, прадэманстраваць творчыя здабыткі, атрымаць парады ўжо вопытных літаратараў, завязаць новыя знаёмствы, сюды прыехала амаль сто маладых творцаў з дваццаці краін свету.**
**У іх ліку — удзельнікі з Беларусі: паэтка, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Таццяна Сівец, паэтка Алена Харук і крытык, перакладчык, рэдактар праекта "Кніжны свет" у газеце "ЛіМ" Марына Весялуха. Хоць гэтая нарада і была названая Першай, сама ідэя правядзення такіх форумаў не новая. Калісьці, больш як 20 год таму, у Саюзе пісьменнікаў СССР нарады для маладых праводзіліся кожныя пяць год. Іх вынікам было адкрыццё новых імёнаў, выданне кніг, з'яўленне перакладаў з розных моў. Цяпер жа часы змяніліся, ды і колішнія ўдзельнікі нарад самі сталі кіраўнікамі семінараў.**



### Магія Перадзелкіна

Гэты падмаскоўны гарадок можна лічыць сапраўднай пісьменніцкай Меккай. Тут, фактычна на адной вуліцы, размешчаны музеі Барыса Пастарнака, Карнея Чукоўскага, Булата Акуджавы, музей-галерэя Яўгена Еўтушэнкі. На мясцовых могілках пахаваны Карней Чукоўскі, Роберт Раждзественскі, Барыс Пастарнак, многія іншыя творцы. Праўда, для турыста знайсці іх магілы — справа нялёгкая. Але нам пашчасціла сустрэць на сцежцы не толькі добрага праваднікa, але і выдатнага апавядальніка. Каля магілы Пастарнака мужчына распавёў, што калісьці яе даглядаў дзядуля з суседняй вёскі. Зграбаў лісце, сачыў, каб не расла трава, падстрыгаў кусты. Дзядуля так і памёр на гэтай магіле, сімвалічна адышоўшы ў вечнасць у месцы супакаення вядомага ва ўсім свеце пісьменніка.

Але вернемся да самога Дома творчасці, што месціцца ў выдатным будынку 1955 года. Тут так і лунае дух натхнення, згадак пра яго былых гасцей. Пра іх нагадвае галерэя партрэтаў на сценах, здымкаў, зробленых падчас пісьменніцкіх сустрэч. Ці ёсць сярод іх знакамітыя, беларусы? Вядома! Быкаў, Крапіва, Шамякін, Вярба, Макаёнак, такія родныя і знаёмыя, пазіралі на нас са старых фота.

### Аднаўленне традыцыі

Ужо адзначалася, што Першая Міжнародная нарада маладых пісьменнікаў у Перадзелкіне стала працягам шматгадовай савецкай традыцыі, але ў новым фармаце. Як зазначыў Іван Пераверзін, старшыня Выканкама Міжнароднай Супольнасці Пісьменніцкіх Саюзаў, "на гэты раз мы вырашылі правесці нараду літаратараў, якія пішуць па-руску. Не так важна, у якой краіне яны жывуць — Канадзе, Аўстраліі, Германіі, Францыі ці ў Прыбалтыцы, наша задача цяпер складаецца ў тым, каб рассунуць межы мовы, шляхам перакладу пазнаёміць шырокую публіку з творамі іншых народаў. Але тут узнікае яшчэ адна складанасць: савецкая школа перакладу разбураная, і на працягу гэтых 20 год яна працавала з перабоямі. Таму пажадана, каб сённяшнія ўдзельнікі нарады, маладое пакаленне творцаў, не толькі пісалі ўласныя творы, але і перакладалі".

Падчас нарады праходзілі семінары для маладых творцаў, на якіх абмяркоўваліся тэксты ўдзельнікаў, уздымаліся агульныя пытанні значэння літаратуры ў наш час, сэнсу творчасці, праблемы недахопу часу і выбару ўласнай творчай сцежкі. Так, Станіслаў Куняеў, паэт, публіцыст, галоўны рэдактар часопіса "Наш современник", кіраўнік семінараў па паэзіі, падкрэсліў: "Я сваёй справай лічу не толькі тое, як навучыць пісаць, а дапамагчы пачаткоўцам выпрацаваць светапогляд, што дапаможа ім правільна ўсё ацаніць і выказаць уласныя меркаванні пасвойму".

У ліку самых яркіх падзей форуму можна назваць і майстар-клас, які правялі выкладчык Літаратурнага інстытута імя Максіма Горкага, паэт Сяргей Аруцюнаў, студэнт Літінстытута, паэт Аляксандр Арлоў і загадчык рэдакцыі айчыннай прозы выдавецтва "Эксмо" Юлія Качалкіна. Галоўнае, яны задалі для маладых творцаў сістэму каардынат.

А як самі маладыя пісьменнікі ацэньваюць магчымасць удзелу ў падобным форуме? Так, Ірына Вахітава, празаік з Рыгі, на гэтае пытанне адказала:

— Маштаб нарады вялікі, думаецца, гэта сапраўды гістарычная падзея ў развіцці літаратуры. Калі яшчэ мы ўсе будзем мець магчымасць пагутарыць з маладымі літаратарамі розных нацыянальнасцей? Адчуць каларыт Арменіі, Украіны, Беларусі — праз вершы і прозу. Мне прыемна паказаць сябе, выслухаць прафесійнае меркаванне пра сваю прозу. Звычайна аўтар з болем успрымае крытыку, але цяпер я разумею, у якім кірунку трэба працаваць. Галоўнае, не спыняцца.

Дарэчы, аказалася, што хоць Ірына ўсё жыццё пражыла ў сталіцы Латвіі, яна мае беларуска-польскія карані і кожнае лета прыязджае на радзіму, у Шаркаўшчынскі раён. "Усе мае апавяданні — пра Беларусь, пра жыццё ў беларускай вёсцы, — падкрэслівае Ірына. — Гэта вельмі дарагія сэрцу мясціны. Неяк доўгі час я шукала вершы паэта Альберта Паўловіча, бо пра яго распавядаў мой дзядуля, ведаў на памяць яго творы, бацька таксама іх ведаў".

### Вынікі і перспектывы

Як бы там ні было, форум меў станоўчыя вынікі. Думаецца, яго мэты былі дасягнутыя. Мы пачулі музыку паўночнага ветру ў вершах паэта з Якуціі Гаўрыіла Андросава, пабачылі праблемы маладога пакалення, узнятыя ў апавяданнях Аляксея Сырамятнікава з Самары, пазнаёміліся з рэаліямі жыцця ў Германіі праз казкі Алены Ямавай з Берліна, даведаліся пра новыя падыходы да аналізу паэзіі ў артыкулах і эсэ Андрэя Чарнова з Луганска. Усіх уражанняў і маленькіх творчых адкрыццяў не згадаць.

Вынікі нарады будуць відавочныя не толькі для саміх удзельнікаў, але і для шырокага чытача. Так, рыхтуецца да друку альманах лепшых работ маладых пісьменнікаў, хутка пабачыць свет выпуск "Литературной газеты", цалкам прысвечаны гэтай падзеі, звернуцца да яе асвятлення і некаторыя буйныя літаратурна-мастацкія часопісы, "Вестник Международного Сообщества Писательских Союзов". Новымі сябрамі папоўніцца Саюзы пісьменнікаў розных краін, і — а гэта для творцаў самае галоўнае — магчыма, на паліцах з'явяцца новыя кнігі маладых паэтаў і празаікаў.

Што ж да самой нарады, ёсць надзея, што традыцыя правядзення падобных форумаў будзе аднаўлена. І для маладых творцаў справай гонару і прэстыжу стане магчымасць хаця б аднойчы з такой надзвычайнай мэтай завітаць у Перадзелкіна.

***На здымку: удзельнікі Міжнароднай нарады маладых пісьменнікаў падчас семінара паэта, празаіка і крытыка Мікалая Пераяслава.***

*Прэзентацыі*

## Запрашаем у сталіцу!

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА



Гэту кнігу інакш як прызнаннем у любові не назавеш. Яе старонкі адчыняюць чытачу Мінск. Нібыта ў маленькай энцыклапедыі, тут ёсць здымкі яго прыгожых краявідаў, звесткі пра гісторыю беларускай сталіцы, культурнае багацце, моцны навуковы, тэхнічны, інтэлектуальны і творчы патэнцыял. "Мінск — сталіца Беларусі" — другая кніга серыі "Гарады і гістарычныя мясціны Беларусі" выдавецтва "Пачатковая школа". Першая кніга была прысвечана самаму старажытнаму гораду Беларусі — Полацку. Ніводная з еўрапейскіх сталіц не перажыла нават паловы тых выпрабаванняў і маштабных разбурэнняў, што выпалі да долю Мінска. Але, падобна да казачнай птушкі Фенікс, ён уваскрасаў з попелу. Тым больш велічна глядзіцца яго архітэктура: Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета, будынак Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, культурна-спартыўны комплекс "Мінск-Арэна", універсітэты, паркі і скверы. У беларускай сталіцы шануюць даўніну. Музеям Мінска прысвечаны асобны раздзел выдання.

Не засталіся па-за ўвагай аўтараў і людзі, дзякуючы якім прыгажэе і багацее славай галоўны горад Беларусі. З верасня 1967 года прысвойваецца званне "Ганаровы грамадзянін горада Мінска" за значны ўнёсак у сацыяльна-эканамічнае, навукова-тэхнічнае і культурнае развіццё горада, за высокія дасягненні ў прафесійнай, грамадскай і дабрачыннай дзейнасці. Пра асоб, якія першымі атрымалі гэта высокае званне, раскажа адпаведны раздзел кнігі. Беларуская сталіца натхніла паэтаў стварыць цудоўныя радкі, з якімі чытач таксама пазнаёміцца. У раздзел "Мінск у паэзіі" ўвайшлі гімн горада на словы І. Панкевіча, вершы Леаніда Пранчака, Паўла Пруднікава, Алеся Бачылы, Петруся Броўкі, Галіны Булыкі, Сяргея Грахоўскага, Анатоля Астрэйкі, Кастуся Кірэенкі, Петруся Макаля, Максіма Танка.

*У падтрымку чытання*

## Каштоўны вопыт перакладу

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА



**Іхсан Дылекчы, дырэктар грамадскага аб'яднання "Дыялог Еўразія":**

— Аўтар, які аказаў вялікі ўплыў на маё стаўленне як чытача, — Фетхулах Гюлен. Можна сказаць, што яго "Страчаны рай" змяніў маё жыццё. Кожны раз, калі перачытваю яго, адкрываю нанова. З творчасцю гэтага аўтара беларускія чытачы змаглі пазнаёміцца дзякуючы нашаму сумеснаму з выдавецтвам "Чатыры чвэрці" праекту "Турэцкая бібліятэка", у межах якога выйшла кніга "Дыялог і талерантнасць".

Я па адукацыі настаўнік рускай мовы і літаратуры. Таму ахвотна чытаю літаратуру на рускай мове. Знаёмства з ёю пачалося яшчэ ў школьныя гады, працягнулася ў студэнцкія. У Турцыі ведаюць рускую літаратуру. На жаль, у Расіі з турэцкай літаратурай чытачы знаёмы куды менш.

У Турцыі і Беларусі даўнія сувязі. Прыгадаем Саламею Русецкую — асобу нашай агульнай гісторыі. Першы чалавек, які адкрываў Турцыю для беларусаў. Не так даўно адбылася канферэнцыя "Роля асветнікаў Турцыі і Беларусі" — на базе філфака БДУ.

З апошніх кніг на маім рабочым стале — раманы Харуна Такака "Яны не дачакаліся раніцы" і Мікалая Чаргінца "Сыны", якія я чытаў і на рускай, і на турэцкай мове. У межах падпісанага пагаднення паміж Саюзам пісьменнікаў Беларусі і Фондам пісьменнікаў і журналістаў Турцыі 19 кастрычніка прайшла прэзентацыя гэтых выданняў. Неабходна адзначыць, што ўпершыню ў гісторыі твор беларускага аўтара перакладзены на турэцкую, што вельмі моцна дапамагае ў збліжэнні культур.

Раман М. Чаргінца — пра афганскую вайну, тэма раскрыта з супрацьлеглага пункту гледжання: Турцыя ў гэтым канфлікце была на баку НАТА. Былі розныя меркаванні, як аднясецца да гэтага турэцкая аўдыторыя. Нармальна аднеслася. Гэта каштоўны вопыт — паглядзець на з'яву з іншага боку. Дагэтуль гучала меркаванне толькі нашых "братоў па зброі". Вайна — гора для ўсіх. Так што пераклад мы лічым вельмі ўдалым праектам.

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота аўтара

# Крытык у стыхіі слова

**Падчас працы Першай Міжнароднай нарады маладых пісьменнікаў у Перадзелкіне ў якасці кіраўнікоў семінараў выступалі сапраўдныя прафесіяналы ў галіне паэзіі, прозы, дзіцячай літаратуры. Я ж абрала заняткі па крытыцы і літаратуразнаўстве. Іх праводзіў Мікалай Пераяслаў — паэт, празаік, крытык, лаўрэат Шолахаўскай прэміі. З ім мы пагутарылі пра функцыі крытыкі ў сучасным літаратурным працэсе, новыя падыходы да твораў гэтага кірунку і многае іншае.**

**— Мікалай Уладзіміравіч, у чым, на вашу думку, заключаецца задачы крытыкі ў сучаснай літаратуры?**

— Я бачу крытыку як паўнавартасны, самастойны жанр літаратуры. Гэта не пасрэднік паміж чытачамі і пісьменнікамі, не дыспетчар у літаратурным працэсе (хоць і гэтыя функцыі яна выконвае). І сапраўдныя крытыкі пішуць артыкулы, што чытаюцца з такой жа цікавасцю і захапленнем, як мастацкія творы. Хіба што героямі твораў крытыкаў з'яўляюцца не выдуманыя персанажы, а непасрэдна творы іншых аўтараў ці лёсы саміх пісьменнікаў — калі крытыкі працуюць на мяжы з літаратуразнаўствам. Крытыка ва ўсе часы вучыла чытача глыбей глядзець у літаратуру, бачыць не толькі павярхоўны сэнс, не толькі пласкасны сюжэт, але і тое, што знаходзіцца за тэкстам, у яго глыбіні. Сёння, калі прагматычныя інтарэсы завалодалі грамадствам, літаратура ўвогуле адсунулася на другі план. У гэтых умовах задача крытыкі несувымерна ўскладнілася і сама крытыка набыла намнога больш важнае значэнне, чым у папярэднія стагоддзі. Вярнулася задача папулярызацыі літаратуры. Нам трэба паказаць, што гэта не забаўлялка, што літаратура — гэта стрыжнёвы кірунак жыцця грамадства. Разам з гэтым крытыкам сёння трэба перавучваць чытачоў чытаць. За апошнія 20 год на добрых, прафесійна спрацаваных кнігах данцовых і марыніных чытач навучыўся толькі хапаць верхні, павярхоўны слой аповеду, забаўляльную яго частку, сюжэтную. А крытыцы трэба паказваць, што за гэтым, прынамсі, павінна быць шмат глыбіннага філасофскага, псіхалагічнага сэнсу.

**— Атрымліваецца, што крытыка перажывае не лепшыя часы…**

— Так, час сапраўды цяжкі. Яшчэ і таму, што для выказвання крытычных, прафесійных меркаванняў адносна літаратурных твораў амаль не засталося пляцовак. Крытыку практычна "выгналі" з друкаваных выданняў. Газеты рэдка друкуюць літаратурны складнік. І нават у "тоўстых" літаратурнамастацкіх часопісах для твораў гэтага жанру амаль не засталося месца. Крытыка за апошнія гады была выціснена публіцыстыкай. Нават такія вядомыя творцы, як Вадзім Кожанаў, Аляксандр Казінцаў перакваліфікаваліся ў публіцыстаў, пачалі пісаць на вострыя, злабадзённыя, публіцыстычныя тэмы. У іх работах літаратура патроху адсунулася на другі план, а то і зусім знікла. Таму засталося "ў справе" не так многа сапраўдных крытыкаў, але іх роля намнога больш важная, чым у папярэднія часы.

**— Мы сёння шмат гаворым пра зніжэнне цікавасці да чытання мастацкіх твораў, але ж на прафесійную крытыку звяртаюць яшчэ менш увагі. Як прымусіць публіку хоць трохі чытаць крытыку?**

— Трэба проста пісаць крытычныя артыкулы цікава, так, каб ад іх захоплівала дух. Усё ж такі калі з'яўляецца нешта вельмі-вельмі цікава напісанае, людзі дзеляцца адно з адным, пытаюцца: а ты чытаў? Гэта з'ява яшчэ засталася ў нашым грамадстве, нездарма ж мы калісьці былі краінай, самай заангажаванай у літаратуру. І хоць узровень інтарэсу зменшыўся, усё, што з'яўляецца цікавае, у нас абмяркоўваюць. І чытач вольна ці нявольна да гэтага звяртаецца. Думаецца, няма іншага шляху, толькі пісаць лепш, вастрэй, цікавей, каб крытычны тэкст абуджаў думкі. Тады гэтая хваля ўздымаецца, у грамадстве пачнецца ланцуговая рэакцыя, і людзі пачнуць чытаць крытыку.

**— У рэцэнзіях замест аб'ектыўнага аналізу часта можна знайсці апісанне суб'ектыўных уражанняў аўтара, што ў яго ўзніклі падчас чытання тэксту…**

— Крытык — таксама пісьменнік, і ўсё, пра што ён піша, ад чаго адштурхоўваецца, гэта па вялікім рахунку толькі нагода выказаць уласныя думкі. Ён мае пэўнае разуменне ролі літаратуры, сутнасці творчасці, літаратурнага працэсу. Яму хочацца пра гэта сказаць. І вось ён чытае чыюсьці кнігу, яна нараджае ў ім думкі. І, адштурхоўваючыся ад прачытанага, ён "чапляе" ўсё, што ў ім сядзела, і выказвае свае ўласныя меркаванні. Гэтыя думкі, здавалася б, знаходзяцца ў баку ад непасрэдна аналізуемага твора, але яны даюць чытачу ўяўленне пра разуменне крытыкам асаблівасцей бягучага літаратурнага працэсу. Не думаю, што гэта кепска. Гэта натуральна.

**— У наш час канкурэнтам для прафесійнай крытыкі можна лічыць Інтэрнэт. Бо водгукі, змешчаныя ў каментарыях да тэкстаў, бываюць больш уплывовымі для чытача, чым меркаванне крытыка.**

— Інтэрнэт — своеасаблівы свет. Па сутнасці гэта вялікі натоўп "сваіх". А меркаванне "свайго" мае большае значэнне, чым думка кагосьці збоку. Крытык у гэтай сітуацыі ўспрымаецца як хтосьці збоку, як настаўнік. А Інтэрнэт — натоўп роўных, схаваных за нікамі, псеўданімамі. З-за гэтых масак можна выгукнуць усё, што заўгодна. Таму тут працуюць закон "сваёй мовы" і закон натоўпу. Жорсткія, задзірыстыя меркаванні, выказаныя па сутнасці ананімна, маладой аўдыторыяй успрымаюцца як свае. Але так працуюць не прафесіяналы, а эпатажныя людзі. Іх выгукам не варта надаваць асаблівага значэння.

**— Тады ў якім кірунку павінна развівацца прафесійная крытыка, каб заставацца чытаемай і канкурэнтаздольнай?**

— Самае галоўнае, што павінна захаваць, вярнуць ці развіць у сабе крытыка, — гэта шчырасць. Шчырая гутарка і зацікаўленасць у развіцці літаратуры ўсіх кірункаў. Сёння агульная рака літаратурнага працэсу падзялілася на мноства маленькіх ручаёў: традыцыяналісты, канцэптуалісты, постмадэрністы — кожнае з гэтых адгалінаванняў мае сваіх крытыкаў. А яны разглядаюць толькі творы аўтараў пэўнага "клана". Прыхільнікі постмадэрну выказваюць меркаванні пра творы, заснаваныя на правілах гэтай літаратурнай школы. Калі ім у поле зроку трапляе, да прыкладу, твор традыцыяналіста Валянціна Распуціна і яны не бачаць у ім ні адной прыкметы постмадэрнізму, — або не заўважаюць яго, або пішуць адмоўныя водгукі, бо ў кнігах Распуціна няма ўсіх атрыбутаў постмадэрну. Усе размаўляюць на сваіх мовах, кожны бачыць літаратуру праз свае акуляры. Таму ў выніку атрымліваецца непаразуменне, раз'яднанне. Літаратурны працэс сёння падобны да будаўнічай пляцоўкі Вавілонскай вежы. Ніхто нікога не разумее, і вежа развальваецца.



**— Ці бачыце добрую, годную змену ў маладым пакаленні літаратараў?**

— Безумоўна. Моладзь прыходзіць маладая, энергічная, актыўная. Але сярод маладых мала крытыкаў у чыстым выглядзе. Многія паэты і празаікі разам з уласнымі творамі публікуюць і крытычныя матэрыялы. Я не ведаю, хто з іх праявіць сябе ў будучыні. Але здаецца, што і яны захоўваюць недахоп, характэрны для літаратуры нашага часу. Яны гавораць толькі пра сваіх. І як бы бліскуча яны гэта ні рабілі, яны апынаюцца ў герметычна закрытай групе блізкіх ім людзей. Але трэба развівацца, выходзіць за межы "клана" і казаць пра літаратуру ў цэлым, каб бачыць усю панараму часу, працяг традыцыі рознымі аўтарамі. Калі мы разглядаем твор асобна ад усіх астатніх, як можна яго хваліць ці ганіць? Трэба ўлічваць, якую ён працягвае традыцыю: Пушкін, Някрасаў, Гогаль, і вось ты ў канцы гэтага шляху. Дадаў ты нешта сюды? Ці толькі колькасна памножыў шэраг? Разгледжаны па-за такой сістэмай каардынат твор можа падацца цікавым, а калі аналізаваць яго ў параўнанні з папярэднікамі, становіцца бачна сапраўдная глыбіня, маштаб…

**— Тое, што крытык акрамя артыкулаў і рэцэнзій піша яшчэ паэзію ці прозу, можна лічыць станоўчай рысай? Ці чалавек, які сябе называе крытыкам, не павінен быць непасрэдна ўцягнуты ў літаратурны працэс?**

— Мы лічым Пушкіна паэтам. Але паэзія складае толькі каля дваццаці працэнтаў яго творчай спадчыны. Усё астатняе — публіцыстыка, проза, крытычныя агляды, падарожныя нататкі. Пісьменнік жыве ў стыхіі слова, і сама тэма дыктуе яму: гэты матэрыял выкласці ў рыфмаваным слупку ці ён просіць формы рамана. Калі тэма — штодзённая рэакцыя на тое, што адбываецца ў літаратурным працэсе тваёй краіны і свету, гэта выражаецца ў артыкулах, рэцэнзіях, водгуках, удзеле ў дыскусіях. Чалавек павінен быць проста пісьменнікам і працаваць ва ўсіх жанрах. Вельмі важна, калі творца ўсебакова развіты, ён жыве літаратурай, гэта яго стыхія. Канечне, рана ці позна адзін з жанраў стане дамінантным, але гэта не значыць, што трэба адмаўляцца ад магчымасці працаваць у іншых.

**— Як крытык і куратар семінараў Міжнароднай нарады маладых пісьменнікаў у Перадзелкіна, што вы можаце сказаць пра ўзровень тэкстаў удзельнікаў гэтага форуму?**

— Скажу шчыра, я чакаў большага. Большай дарослацці, пранікнення ў сутнасць эпохі. Мне здаецца, што пераўтварэнні, што адбываюцца апошнія дваццаць год на тэрыторыі былога СССР, не могуць не ўплываць на свядомасць чалавека. Але ў творах маладых аўтараў я амаль не пачуў ніякіх праблемных момантаў. Вельмі добра, што яны ўвогуле пішуць, што яны бачаць свет паэтычнымі вачыма, што не праходзяць міма прыгажосці і яна закранае іх душу. Ёсць цікавыя аўтары, вартыя ўвагі работы. Гэта па сутнасці вытокі творчасці, іх неабходна падтрымліваць. Што напішуць маладыя аўтары заўтра, мы не ведаем, але наша задача стаіць у тым, каб іх падтрымваць, дапамагчы ім раскрыцца, даць магчымасць напісаць буйныя творы, сур'ёзныя рэчы. Сёння мы бачым толькі абяцанні таго, што можа быць наперадзе.

# Сяўба на культурным полі

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**У рамках з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі ў прэс-цэнтры Дома прэсы прайшоў круглы стол на тэму "Беларуска-турэцкае культурнае супрацоўніцтва". У ім узялі ўдзел кіраўнікі стамбульскага ўніверсітэта Мармара, прадстаўнікі грамадскага аб'яднання "Дыялог Еўразія", дырэктар аналітычнага цэнтра ЕСООМ Сяргей Мусіенка, загадчык кафедры міжнародных адносін Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь Сяргей Кізіма, турэцкія і беларускія пісьменнікі, выдаўцы, журналісты.**

Старшыня Беларускага саюза журналістаў Анатоль Лемяшонак распавёў гасцям пра сітуацыю на беларускім медыйным рынку, якая абвастрылася з-за ўплыву крызісу, — фінансавы складнік вымагае ад кіраўніцтва газет пошуку новых рашэнняў.

Першы намеснік галоўнага рэдактара газеты "СБ. Беларусь сегодня" Міхаіл Лябедзік акцэнтаваў увагу прысутных на тым, што дзяржаўная падтрымка з бюджэту прадугледжана 26 выданням (у асноўным — адрасаваным моладзі). Ахарактарызаваўшы адносіны дзяржаўных і прыватных выданняў як "цалкам нармальныя і дзелавыя", Анатоль Лемяшонак адзначыў: "Мы ўдзельнічаем у адных і тых жа форумах, прымаем адных і тых жа гасцей, усе выданні можна набыць паўсюдна, нават у Савеце Міністраў".

Пабудова канструктыўных адносін паміж нашымі краінамі пачалася са збліжэння на культурным полі — падчас мерапрыемства былі прадстаўлены раман М. Чаргінца "Сыны", перакладзены на турэцкую мову, і кніга Х. Такака "Яны не дачакаліся раніцы" ў перакладзе на рускую. Харун Такак расказаў, як нарадзілася ідэя выдаць гэту кнігу. Творы беларускага і турэцкага пісьменнікаў маюць антываенную скіраванасць. Пісьменніца Нэваль Сэвіндзі, для якой знаёмства з беларускай літаратурай пачалося з рамана "Сыны", падкрэсліла, што яна ўпершыню паглядзела на падзеі афганскай вайны з пункту гледжання савецкага боку, высока ацаніла апісанне афганскай культуры, дэталей ісламскага побыту.

У рамане М. Чаргінца ёй у першую чаргу быў цікавы не ваенны, а сацыяльны аспект: пачуцці людзей, абыякавасць бюракратаў. "Нас многае збліжае", — гучала амаль у кожным выступленні. Папулярызацыя ўласнай культуры немагчыма без цікавасці да культуры іншых краін. Прыкладам таму стала ўвага турэцкіх удзельнікаў мерапрыемства да праектаў "Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі", пра якія распавяла дырэктар выдавецтва Таццяна Бялова, — энцыклапедыі "Татары Беларусі" (10 тысяч артыкулаў, якія ахопліваюць гісторыю гэтага этнасу з XIV стагоддзя), практычна падрыхтаванага да выдання зборніка "Перліны цюркскай паэзіі". Т. Бялова прапанавала турэцкаму боку паспрыяць у зборы матэрыялаў для наступных праектаў і дапамагчы ў пошуку такіх дакументаў, як "Трактат пра польскіх татараў ВКЛ" 1580 года, аўтарам якога быў беларускі татарын, беларуска-турэцкага слоўніка 1850 года.

Падводзячы вынікі работы "круглага стала", генеральны дырэктар грамадскага аб'яднання "Дыялог Еўразія" Іхсан Дылекчы канстатаваў: "Межы паміж нашымі дзяржавамі раствараюцца — мы робім усё, каб людзі з аднолькавымі духоўнымі і маральнымі каштоўнасцямі і светапоглядам знайшлі адно аднаго".

# С искусством в кармашке
















**На этот раз перед нами книжная миниатюра. Удобно размещающиеся в ладони книжки с золотыми закладками, которые уже сами по себе праздник. К подарочным изданиям хорошо добавить изящно оформленное увеличительное стекло. Серия “Издания для досуга” ООО “Харвест” приглашает в мир искусства.**

**Ольга ПОЛОМЦЕВА, Юзефа ВОЛК**

## От французского «импрессьон»

Одна из миниатюрных энциклопедий, автором-составителем которой является Мирослав Адамчик, называется **“Импрессионисты”**. Благодаря этой книжке вы узнаете, как зарождалось в конце XIX века во Франции направление, до сих пор будоражащее умы и сердца, и славные имена творцов, поставивших задачу точно и объективно передать видимую реальность при помощи неуловимых световых и цветовых эффектов, а также оцените образчики их остроумия. Ведь на роскошных страницах издания помещены не только репродукции картин Клода Моне, Камиля Писсарро, Эдгара Дега, Поля Сезанна и их великих сподвижников, но и цитаты из сказанного художниками. “Некоторые полагают, что можно безнаказанно подделывать стиль Средних веков, Возрождения… Уметь только копировать — таков их лозунг. А когда это самообольщение проходит, достаточно только пойти и посмотреть на источник, как ещё до него далеко!” (Пьер Огюст Ренуар).

## Подобно тыкве, влекомой течением реки

Отдав должное Франции, составитель не преминул обратить читательское внимание и на не менее любопытную **“Японскую гравюру”**, начало популярности которой датируется позапрошлым столетием. Многие известные художники (Эдуард Мане, Дега, Тулуз-Лотрек, Ван Гог, Сомов, Билибин и др.) всерьёз увлекались изысканной экзотической японской “укиё-э” — попыткой изображения быстротекущего (ускользающего) мира. Гравюра ведёт свой отсчёт с XVII века и родиной считает город Эдо (нынешний Токио), где появились новые сословия торговцев и ремесленников. Мастера гравюры в тандеме с резчиками и печатниками сохранили для истории прекрасных обитательниц весёлых кварталов и актёров театра, изысканные пейзажи. В каждом произведении классической японской гравюры — своя поэзия и драматургия, неповторимое звучание линий и цветных плоскостей. Автор популярной в те годы повести “Новые времена” Асай Рёй так объяснял суть “укиё-э”: “Жить лишь дарованным тебе мгновеньем, наслаждаться, любуясь луной. Снегом, цветением вишен, осенними листьями клёнов, петь песни, пить вино и развлекаться, ничуть не заботясь о нищете, вызывающе глядящей нам в лицо, бездумно отдаваться потоку, подобно тыкве, бесстрастно влекомой течением реки”.

## Создатели ликов

Не мог обойти своим вниманием М. Адамчик и русскую икону. **“Шедевры русской иконописи”** содержат краткое описание лучших православных икон — как дошедших до нас из древнейших времён, так и написанных относительно недавно. Читатель оценит мастерство творцов, узнает, когда была создана та или иная икона, а также место, где она находится теперь. В издании вы найдёте богатый справочный материал, который поможет сориентироваться в иконописных школах и особенностях почерка иконописцев. Старообрядец Иван Анисимов, Феофан Грек, Андрей Рублёв, Иван Безмин, Пётр Корин, Михаил Милютин. Иван Фигурин, Семён Холмогорец и другие мастера, образам которых мы поклоняемся до сих пор, представлены на страницах этой книги.

## «Аз есмь с вами и никтоже на вы»

Образ Божьей Матери в христианской религии особо почитаем — ведь она первая заступница и ходатайница о людских чаяниях. Поэтому существует множество её икон. И почти все они — чудотворные. Владимирская усмирила мятеж в 1173 году, а в 1521 году спасла Москву от татар, Введенская “проявила свой лик” на стекле, под которым находилась, Едесская (“Спасение народа римского”) остановила чуму в Риме. У некоторых из них свой день почитания в христианском календаре.

Составителем книжки **“Православные чудотворные иконы”** в двух частях стал иерей Александр Шимбалев, издана она по благословению Высокопреосвященнейшего Митрополита Минского и Слуцкого, Патриаршего Экзарха всея Беларуси Филарета. На страничках — повествование о наиболее чтимых иконах Божьей Матери. Как пишет в предисловии священник Александр Шимбалев, «в основу исторических описаний явления икон положены труды протоиерея Иоанна Бухарева “Чудотворные иконы пресвятой Богородицы” и Е. Поселянина “Иконы Божией Матери”. С момента написания этих книг прошло немало времени, многие иконы были утеряны, но были явлены и новые. Мы постарались, насколько это было возможно, собрать новые сведения о старых образах и добавить описания икон, явивших чудеса в прошедшем XX столетии».

## Во всём — великий

Интерес к личности Леонардо да Винчи, итальянского учёного, живописца, скульптора, инженера, настоящего Титана эпохи Возрождения, не угасает и сегодня. Его фигура приковывает внимание широкой публики. Учёные стремятся разгадать загадки Леонардо, спрятанные в его картинах, научных чертежах. Но мало кто знает, что да Винчи был ещё и писателем. Он работал в жанрах басни, фатеции (жанр короткой прозы, распространённый в эпоху Возрождения), писал предсказания.

Книга **“Леонардо да Винчи”** раскроет разные грани личности творца, познакомит с его полотнами, графическими работами, а также позволит попробовать разгадать удивительный иносказательный смысл его литературных произведений. Ведь именно они дополняют множество репродукций картин, открывают новый аспект личности Леонардо.

Вот, например, басня 812. “В орешник, выставивший поверх улицы перед прохожим богатство своих плодов, каждый человек бросал камни”.

Или басня 813. “На фиговое дерево, стоящее без плодов, никто не глядел; когда же оно захотело, произведя означенные плоды, получить похвалу от людей, то было ими согнуто и сломлено”.

Возможно, именно эти произведения помогут читателю обучиться искусству интерпретации, подскажут правильный ключ к разгадке сложных образов, раскроют правильный путь к пониманию их смысла.

## От антиискусства — к сюрреализму

Жан Арп, Макс Эрнст, Андре Масон, Рене Магрит, Ив Танги, Сальвадор Дали, Пьер Рой, Поль Дельво, Хуан Миро… Работы, созданные этими художниками, слишком уж разнообразные, написанные в разных тональностях, всё же могут быть объединены в одну группу. И название ей — сюрреализм.

Это течение в мировом искусстве возникло в Европе между Первой и Второй мировыми войнами. Сюрреализм вырос преимущественно из раннего движения художников — дадаизма, которое перед Первой мировой войной производило образцы антиискусства, преднамеренно бросало вызов здравому смыслу. Но несмотря на то, что сюрреализм считается преемником дадаизма, в первом акцент делается не на отрицании, а на положительном выражении. Течение представляло собой реакцию на то, что его члены воспринимали как разрушение, вызванное “рационализмом”, который привёл европейскую культуру и политику в прошлое, и это в итоге завершилось ужасами Первой мировой. Согласно мнению главного представителя движения, поэта Андре Бретона, который в 1924 году издал “Манифест сюрреализма”, новое течение было средством воссоединения здравых и подсознательных сфер опыта. Причём всё происходило настолько полно, что мир мечты и фантазии был соединён в каждодневный рациональный мир, в абсолютную действительность, “сюрреальность”. Основываясь на теориях, “подогнанных” под Зигмунда Фрейда, Бретон видел подсознательное как источник своего воображения.

На живопись сюрреалистов повлиял не только дадаизм, но и фантастические, гротескные полотна более ранних живописцев: Франсиско Гойя, Иеронима Босха, а также более современных художников: Одилона Редона, Джорджо де Кирико, Марка Шагала. В сюрреализме каждый художник искал свои собственные средства самоисследования, находил новые методы, с помощью которых можно было вызвать психические реакции зрителей.

Книга **“Сюрреализм”** содержит репродукции полотен художников, работавших в этом направлении, а также их афористические высказывания об искусстве и философии жизни. Но будьте осторожны и не верьте им. Ведь сюрреалисты — большие мистификаторы. Особенно испанец Сальвадор.

## Традиционализм или кубизм?

“Я сделал портрет Рембрандта. И всё дело было в потрескавшемся лаке. Была у меня доска, которая была испорчена. Я начал её царапать, и получился Рембрандт. Мне это понравилось, и я начал делать дальше”. Так Пабло Пикассо в одной из своих заметок описывает процесс работы. В книге **“Пикассо”** представлены репродукции его работ, а также высказывания самого художника о кубизме.

Можно считать, что сам кубизм, в то время ещё в начальной стадии своего развития, формировался в творческой манере художника, начиная с картины “Авиньонские девушки”. Именно эта работа ознаменовала резкий разрыв с традицией, в ней наметилась тенденция к новому живописному стилю, который Пикассо и его друг Брак начали совместно развивать в тесном сотрудничестве. Они игнорировали общепринятые средства, использовавшиеся для создания иллюзии реальности, такие, как расходящаяся перспектива, распределение светотени и подчёркивание формы и цвета светом. Вместо этого стремились представлять объекты более концептуально, разделяя их на геометрические части или на небольшие кубы и изображая объект на одном полотне с нескольких ракурсов. Пикассо продолжал развивать и оттачивать этот стиль почти до 1925 года. Одновременно художник работал и в противоположном направлении, изображая фигуры в стиле подчёркнутого классицизма.

# Вялікія спецыфічнасці «малой літаратуры»

Алеся ЛАПІЦКАЯ

**Гун-Брыт Колер — прафесар кафедры славістыкі ў Ольдэнбургскім універсітэце імя Карла фон Асецкі (Германія), адна з нешматлікіх заходніх навукоўцаў, якія сур’ёзна займаюцца беларускай літаратурай. Гун-Брыт Колер часам наведвае Беларусь, каб прыняць удзел у канфэрэнцыях. Пасля аднаго з такіх мерапрыемстваў з’явілася магчымасць паразмаўляць з шаноўнай даследчыцай і распытаць пра кірунак яе навуковай дзейнасці і ўражанні ад знаёмства з беларускай літаратурай і беларускім літаратуразнаўствам.**

**— Спадарыня Гун-Брыт, як даўно вы звярнуліся да беларускай літаратуры, якое кола вашых навуковых інтарэсаў?**

— Я пачала займацца беларускай літаратурай прыкладна тры гады таму — і гэта самы пачатак шляху, бо, каб увайсці ў чужую літаратуру, патрэбны час. Я славіст, і мая перспектыва — вывучэнне тыпалагічнай спецыфікі развіцця “малых літаратур”. Займаюся найперш 20-мі гадамі, але спрабую працаваць у розных перыядах. Так, вельмі істотна ведаць XIX ст., каб зразумець, што атрымалася пасля. Менавіта да беларускай літаратуры я звярнулася дзякуючы майму калегу-лінгвісту з Ольдэнбурга прафесару Герду Хентчэлу. Ён пачаў працаваць з беларускай мовай, стварыў міжнародны праект, прысвечаны трасянцы.

**— Якія асаблівасці беларускай літаратуры вы ўжо можаце вылучыць?**

— На беларускую літаратуру можна глядзець як на “малую літаратуру” — у тым сэнсе, што яна не зусім укладаецца ў мадэль літаратуры і літаратурнага працэсу, якая ўтварылася на Захадзе, якую будавалі на базе французскай, нямецкай — гэтых “вялікіх літаратур”. Да таго ж, мне здаецца, што беларуская літаратура вельмі асаблівая нават побач з іншымі славянскімі. Яна развівалася позна, таму ў пачатку XX ст. можна бачыць пэўныя рысы, якія, напрыклад, у харвацкай літаратуры былі ў сярэдзіне XIX ст. Аднак я не ўпэўненая, што мадэль “паскоранага развіцця” адпавядае гэтай спецыфіцы, бо пры “паскоранасці” ў літаратуры ёсць усё, але вельмі хутка. Мне здаецца, што ў беларускай літаратуры асобныя феномены ў пэўным сэнсе проста па-іншаму складваюцца. Ці можна казаць пра “сапраўдны” мадэрнізм у беларускай літаратуры — як, напрыклад, у французскай — спрэчнае пытанне. Тут так і не былі перакладзены “Кветкі зла” Бадлера, хаця пытанні раз’яднання этыкі і эстэтыкі ў агульнай мадэлі мадэрнізму вельмі важныя. Затое напачатку XX ст. беларускія літаратары ствараюць базу, на аснове якой павінна развівацца нацыянальная літаратура.

**— Даўно ідзе спрэчка пра постмадэрнізм у беларускай літаратуры — ці ёсць, на вашу думку, у Беларусі пісьменнікі-постмадэрністы, ці жыве Беларусь у эпоху постмадэрну?**

— Тут нельга адказаць адназначна. Можна сказаць усё, што заўгодна: што, напрыклад, постмадэрнізм — гэта або Разанаў, або Арлоў, або Бум-Бам-Літ, але для мяне гэта як шуфлядай па галаве. Сказаць можна, толькі якая тут карысць? Варта дакладна вызначыць постмадэрнісцкія рысы, даць дэфініцыю. Калі ж лічыць, што “сапраўднага” мадэрнізму няма, то тэарэтычна з гэтага вынікае, што наўрад ці магчымы і “сапраўдны” постмадэрнізм, бо гэта ўзаемазвязана. Так, перфарматыўны элемент, тэндэнцыя да жанравай гібрыднасці — гэта выразна постмадэрнісцкія рысы, і яны, па-мойму, прысутнічаюць у беларускай літаратуры. Але калі, напрыклад, у кантэксце постмадэрнізму кажуць пра гістарычную драму і яе дыдактычную функцыю, для мяне гэта цікава, бо само паняцце гісторыі ў постмадэрнізме прынцыпова зруйнаванае: няма гісторыі, няма ідэнтычнасці і г. д. Ёсць рысы, несумяшчальныя з тэарэтычнага пункту гледжання, а тут могуць сказаць, што ў рамках постмадэрнізму мы спрабуем падтрымліваць нашу гісторыю. І гэта прыклад вялікай спецыфічнасці беларускай літаратуры.

**— Якой падаецца вам сітуацыя ў беларускім літаратуразнаўстве, у беларускай крытыцы? Ці можна казаць пра нейкія адмысловыя падыходы і прыярытэты беларускіх даследчыкаў?**

— Бясспрэчна, для заходніх і тутэйшых навукоўцаў дыялог будзе вельмі плённым. Асабіста ў мяне ёсць і пэўная дыстанцыя, і “свежае вока”, і тэарэтычная мадэль, што для тутэйшых можа быць сапраўды цікавым. Мне здаецца, што аналіз беларускай літаратуры ў кантэксце іншых славянскіх літаратур быў бы карысным, бо трэба, каб людзі не засяроджваліся на тым, што “бедная беларуская літаратура не магла развівацца, бо Расійская імперыя не давала” і г. д. Усё гэта зразумела, але параўнанне дае новую перспектыву: ёсць іншыя літаратуры, якія развіваліся крыху па-іншаму, хаця сітуацыя была, у пэўным сэнсе, падобнай.

**— Наколькі кампетэнтныя, па еўрапейскіх мерках, нашы спецыялісты?**

— Нельга ставіць пытанне так. На Захадзе ёсць навукоўцы, якія лічаць, што ўзровень літаратуразнаўства ў пэўных краінах увогуле вельмі нізкі. Але я бачу, што на Беларусі ёсць выдатныя навукоўцы, літаратуразнаўцы. Гэта не пытанне “ўзроўню”, гэта пытанне “дыскурсу”.

**— Ці не патлумачыце вы чытачам гэта паняцце?**

— Вось, гэта вельмі просты прыклад, які паказвае, што тут пытанне не ўзроўню, а дыскурсу. Пра дыскурс пісаў яшчэ Мішэль Фуко — пад дыскурсам трэба разумець, як у пэўным грамадстве прынята казаць пра пэўныя рэчы: “як гавараць і пра што”, “як” і “што”. На Захадзе, напрыклад, навуковы дыскурс сыходзіць з пытання. Калі ў нас пачынаюць даклад, то кажуць: “Я не ведаю…”, а потым спрабуюць адказаць на сваё пытанне, але звычайна нават напрыканцы даклада кажуць, што “яшчэ не ведаюць”. На Беларусі ж у мяне бываюць канфлікты з пэўнай генерацыяй навукоўцаў, якія любяць сцвярджаць: “Гэта дакладна так і інакш не можа быць!” Я на гэта вельмі хваравіта рэагую, бо гэта супярэчыць той навуковай пазіцыі, якой мяне вучылі, пад якой я вырасла. Я вучыла, што мы і далей не ведаем, мы шукаем, але не ведаем. Ёсць ваша праўда, ёсць мая — і хто будзе гэта вызначаць? Проста ёсць моцныя аргументы, а ёсць слабыя. Тут, мне здаецца, навуковы дыскурс, на жаль, больш “аўтарытарны”, чым у нас.

**— Якія далейшыя мэты вашага даследавання беларускай літаратуры?**

— Паняцце “малая літаратура” для мяне выключна эўрыстычнае. Я не хачу сказаць, што беларуская літаратура малая — і кропка. Я імкнуся вызначыць на базе беларускай літаратуры альтэрнатыўную мадэль літаратурнага развіцця, па якой можна апісаць спецыфіку “малой літаратуры”. Нельга казаць, што хутка ці павольна — гэта добра ці дрэнна. “Вялікая” і “малая літаратура” — гэта два полюсы, паміж якімі можна ўпарадкаваць амаль усе сусветныя літаратуры. Яшчэ ёсць дэфініцыя, што “малая літаратура” — гэта літаратура, якая не ўплывала на саму мадэль, і з гэтага пункту гледжання ёсць вельмі мала “вялікіх” і шмат-шмат “маленькіх” літаратур. “Малая літаратура” — гэта ў прынцыпе норма!

**— Што здзівіла вас на Беларусі?**

— Мне здаецца, тут вельмі добрае стаўленне да ўласнай традыцыі. Разам з тым, вельмі шкада, што беларусы не ўжываюць сваю мову шырока. Яшчэ Беларусь — напраўду вельмі прыгожая краіна! Мне падабаецца тое, што тут, магчыма, лічыцца нядобрым, бедным, “немадэрновым” — вёскі з драўлянымі хатамі, неасфальтаваныя дарогі, лес і г.д. У гэтым каштоўнасць і, можа, небяспека развіцця. Тут ёсць рэчы, якіх у Германіі ўжо няма, і мне гэта падабаецца. І людзі тут мне падабаюцца. Беларусы — вельмі адкрытыя. На Беларусі, як і на Захадзе, кожны сам за сябе, але захаваўся нейкі “вясковы” элемент — калі не больш цесныя стасункі, то, прынамсі, большая падтрымка. Я знайшла тут добрых сяброў, і гэта для мяне вельмі каштоўна.

*Маладзічок*

# Пазнавальна, займальна, павучальна

Мікола МАЛЯЎКА

***Анатоль Зэкаў. Зязюля Гулюля: казкі, вершы. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011.***

У гэтай кніжцы сабраліся ці не ўсе нашы звяры і птушкі. Іх гнёзды, норы, сляды і галасы амаль на кожнай старонцы. А зязюля патрапіла нават на вокладку. Каб даведацца, адкуль у яе такое незвычайнае імя — Гулюля, — пачытайце новую кніжку Анатоля Зэкава “Зязюля Гулюля”.




Празаічныя казкі распавядуць таксама, чаму птушкі не сівеюць, пра што сойка крычыць, як вожык калючым стаў, адкуль кветкі з’явіліся, калі луг і поле пасябравалі, як нябесная зорка бярозкай стала… Кожная казка — гэта своеасаблівая падказка-перасцярога ад кепскіх учынкаў, урок дабрыні і справядлівасці. Некаторыя з іх, каб весялей чыталіся і не забываліся, рытмічна арганізаваныя, агучаныя рыфмай, як вершы. Напрыклад, “Чатыры зярняткі”. Асенні вецер-віхор сарваў з клёна і закінуў на чужыну зярняткі. І толькі адно з іх наважылася сігануць з вышыні ў страшную раку, чорную і бурлівую. З вялікімі цяжкасцямі вярнулася яно на радзіму і прарасло, паднялося прыгожым дрэўцам побач з клёнам-бацькам. Астатнія зярняткі засохлі на чужыне, у сыпучым пяску. А казка гэта ці праўда — скажуць самі чытачы, уявіўшы сябе на месцы тых зярнятак.

З першых слоў прыцягвае ўвагу завязка-зачын, як у народных казках: “Жылі-былі…”, “Даўно гэта было…”, “Хочаце — верце, хочаце — не…” Ласкавы зварот, даверлівая інтанацыя яднаюць аўтара з чытачом. Як быццам не пісьменнік, а блізкі чалавек распавядае пра незвычайныя прыгоды звяроў і птушак, пчол і мурашоў, дрэў і раслін.

У другім раздзеле кніжкі сабраны вершы, скорагаворкі, загадкі. Арыгінальныя па задуме, яны запамінаюцца мастацкімі вобразамі, нечаканымі сюжэтнымі паваротамі, жывой, афарыстычнай мовай. “Вучоныя” вароны прачыталі ўвесь буквар. Дружна яны, гарластыя, агучвалі словы “кар-карані”, “кар-карась”, “кар-каралі”…. А запомнілі з той навукі толькі “кар”.

Такія сюжэтныя вершы, з дыялогамі дзейных асоб і аўтарскім тэкстам, можна сабраць разам, інсцэніраваць і паказаць на школьнай сцэне або ў дзіцячым садку.

Блытаюць і смешаць дзяцей скорагаворкі — жартаўлівыя фразы, пабудаваныя на спалучэнні гукаў, цяжкіх для хуткага вымаўлення. У Анатоля Зэкава гэта не проста фраза, адзін ці два радкі, а невялікія вершы — кожны са сваім героем і характэрным для яго атрыбутам.

*Гром*
*Над борам*
*Угары*
*Грукнуў грозна ў тры вядры.*

*Аж да вечара ў бары*
*Грукацелі*
*Тры вядры.*

Вершы-скорагаворкі можна прамаўляць і асобна, сам-насам з кніжкай, і выкарыстоўваць на занятках — у працы над тэхнікай вымаўлення.

Гуляючы найперш у хованкі, не абысціся без лічылак. На жаль, аўтар тут не арыгінальны: ён проста пералічвае імёны хлопчыкаў і дзяўчынак, рыфмуючы Коля — Оля, Саша — Маша — Даша… А варта было ўзяць за ўзор народныя лічылкі, таямнічыя і загадкавыя, як замова-варажба, — і тым цікавыя для дзяцей.

Пазнаваць прыроду, навакольны свет дапамагаюць загадкі. Гэта адначасова і вясёлая гульня, і сур’ёзны ўрок — думай, зазірай у падручнікі, даведнікі і слоўнікі, каб не трапіць пальцам у неба.

*Што за кветачка такая*
*На вадзе зіхціць-гайдаецца:*
*Днём на сонцы загарае,*
*Уначы ў рацэ хаваецца?*

Аўтар часта ставіць пытанні, на якія чытачы павінны адказаць. І трэба добра “паламаць” галаву, каб знайсці дакладны адказ. Бо вершаваныя творы перасыпаны дасціпнымі заданнямі, каламбурамі-жартамі, у якіх выкарыстоўваюцца розныя словы, блізкія па гучанні, або розныя значэнні аднаго і таго ж слова.

Пазнавальна, займальна, павучальна — так сцісла можна ахарактарызаваць новую кніжку Анатоля Зэкава “Зязюля Гулюля”. Гэтая мастацкая чытанка — добры падарунак дзецям, іх бацькам і настаўнікам. Казачны свет, створаны аўтарам, аздобіла вясёлкавымі фарбамі мастачка Галіна Хінка-Янушкевіч.

**Паэтаў, празаікаў, мастакоў, музыкаў — усіх іх яднае імкненне раскрыць багацце ўнутранага свету чалавека, захаваць нашу высокую духоўнасць, назапасіць як мага болей і перадаць сваім нашчадкам. Лепшае, створанае чалавекам на працягу тысячагоддзяў, захоўваецца ў музеях, у гэтых храмах культуры. Культура — арганічнае знітаванне розных бакоў чалавечай дзейнасці. Увогуле — гэта творчасць самога жыцця. Так, што невыпадкова, да Дня работнікаў культуры было прымеркавана адкрыццё выстаўкі "Планета творцаў і іх герояў" — гэта сумесны праект Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, у сценах якога і ладзілася выстаўка, і Нацыянальнага мастацкага музея нашай краіны.**




# Сумоўе майстроў

Віктар КАВАЛЁЎ, фота аўтара

Экспазіцыю склалі тыя матэрыялы з фондаў абодвух музеяў, што раскрываюць творчасць выдатных дзеячаў мастацтва і літаратуры Беларусі. Праз незвычайную выстаўку адбылося сапраўднае сумоўе літаратуры, жывапісу, графікі, скульптуры — твораў знаных майстроў. Некаторых з іх ужо няма, але засталася іх спадчына.

Беларускае выяўленчае мастацтва і літаратура цесна знітаваныя паміж сабой прыродай творчых пошукаў і імкненнем да паўнаты адлюстравання жыцця. Дадзеная выстаўка — цудоўная магчымасць не толькі азнаёміцца са скарбамі нацыянальнага прыгожага пісьменства, але і ўбачыць фантазійнае ўвасабленне герояў твораў айчыннай літаратуры і саміх творцаў слова ў палотнах, графіцы і скульптуры ў выкананні такіх славутых суайчыннікаў-мастакоў, як П. Сергіевіч, І. Ахрэмчык, З. Паўлоўскі, У. Стальмашонак, М. Будавей, М. Апіёк, А. Замай, Е. Ганкін, В. Барабанцаў, С. Вакар, Г. Мурамцаў, А. Чыгрын, А. Шатэрнік, А. Кашкурэвіч, Г. Паплаўскі, А. Волкаў, А. Дзяталь, А. Дзямарын, С. Герус, У. Басалыга, У. Савіч, У. Малахаў, І. Давідовіч, М. Лісоўскі, Я. Ціхановіч…

Побач з карцінамі месяцца стэнды з кніжнымі даследаваннямі па гісторыі беларускай літаратуры, а таксама серыі выданняў "Беларускі кнігазбор", "Беларусь літаратурная", наша паэзія і проза XX і XXI стагоддзяў.



У кніжных ілюстрацыях, на паперы, на палатне дзякуючы таленавітым майстрам ажываюць іх героі — героі, якія самі ёсць творцы: творцы мастацкага слова. Гэта такія знакамітыя постаці, якія стваралі і працягваюць ствараць наш культурны здабытак, як Францыск Скарына, Сімяон Полацкі, Адам Міцкевіч, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Алаіза Пашкевіч, Эдуард Самуйлёнак, Максім Гарэцкі, Алесь Звонак, Кузьма Чорны, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Янка Маўр, Іван Шамякін, Андрэй Макаёнак, Пімен Панчанка, Уладзімір Караткевіч, Іван Чыгрынаў, Алесь Адамовіч, Іван Навуменка, Іван Мележ, Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Яўгенія Янішчыц.



Мастацкае слова, прапісанае рукой майстра, усіх кранае і аб'ядноўвае. Мастацкае слова пануе ў нашым агульным літаратурным доме. І ўсіх мастакоў, майстроў слова, прыхільнікаў іх творчасці яднае свята сейбітаў на ніве беларускай культуры.

Як зазначыла дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч, свята сабрала ў гэтай зале музейшчыкаў, мастакоў, пісьменнікаў, творцаў — усіх, хто працуе дзеля культуры, дзеля таго, каб гучала беларускае слова, каб нас вела ва ўсім свеце. Прыкладам, паэзія — адвечная цяга вяршынь да нябёс, а траў і дрэў — да сонца. Паэзія паўсюль — у жывапісе, графіцы, скульптуры, прозе, у нашым жыцці. На чым бы ні спыніліся нашы вочы, мы шукаем гэтыя драбінкі дабрыні і харараства. І, відаць, у такія хвіліны ў людзей таленавітых і нараджаюцца паэтычныя радкі, карціны, скульптуры. За тысячагоддзі свайго існавання чалавецтва не спынілася ў пошуках любові, дабра і прыгажосці.

Кожны чалавек — гэта сапраўдная планета, якая рухаецца па арбіце жыцця. На ёй узнікае наш лёс, пачуцці, уцелясняюцца мары. Літаратура і выяўленчае мастацтва, дапаўняючы адно аднаго, раскрываюць багацце душы чалавека ўвогуле, акрэсліваюць нацыянальны характар, назапашваюць і пацвярджаюць высокую духоўнасць свайго народа.

***На здымках: Алесь Шатэрнік "Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч" (1983); Зянон Паўлоўскі "Пісьменнік Іван Мележ. Сяброўскі шарж" (1964); Уладзімір Стальмашонак "Максім Гарэцкі" (1983).***

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА, фота Віктара Кавалёва

У нядзелю ўрачыста адкрыецца міжнародны фестываль мастацтваў "Беларуская музычная восень". Цэнтрам падзеі будзе сталічная філармонія: у яе Вялікай зале запланаваны 21 канцэрт. На 23 кастрычніка рыхтуецца ўрачыстае адкрыццё фэсту з удзелам Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава ды віяланчэліста Назара Джурына (Украіна — ЗША): прагучыць музычна-літаратурная кампазіцыя "Рамэа і Джульета" паводле балетнай сюіты Сяргея Пракоф'ева і яго ж Канцэрт-сімфонія для віяланчэлі з аркестрам — у гонар 120-годдзя з дня нараджэння кампазітара. Да гэтай даты прымяркоўваюць свае выступленне Мінскі струнны квартэт і піяніст, мастацкі кіраўнік БДФ Юрый Гільдзюк (31 кастрычніка). Адзін з найвядомых сучасных польскіх кларнетыстаў і кампазітараў Вацлаў Зімпель ды квартэт "Hera", названы ў гонар антычнай багіні, будуць 25 кастрычніка граць джаз — свой джаз, які з'яўляецца матывацыяй духоўнага пошуку і адметнай палемікай з музычнай традыцыяй. А наступным вечарам у Мінск завітае піяніст Аляксей Чарноў — 28-гадовы расійскі музыкант, якому ўдалося стаць лаўрэатам сёлетняга Міжнароднага конкурсу імя П. Чайкоўскага, не прайшоўшы адборачны тур, і які сваім галоўным заняткам лічыць кампазіцыю... Фестываль, які працягнецца да 15 лістапада, абяцае нямала іншых музычных сюрпрызаў.

Да 85-годдзя з дня нараджэння народнага артыста БССР Валерыя Глушакова прымяркоўваўся канцэрт цыкла "Легенды беларускай оперы". Гэты вечар адбыўся ў Камернай зале імя Л. П. Александроўскай НАВТ оперы і балета Беларусі і сабраў у праграме салістаў розных пакаленняў, якія спявалі рамансы, фрагменты з опер Ш. Гуно, Дж. Вердзі, Дж. Пучыні, Ж. Маснэ, А. Барадзіна, С. Рахманінава, Я. Цікоцкага, А. Туранкова, Ю.Семянякі ў суправаджэнні аднаго з найстарэйшых канцэртмайстраў тэатра — Георгія Каранта. Вечар прамінуў, але ў фае засталася кранальная выстаўка з архіўнымі фотаздымкамі, якая нагадвае пра творчы шлях Валерыя Глушакова — беларускага самародка, уладальніка дзвоснага лірычнага тэнара, майстра сцэнічнага пераўвасаблення, чые оперныя ролі яшчэ памятаюць яго калегі ды прыхільнікі.



Рэтраспектыўная выстаўка манументальнага мастацтва ўсіх рэгіёнаў нашай краіны за 20 гадоў прайшла ў галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Зразумела, мастацтва такога кшталту "жыве" ў сваім асяроддзі, аздабляючы архітэктурны ландшафт, гарадское наваколле ці інтэр'ер. Таму "экспанаты" — 75 работ сямі айчынных аўтараў: помнікі, вітражы, размалёўкі — дэманстраваліся на фотаздымках.

***На здымку: народны артыст БССР Валерый Глушакоў у ролі Звездачота з оперы "Залаты пеўнік".***

**Установа адукацыі "Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі" аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад (да 5 гадоў) прафесарска-выкладчыцкага складу (для тых, хто мае мінскую рэгістрацыю) з далейшым заключэннем кантракту ў выпадку выбрання на тэрмін, вызначаны Наймальнікам:**

*кафедра тэорыі музыкі:*
старшы выкладчык
дацэнт ........................................ 2 ст.
выкладчык
*кафедра спецыяльнага фартэпіяна:*
выкладчык
*кафедра струнных смычковых інструментаў:*
дацэнт
прафесар
*кафедра камернага ансамбля:*
старшы выкладчык
*кафедра кампазіцыі:*
дацэнт
*кафедра фартэпіяна:*
старшы выкладчык ........................................ 2 ст.
загадчык кафедрай
*кафедра драўляных духавых інструментаў:*
прафесар
*кафедра струнных народных шчыпкова-ўдарных інструментаў:*
прафесар
*кафедра опернай падрыхтоўкі:*
старшы выкладчык
*кафедра спеваў:*
старшы выкладчык ........................................ 2 ст.
*кафедра філасофіі:*
выкладчык
*кафедра музычнай педагогікі, тэорыі і гісторыі выканальніцкага майстэрства:*
загадчык
*кафедра баяна і акардэона:*
загадчык кафедрай
прафесар

# Ступень творчай шчырасці

**Міхась СОЛАПАЎ,
заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь,
прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі,
фота Уладзіміра Часных**

**Той урачысты і знакавы для нашай нацыянальнай культуры, для духоўнага жыцця лютаўскі дзень — міжнародны Дзень роднай мовы — запомніўся вельмі адметнай, сімвалічнай музычна-літаратурнай падзеяй. На сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра адбылася прэм'ера рок-оперы “Курган” Ігара Лучанка — Уладзіміра Мулявіна, паводле аднайменнай паэмы Янкі Купалы, у пастаноўцы Андрэя Скарынкіна, а працягам таго святочнага вечара стаўся эстрадны канцэрт, прысвечаны 70-годдзю Уладзіміра Мулявіна.**



Араторыя “Курган” створана таленавітым кампазітарам Ігарам Лучанком на аснове паэмы геніяльнага беларускага песняра Янкі Купалы паўстагоддзя таму. (Гэта была дыпломная работа І. Лучанка, які праз год, у 1962-м, зрабіў другую рэдакцыю “Кургана” — для хору, сімфанічнага аркестра і салістаў. — **Рэд**.) Яскравая захапляльная музыка трапіла ў поле зроку сябра Ігара Міхайлавіча — таленавітага прапагандыста беларускага музычнага мастацтва Уладзіміра Мулявіна, кіраўніка ўнікальнага ансамбля “Песняры”, самага шчырага беларуса сярод расіян.

Уладзімір Мулявін — мастак-чараўнік, пад назвай “Гусляр” яго версія гэтага твора пры канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя знаменавала пошук новых жанраў, стыляў, новых сродкаў музычнага выяўлення. А імкненне да пошуку — заўсёды рызыка, але ж рызыка — гэта і свабода. І ўрэшце мастацкая аўтарская аранжыроўка Уладзіміра Мулявіна ўвасобіла шляхетную прастасць, патрыятычную ўзнёсласць Гусляра, драматычную калізію агульнага дзеяння рок-оперы, што ў поўнай меры ўздзейнічала на душу, думкі слухачоў, пры гэтым дарыла ім эстэтычную радасць і аптымізм ва ўспрыманні існага ў прыродзе і творчасці. Тэатралізаваны музычны твор “Гусляр” Ігара Лучанка і Уладзіміра Мулявіна паводле паэмы Янкі Купалы “Курган” стаўся, бадай, самым заўважным знакам працэсу развіцця музычнай культуры Беларусі васьмідзясятых.

А на пачатку 2010-га, з нагоды 100-годдзя стварэння паэмы Янкі Купалы “Курган”, таленавіты паэт, руплівец беларускага мастацтва Андрэй Скарынкін задумаў пастаноўку аднайменнай рок-оперы. Ідэі творчых праектаў могуць нараджацца хутка, але на шляху іх здзяйснення часцей сустракаюцца ўпоры, чым апоры. Аднак два міністэрствы краіны — інфармацыі і культуры — знайшлі магчымасці для падтрымкі гэтага праекта Андрэя Скарынкіна.

Выканаўцаў рок-оперы “Курган” ён сабраў адметных. Што ні імя — то зорка, народныя і заслужаныя артысты: Валерый Анісенка, Анатоль Ярмоленка, Іна Афанасьева, Валерый Дайнека, Алена Спірыдовіч, Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі пад кіраўніцтвам Валянціна Дудкевіча, балетмайстар-пастаноўшчык Аляксандр Аляшкевіч, арт-група “Беларусы” на чале з Валерыем Шматам, рэжысёр Ніна Осіпава, саліст “Верасоў” Ян Маерс... Ужо нават гэты (дарэчы, няпоўны) іх пералік можа выклікаць у аматараў айчыннай эстрады захапленне.

Працуючы над пастаноўкай, Андрэй Скарынкін выкарыстоўваў шырокі філасофскі падыход да ўвасаблення мастацкіх вобразаў вакальнымі, музычна-інструментальнымі, сцэнічнымі сродкамі, імкнучыся да таго, каб аўдыторыя зразумела і ацаніла адметнасць душы кожнай дзейнай асобы. Інтэрпрэтатар гэтага таленавітага твора імкнуўся наладзіць сувязь часоў праз дасягненне цэласнасці ў спалучэнні асноўных знакавых дасягненняў у галіне сінтэтычнага мастацтва.

Прытым Андрэй Скарынкін сумясціў дзве найважнейшыя іпастасі: выступіў у якасці пастаноўшчыка і арганічна ды шчыра выканаў галоўную партыю, ролю Гусляра. Яго ўвасабленне вылучалася індывідуальнай энергетыкай, выразнасцю абрысаў складанага вобраза, але разам з тым пэўнай дэкаратыўнасцю.

> *“Беларускі саюз музычных дзеячаў вылучыў на атрыманне спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва аўтарскі калектыў у складзе: Ігар Лучанок (аўтар музыкі), Валянцін Дудкевіч (аўтар харэаграфіі), Андрэй Скарынкін (аўтар і кіраўнік праекта, выканаўца галоўнай ролі Гусляра) — за стварэнне рок-оперы “Курган”, пастаноўка якой на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра 21 лютага 2011 года, у міжнародны Дзень роднай мовы, выклікала вялікае грамадскае прызнанне.*

Поспех спектакля — вынік працы калектыўнай. Выканаўцы з густам і прафесійна прадставілі сваіх персанажаў, цікава і трапятліва трактаваных рэжысёрам. Істотная роля адведзена арт-групе “Беларусы”, якая здзяйсняе жывое вакальнае суправаджэнне ўсіх сольных партый рок-оперы. Моцны бок гэтага творчага праекта — інструментальны гурт на чале са Святаславам Пазняком: Сяргей Анцішын, Вячаслаў Міхновіч, Сяргей Трухановіч.

Пазітыўная ў цэлым ацэнка паказу рок-оперы “Курган” зусім не з'яўляецца сведчаннем таго, што не было заганаў: не ўсё атрымалася, як было задумана. Аднак недахопы не паўплывалі на агульнае змястоўнае ўздзеянне імпрэзы і святочнае ўражанне ад убачанага і пачутага. Сінтэтычнае мастацтва стваральнікаў новай версіі таленавітага твора ўспрымалася як дзівосны жывы арганізм: ён захапляў аўдыторыю дынамічнасцю, палкай публіцыстычнасцю, высокай духоўнасцю, эмацыянальным напружаннем, глыбокім пранікненнем у свет чалавечых думак і пачуццяў. І міжволі думалася: “Вось — яркая падзея, вартая Дня роднай мовы”. Галоўнае засталося галоўным!



***На здымках: Андрэй Скарынкін у ролі Гусляра; харэаграфічны эпізод рок-оперы “Курган” з удзелам Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі.***

# Вечнае натхненне

**Уладзімір ВАСІЛЁНАК**

**Насычаным і адказным выдаўся верасень для сталічнай Дзіцячай музычнай школы № 10 імя Я. А. Глебава. У шматгалоссі святочнай музыкі прагучалі выступленні калектываў і салістаў школы ў Дзень горада. Шмат гадоў педагогі і вучні гэтай знакамітай навучальнай установы ладзяць ва ўрачысты для сталіцы дзень канцэрты на адкрытых пляцоўках Мінска: каля гарадской ратушы, Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, у новай пешаходнай зоне па вуліцы Камсамольскай, а таксама ва ўнутраным дворыку Музея гісторыі горада Мінска, што на вуліцы Рэвалюцыйнай.**

Як заўсёды моцна і эмацыянальна прагучала выступленне школьнага аркестра народных інструментаў. Яго кіраўнік Наталля Ручымская здолела не проста сабраць калектыў пасля працяглых летніх вакацый, але і перадаць святочны настрой гэтага дня дый зарадзіць усіх слухачоў гонарам за свой горад, за свой народ. З запалам і яскрава прагучалі беларускія матывы ў выкананні педагогаў школы А. Дзегцяровай, Т. Краснабаевай, Г. Немцавай, дуэта баяністаў Ірыны і Аляксея Дараганавых, квартэта драўляных духавых інструментаў “Рыўера” пад кіраўніцтвам М. Расохі. Вялікую цікавасць у публікі выклікаў малады джазавы калектыў, які нядаўна быў створаны ў школе (кіраўнік — Д. Бініят). Ён прыцягваў да сябе агульную ўвагу на скрыжаванні вуліц Камсамольскай ды Інтэрнацыянальнай.

Яшчэ адной важнай падзеяй для школы стаўся традыцыйны вечар памяці Яўгена Глебава, што сёлета адкрыў першы сезон у новай канцэртнай зале “Верхні горад” (памяшканні рэканструяванай царквы Святога Духа). “Для нас гэта вялікі гонар”, — адзначыла ў сваім выступленні дырэктар школы Тамара Куніцкая. Аднаўленне гэтага гістарычнага будынка ў якасці культурнага асяродка стала значнай вяхой не толькі для музыкантаў, але і для ўсіх, хто цікавіцца нацыянальнай культурай”. На канцэрце прысутнічалі будаўнікі, прадстаўнікі музычнай грамадскасці, сродкаў масавай інфармацыі.

Юныя артысты з годнасцю вытрымалі гэты іспыт і пераканаўча прадэманстравалі свой прафесійны ўзровень у новых для ніх абставінах. Строгая архітэктура залы: калоны, вітражныя вокны і высокія скляпенні купалоў — усё гэта надавала ўрачыстасць выступленням дзяцей. Асабліва трэба адзначыць Рамана Малчанскага (2 клас, фартэпіяна), Канстанціна Каштальяна (4 клас, скрыпка), Рамана Бабарыкіна (4 клас, саксафон), сольныя нумары якіх напаўнялі жывым гукам і эмоцыямі вялізную прастору. Як заўсёды зладжана прагучалі ўзорны хор старэйшых класаў (кіраўнік А. Клімовіч), канцэртны малодшы хор (кіраўнік Г. Аерава), чароўнымі пералівамі цымбалаў і баянаў завяршыў вечар узорны аркестр народных інструментаў.

Большую частку канцэрта складалі творы Я. Глебава. Удава кампазітара Ларыса Васільеўна адзначыла вялікую ролю педагогаў і вучняў у захаванні памяці Яўгена Аляксандравіча і падаравала школе шэраг кніг і падручнікаў. Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, член прэзідыума праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Тамара Куніцкая падзякавала ўдзельнікам і гасцям канцэрта, а таксама выказала ўпэўненасць, што мастацтва вялікага беларускага кампазітара заўсёды будзе натхненнем для юных музыкантаў.

## Нашы юбіляры



**Яўген Пятровіч ГЛАДКОЎ** — загадчык кафедры, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, народны артыст Беларусі, старшыня Асацыяцыі беларускіх цымбалістаў Беларускага саюза музычных дзеячаў, член прэзідыума праўлення БСМД;



**Тамара Арцёмаўна КУНІЦКАЯ** — дырэктар дзіцячай музычнай школы №10 імя Я. А. Глебава г. Мінска, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, член прэзідыума праўлення БСМД;



**Валерый Іванавіч УКОЛАЎ** — артдырэктар некамерцыйнага прадзюсарскага цэнтра “Класіка” Беларускага саюза музычных дзеячаў, член праўлення БСМД;



**Міхаіл Аляксандравіч ГАЛАВАЧ** — дырэктар дзіцячай музычнай школы № 1 імя П. І. Чайкоўскага г. Гомеля.

# Чароўны маленькі свет

Таццяна КАТОВІЧ,
фота Ганны Жыгур

**На Малой сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа адбылася прэм'ера спектакля "Маленькі свет" паводле п'есы Алены Паповай у пастаноўцы Таццяны Сядовай, са сцэнаграфіяй Аляксандра Слепава і музычнай партытурай Аляксандра Крыштафовіча.**

Бліжняе кола кожнага з нас — маленькі свет — неабавязкова самыя блізкія і родныя, а магчыма, некалі наогул выпадкова сустрэтыя, і ўсё ж тыя звыклыя людзі, з прысутнасцю якіх у нашым жыцці мы змірыліся, нібыта з уласнай скурай, і якія зрабіліся неабходнымі, быццам паветра.

Гэта — эпіграф да жаночай старасці… таго пакалення, якое нарадзілася пасля вайны, паўстагоддзя таму. Якое прайшло праз мітрэнгі жыцця, праз свае выпрабаванні, праз здрады, праз турботы, праз радасці — да адзіноты. Якую кожная спраўляе па-свойму, і абараняецца ад жыцця, як можа.

П'есы Алены Паповай нагадваюць змадэляваныя канструкцыі. Часцей за ўсё яны — не фрагменты жыцця, хаця пад гэта маскіруюцца, а зададзеныя эксперыментатарам умовы чалавечай гульні. Прыгадваецца з Барыса Пастэрнака: "<…> это не названия картин, / Не сцены, но — разряды материалов. / Что в них есть шум и вес сыпучих тел". Сапраўды, перад намі нібы рэальныя людзі, якія гавораць рэальныя словы, між імі існуюць рэальныя адносіны. І разам з тым, у самой аснове "сшыўкі"-мантажа сітуацый заключана нешта такое, што дазваляе расшыфроўваць п'есу па-рознаму, нават зусім процілегла напісанаму драматургам. Віталь Баркоўскі, рэжысёр, які найбольш часта супрацоўнічае з Аленай Паповай, раскрывае таямніцы падсвядомасці яе персанажаў, да немагчымасці расцягваючы рытмы іх існавання і пакідаючы іх у паралельных плоскасцях. Гэта датычыла яго колішніх пастановак у Коласаўскім тэатры і цяперашніх у Смаленску...

Таццяна Сядова, упершыню сутыкнуўшыся з такой складанай і шматузроўневай драматургіяй, пайшла арыгінальным шляхам. У яе атрымаўся… постмадэрнісцкі абсурд. Гэта і лагічна і пісьменна: сюжэт, дзе чатыры немаладыя жанчыны збіраюцца штогод з нагоды тэлефанавання з-за мяжы іх пятай сяброўкі і апынаюцца ў экстрэмальнай сітуацыі, з якой кожная і пачынае пошук ісціны, — такі сюжэт дастаткова камедыйны, калі яго чытаць на ўзроўні павярхоўнага пласта. Не менш камедыйны ён і на ўзроўні філасофствавання ці метафізікі. Адным словам, для сённяшняга дасведчанага гледача, маладога, іранічнага і звыклага да вытанчаных метафар, простыя пастановачныя хады былі б надзвычай простымі і нецікавымі.

Першым кантрапунктам, які спалучае-сутыкае несумяшчальнае, з'яўляецца канфлікт рэжысёрскай партытуры з візуальным вобразам спектакля.

Пастаноўшчыца задае акцёрам зусім рэалістычную будзённую пластыку і такую ж танальнасць. Сцэнограф жа апранае іх у мілітарызаваныя доўгія строі-шынялі глыбокага зялёнага колеру з аранжава-крыклівымі ўстаўкамі. Аксельбанты, залатыя пазументы, залатыя ж гузікі, вялізныя шліцы… І ўсё ж нічога цыркавога ў гэтых гіпертрафіраваных дэталях няма. Няма і ніякіх падтэкстаў ці намёкаў на схаваны сэнс. Ёсць першы пласт сутыкнення: яркія колеравыя плоскасці процістаяць адна адной. Другі пласт знаходзіцца ў самой дэкарацыі, якая складаецца з дзвюх створак-варот, плоскасці якіх разбітыя на квадраты з фрагментамі фігур, целаў, прадметаў, і дзіўнага фатэля, які з'яўляецца ці то тронам, ці то ўнітазам, ці то гіганцкім венскім крэслам. Трэці пласт: жанчыны ў гэтых доўгіх шынялях здаюцца надзвычай прыгожымі, нязвыкла прыцягальнымі, быццам яны з'явіліся з нейкіх іншых прастораў, а можа, і з нейкіх іншых стагоддзяў, бо з-пад дзіўных апранах выглядваюць чароўныя белыя карункі і атласныя спадніцы.

Драматычны канфлікт узнікае не *паміж* жанчынамі, хаця амаль увесь тэкст складаецца з іх узаемных папрокаў і напамінаў пра былыя грахі. Спектакль робіцца шматлікімі праекцыямі чатырох асабістых і асобных канфліктаў. Пастаноўшчыкі ствараюць віртуальную сістэму люстэрак, у якіх перасякаюцца адбіткі лёсаў, слоў, пачуццяў, а мы з глядзельнай залы бачым толькі фрагменты такіх адбіткаў. Мы павінны здагадацца пра іх мінулае і пра іх цяперашняе.

Дзіўную сітуацыю, калі чатыры немаладыя жанчыны прытулілі хлопца (у ролі Артура — Яўген Бераснеў, а таксама Ягор Дзяюн), што накіроўваўся ў Тыбет, сыгралі на віцебскай сцэне як... сутыкненне сколкаў, напластаванне кліпаў, у алагічнай стылістыцы мастацкага выказвання. Безумоўна, тут паўплывалі мастацкія прыхільнасці Аляксандра Слепава, у мінулым члена творчага аб'яднання "Квадрат", сёння — мастака Коласаўскага тэатра, чалавека нешараговага, артыстычнага, яркага і кранальнага. Рэжысёр Таццяна Сядова тонка адчула кірунак яго мыслення і, не процістоячы яму, стварыла свой невялічкі свет унутры яго свету, і агульны твор заблішчэў маленькім чароўным дыяментам.



***На здымку:* сцэна са спектакля "Маленькі свет".**

***Галіна Букаціна.*** *Гэты матэрыял не зусім мой, я маю на ўвазе мае акцёрскія схільнасці… "Ціхая, ціхая, добрая, добрая, а сярод нас — самы рэнегат", — кажа пра маю гераіню яе сяброўка. Жыццё яе пабіла моцна і так прыбіла да зямлі, што ніколі яна на неба не глядзела… І гэты хлопец-"анёл" раскрыў вочы ёй на ўсё. І яна застаецца на парозе, і што будзе далей, мы не ведаем. Я адчуваю, што ўсё, што здарылася, для яе — другое нараджэнне. Ліза, мая гераіня, неадукаваная, але ў ёй ёсць унутранае, інтуітыўнае адчуванне чысціні. Таму імкненне хлопца, якога закідвае ў яе маленькі свет лёс, яго імкненне ў Тыбет, успрымаецца ўсімі як імкненне да выратавання… Калі рыхтавалі спектакль, мы чулі адно аднаго і адчувалі адно аднаго.*

***Валянціна Багданава.*** *П'еса складаная, і мы вельмі шмат спрачаліся, і нарэшце прыйшлі да агульнага. Спектакль пра тое, як мы ўсе жывём: мы ж нікому ўжо не верым. Само жыццё такое. Мая гераіня Жанна думае, што хлопец абрабаваў яе, хапаецца, правярае свае рэчы, шкатулку з золатам, а там усё цэлае. І ёй сорамна за сябе… Шукала ўнутры сябе самой гэты асабісты драматызм. У маленькім свеце сяброўак маёй гераіні шмат супярэчлівага, яны заўсёды спрачаюцца… Калі рыхтавалі спектакль, імкнуліся зразумець адна адну, і цяпер на сцэне мы — адзінае. Мы хацелі данесці ісціну пра маленькі свет. Нашым гераіням хлопчык адкрыў наваколле. І яны змяніліся ўнутрана, іх душы адталі.*

***Ларыса Антосева.*** *Вольга, мая гераіня, таленавітая, разумная і — адзінокая. Унутры яе — няўпэўненасць, зайздрасць, нецярпімасць. Яна шукае прычыну, чаму з ёй здарылася ўсё гэта, такое жыццё, такая самота. Хлопчык жа ў юным узросце зразумеў яе, у яго дарослая душа, а ў Вольгі — не. Яна дзякуючы хлопчыку пачала разумець, чаму такое жыццё пражыла. І яна адчувае шчасце ад спасціжэння праўды. Я імкнуся зразумець сваю гераіню менавіта як адну з тых многіх, што бягуць па жыцці і ад жыцця.*

***Зінаіда Гурбо.*** *Мая гераіня Пескунова, нібыта львіца, вольная, незалежная, можа дазволіць сабе сказаць тое, што лічыць патрэбным, і робіць тое, што лічыць патрэбным. Аднак гэта — бравада і яе форма выжывання. Яна ніколі не енчыць, яна імкнецца трымаць усё ў руках і руліць. Наогул жа, яна адзінокая… І моцная. Дэпрэсіі і прага смерці — у мінулым. Яна прайшла і праз гэта, і цяпер ганарыцца сваёй сілай.*

# Адкрыліся прэм'ерай

Ірына ВАРНІНА,
загадчыца літаратурнай часткі
МДТ імя І. Мележа

У новым тэатральным сезоне творчы калектыў Мазырскага драматычнага тэатра імя І. Мележа парадуе гледачоў прэм'ерамі, сярод якіх спектакль "Інтымная гісторыя" паводле п'есы вядомага англійскага драматурга Ноэла Каўарда. Яго лёгкія, іранічныя, напоўненыя тэатральнасцю тэксты да нашых дзён запатрабаваныя на еўрапейскіх падмостках, у тым ліку і ў Беларусі.

Гэта другі зварот вядомага беларускага рэжысёра Рыгора Баравіка да творчасці Ноэла Каўарда. І хаця гэтая яго п'еса была ўпершыню пастаўлена на сцэне тэатра "Фенікс" у Лондане 24 верасня 1930 года, яна актуальная і ў наш час. Свет пачуццяў, узаемаадносіны мужчыны і жанчыны… Што можа быць больш загадкавым і незразумелым? Так было і ў XX стагоддзі, так ёсць і ў XXI.

У гасцініцу французскага курортнага гарадка прыязджаюць дзве сямейныя пары (Сібіла і Эліёт Чэйз, Аманда і Віктар Прын) — бавіць свой мядовы месяц. На першы погляд, у гэтай сітуацыі няма нічога незвычайнага, калі б не адна акалічнасць: Аманда і Эліёт некалькі гадоў таму былі мужам і жонкай. І тут выпадкова сустрэліся зноў. Як жа развіваюцца падзеі далей? У чым загадка кахання? Пра гэта гледачы даведаюцца, калі прыйдуць на прэм'еру спектакля "Інтымная гісторыя", у якім занятыя вядучыя акцёры тэатра: Р. Цыркін, М. Кліменка, В. Кашынская, В. Дубраў, Н. Скамарохава, Ю. Шмак, Л. Харланчук, Н. Бакавец і іншыя. Дарэчы, гэтай прэм'ерай і адкрыўся новы сезон.

У новым сезоне наш тэатр парадуе публіку і класікай. Гэтым разам п'есай А. Астроўскага "На бойкім месцы". Уладальнік заезнага двара з назвай "На бойкім месцы" Вукол Бяссудны вядзе сваю гаспадарку рупліва і дбайна. У яго добры двухпавярховы дамок, вялікі плот, які хавае ад чужога вока шматлікія абставіны жыцця заезнага двара і яго жыхароў. Галоўнае для гаспадара — пастаяльцы, а самае галоўнае — каб яны плацілі грошы. Вукол Ермалаевіч гатовы ім служыць за гэта і ўдзень і ноччу. Дапамагаюць яму маладая жонка, даволі легкадумная і ўлюблівая асоба, — Яўгенія Міронаўна ды сястра Ганначка, якая пакутуе ад непадзеленага кахання да суседа — пана Мілавідава. У дзеяннях і ўчынках герояў наш сучаснік можа ўгледзець тое, што сустракаецца і ў сённяшнім жыцці. Спектакль будзе ставіць галоўны рэжысёр МДТ Раман Цыркін.

Не забудуцца ў тэатры і пра юных гледачоў. Неўзабаве пачнуцца рэпетыцыі навагодняй казкі.

Новы тэатральны сезон пачнецца 30 верасня прэм'ерай спектакля "Інтымная гісторыя".

# Актуальнасць класікі: ад альфы да... сігмы

## Пра першую кнігу анталогіі «Беларуская літаратурная спадчына»



**Ігар ЗАПРУДСКІ**

*Всяко писание Богом водъхненое полезно ест ко учению и ко обличению, исправлению, и ко наказанию правды.*

*З прадмовы Скарыны да "Псалтыра"*

За гады незалежнасці ў Беларусі назіраюцца відавочныя поспехі ў справе падрыхтоўкі і выдання разнастайных па характары літаратурных анталогій і хрэстаматый, прычым як акадэмічных, так і масавых. Не будзе лішнім назваць некаторыя з іх. Трохтомная "Анталогія беларускай паэзіі" (1993). Памятаецца, у той, далекаваты ўжо, эйфарыйны, хоць эканамічна і дэпрэсіўны, час Алег Лойка марыў ажно пра пяцітомнае выданне, якое бачылася паэту і даследчыку як вычарпальная творчая справаздача майстроў паэтычнага слова ад старажытнасці да сучаснасці. Чатырохтомная "Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі" (1997 — 2005), "Заняпад і адраджэнне: Беларуская літаратура XIX стагоддзя" (2001, укладальнік Уладзімір Казбярук), грунтоўная "Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI — першая палова XVIII стагоддзя" (2003), падрыхтаваная супрацоўнікамі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. Нягледзячы на відавочныя праявы рэдактарскага суб'ектывізму ў асобных з названых выданняў, адсутнасць нейкіх адзіных усталяваных прынцыпаў іх падрыхтоўкі, назапашаны за апошнія дзесяцігоддзі практычны досвед мусіць быць каштоўным матэрыялам для наступнікаў. А яны, на ўсеагульную радасць, не прымусілі сябе доўга чакаць.

У гэтым годзе ў выдавецтве "Беларуская навука" пабачыла свет першая кніга двухтомнай анталогіі "Беларуская літаратурная спадчына", якую падрыхтавалі С. Курбанава, А. Суша, Г. Галенчанка, В. Русак, І. Зайцаў, П. Лапо. У "Прадмове" да гэтай ёмістай (1029 старонак) кнігі сцвярджаецца: "*Асаблівасцю гэтага выдання з'яўляецца таксама тое, што яго ўкладаннем займаўся калектыў аўтараў-спецыялістаў з розных сфер навукі, культуры і адукацыі. Сярод укладальнікаў анталогіі — педагогі, філолагі, гісторыкі, культуролагі і бібліятэкары. Такі шырокі склад аўтараў дазволіў забяспечыць комплексны падыход да адбору і аналізу мастацкіх твораў айчыннай літаратуры, найбольш поўна сабраць разам лепшыя помнікі беларускага мастацкага слова*". Гэта адказная дэкларацыя. І сапраўды, калектыўнасць у такой працы, здаецца, павінна стацца толькі плюсам, які мусіць апрыёры гарантаваць больш высокі ўзровень падрыхтоўкі матэрыялаў. Аднак адразу хачу адзначыць, што навуковы ўзровень розных раздзелаў анталогіі істотна вар'іруецца ў залежнасці ад канкрэтных выканаўцаў.

Вельмі важнай для анталагічных выданняў з'яўляецца іх ідэя і мэта. Што хацелі паказаць складальнікі і для чаго? Увогуле ж, характар выданняў у значнай ступені вызначаецца і колам патэнцыяльных чытачоў, якім яны адрасуюцца. Пра гэта ў "Прадмове" гаворыцца адназначна: "*У выбары тэкстаў для анталогіі ўкладальнікі кіраваліся вучэбнай праграмай для агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання па беларускай літаратуры для V — XI класаў, зацверджанай Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь. Такім чынам, дадзенае выданне — гэта найбольш поўны збор літаратурных твораў, якія вывучаюцца беларускімі школьнікамі, які дазваляе атрымаць агульнае і даволі поўнае ўяўленне пра багацце беларускай літаратуры XI — пачатку XXI ст.*". Любое выданне, якое так ці інакш прэтэндуе на манументальнасць, не можа ў прынцыпе быць здзейснена без амбіцыйнага складніка, як у працы ўсіх зацікаўленых структур, так і канкрэтных выканаўцаў. Пасля прадмоўнага запэўнівання заставалася толькі парадавацца за нашу вучнёўскую моладзь, якой нарэшце будзе прапанавана вычарпальная крыніца мастацкіх тэкстаў.

*"Адно ясна: з'яўленне падобных выданняў заўсёды выклікае розгалас і неадназначныя ацэнкі. Так будзе, упэўнены, і ў нашым выпадку, калі не спрацуюць славутая карпаратыўнасць, захвальная замоўленасць і сакраментальная наша культурніцкая мляўкасць і абыякавасць.*

Тым не менш пры дэталёвым вывучэнні зместу рэцэнзаванай кнігі высветлілася, што мае надзеі былі ў пэўнай ступені няспраўджаныя. У анталогію не ўвайшло каля 40 твораў, якія прапануюцца для абавязковага вывучэння ў азначанай вучэбнай праграме. Каб не быць галаслоўным, прывяду колькі адсутных пазіцый: казка "Разумная дачка", Скарынавы прадмовы да кніг "Іоў" і "Юдзіф", Цётка "Мора", Алесь Гарун "Датрымаў характар", "Ты, мой брат, каго зваць Беларусам...", Максім Гарэцкі "Літоўскі хутарок", Якуб Колас "Крыніца", "Жывая вада", "Конь і сабака", "Думкі ў дарозе", "Беларусам", нарэшце, відаць, замест апавядання "Хмарка" змешчаны верш "Хмаркі" (дарэчы, многія "праігнараваныя" творы называюцца ў прадмовах да адпаведных падраздзелаў)... І гэты спіс можна доўжыць. У такой жа ступені няпоўна прадстаўлена творчая спадчына і іншых класікаў XX стагоддзя: Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, а Кандрат Крапіва пазіцыянуецца толькі як камедыёграф, бо нават праграмныя байкі "Дыпламаваны баран" і "Махальнік Іваноў" у першую кнігу чамусьці не ўвайшлі. Але, здаецца, найменш "пашанцавала" творчай спадчыне Змітрака Бядулі: змешчана шэсць ягоных твораў, але сярод іх няма праграмных — "Зямля", "На Каляды к сыну", "Нібы рупны араты...", "Бондар", а назва абразка-імпрэсіі "Плач пралескаў" была "адрэдагавана" ў "Плач пралесак". У сувязі з гэтым варта нагадаць, што і ў вучэбнай праграме, і ў дапаможніку па беларускай літаратуры для 10 класа фігуруе аўтарскі варыянт "Плач пралескаў". Дарэчы, менавіта такую назву сам Бядуля збіраўся даць першаму свайму зборніку, які па падказцы Купалы пабачыў свет як "Абразкі" (1913). Даволі скрушна, калі паважлівыя адносіны да твораў класікі разбіваюцца аб прынцыповасць карэктараў.

Адно ясна: з'яўленне падобных выданняў заўсёды выклікае розгалас і неадназначныя ацэнкі. Так будзе, упэўнены, і ў нашым выпадку, калі не спрацуюць славутая карпаратыўнасць, захвальная замоўленасць і сакраментальная наша культурніцкая мляўкасць і абыякавасць. Агульныя недахопы, уласцівыя любым анталогіям і хрэстаматыям, добра вядомыя: эстэтычная ці ідэалагічная тэндэнцыйнасць, суб'ектывізм пры адборы матэрыялу, якія ў сукупнасці вядуць да рэпрэзентатыўнай непаўнаты і неадэкватнасці ацэнак, а таксама тэкстуальныя і фактычныя памылкі, як у выпадку з "Плачам пралескаў". Ці яшчэ, напрыклад, калі зборнік Алеся Гаруна "Матчын дар" называецца па даволі празаічных і зразумелых прычынах "Мацярынскі дар", а кніжачка Цёткі "Хрэст на свабоду" паўстае пад невядомай у бібліяграфіі назвай "Хрышчэнне свабодай". Зрэшты, каб не "псаваць гумар" (М. Гарэцкі) сабе і вам, не маю намеру прыводзіць тут іншыя ляпсусы, бо не памыляецца толькі той, хто нічога не робіць, але ўсё ж хачу прапанаваць шэраг амаль рытарычных пытанняў, якія датычаць структуры выдання.

Так, ці правамерна анталогію, якая мае назву "Беларуская літаратурная спадчына" распачынаць раздзелам "Вусная народная творчасць"? У такім выпадку, калі быць цалкам паслядоўным, пажадана ўжываць прыметнік ад слова *славеснасць*, семантыка якога ўключае ў сябе як вусную народную творчасць, так і мастацкую літаратуру. Або варта было ў прадмове да раздзела спаслацца на традыцыю, якая сягае першай хрэстаматыі Максіма Гарэцкага, бо канстатацыя факта, што "*фальклор у пэўнай ступені замяняў літаратуру*", мала што тлумачыць, і непадрыхтаваныя чытачы могуць быць дэзарыентаваныя. Усё ж казкі, легенды, паданні, прыказкі і прымаўкі, прыкметы і павер'і, загадкі, народныя песні і прыпеўкі не трапляюць пад катэгорыю "літаратурная спадчына".

*"Ва ўмовах незалежнасці краіны нацыянальная класіка павінна набываць новае жыццё і ўсенароднае прызнанне, што, безумоўна, патрабуе ад укладальнікаў выданняў-анталогій і грунтоўнай тэарэтычнай падрыхтоўкі, і высокай эрудыцыі, і грамадзянскай адказнасці.*

Таксама звяртае на сябе ўвагу назва і напаўненне раздзела "Літаратура XX стагоддзя. Пачынальнікі сучаснай беларускай літаратуры". У ім змешчаныя творы не толькі пісьменнікаў перыяду нашаніўства К. Каганца, А. Гаруна, З. Бядулі, Ядвігіна Ш., М. Гарэцкага, Ц. Гартнага, Цёткі, але і значна маладзейшых М. Зарэцкага, П. Труса, У. Жылкі, У. Дубоўкі, якія дэбютавалі ў літаратуры ў 1920 — 1923 гадах. Прадстаўнікі літаратурнай генерацыі 20-х гадоў былі хутчэй прадаўжальнікамі ўжо наяўнай традыцыі, хоць і спрабавалі гэта адмаўляць, наўрад ці іх варта залічваць да пачынальнікаў, тым больш што гэтае найменне дзякуючы слыннаму зборніку гісторыка-літаратурных матэрыялаў "Пачынальнікі", складзенаму Г. Кісялёвым, трывала замацавалася за літаратарамі XIX стагоддзя. У раздзеле блізу не механічна злучаныя і пададзеныя ўперамежку творы не проста прадстаўнікоў розных пакаленняў, а розных культурных парадыгмаў, светабачанняў і нават асобапачуванняў, носьбіты адрознага псіхаэмацыянальнага і эстэтычнага стаўлення да рэчаіснасці.

Не меншую няўцямнасць выклікае раздзел "Залатая пяцёрка". Ніхто з укладальнікаў так і не парупіўся патлумачыць, чаму з усіх пісьменнікаў XX стагоддзя былі абраныя менавіта Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч, Кандрат Крапіва і Уладзімір Караткевіч. Мяне не асабліва даймае нават тое, што біябібліяграфічныя артыкулы пра кожнага з названых пісьменнікаў пераважна напрамую запазычаныя (з усімі адпаведнымі хібамі) з даведніка "Беларускія пісьменнікі (1917 — 1990)", колькі неяк проста па-чалавечы і як філолагу крыўдна за Максіма Гарэцкага, прызнанага класіка, імя якога заслужана і ўжо даўно ставяць поруч з сакральнай трыядай Колас — Купала — Багдановіч. А яго творчая спадчына прадстаўлена ўсяго двума апавяданнямі.

Яшчэ ў старажытнасці было заўважана, што кожная кніга мае свой лёс, які залежыць не столькі ад крытыкаў, колькі ад чытачоў, на густы і патрэбы якіх і арыентаваліся. Так, ужо ў імперскім Рыме актыўна прадукавалі анталогіі лацінскіх класікаў, з твораў якіх руплівa выкідвалі ўсё, што лічылася непрыстойным і грубым. Пры гэтым этычныя погляды складальнікаў карэлявалі з эстэтычнымі: не толькі з нейкім абстрактным разуменнем прыгажосці, але і з намерам фарміравання чытацкіх здольнасцей і навыкаў вылучаць якраз непачварнае ў літаратурнай спадчыне розных часоў. Раней, чытаючы, людзі наіўна імкнуліся спазнаць самога сябе і набыць нейкую універсальную сістэму мастацкіх каштоўнасцей.

Зразумела, прасачыць літаратурны працэс за шмат стагоддзяў — задача не з шараговых. Кангламерат вядомых імёнаў трэба прадстаўляць як пэўную структуру, заснаваную не толькі на храналагічным прынцыпе, але і з пункту гледжання важкасці саміх эпох і функцый кнігі ў канкрэтны час. Ці не таму, што (з-за інтэрнэцкай інфармацыйнай экспансіі) стаўленне да кнігі як культурнага артэфакта дэвальвіравалася і сёння назіраецца настойлівае імкненне выдаваць анталогіі і хрэстаматыі, якое стала адной з прыкмет нашага часу. Але ж гэта справа надзвычай адказная, бо анталогія паводле азначэння павінна змяшчаць толькі найлепшае, універсальнае, яна, у адрозненне ад хрэстаматыі, не павінна быць запраграмавана на дасягненне нейкіх прагматычных і канкрэтных адукацыйных мэт. Зрэшты, каб сфармуляваць канчатковыя высновы, пачакаем выдання другой кнігі.

Матэрыялы першай кнігі анталогіі яскрава дэманструюць гуманістычную веліч, грамадзянскі пафас і скіраванасць у будучыню айчыннага прыгожага пісьменства, якое стагоддзямі было заўсёды звязана з прагрэсіўнымі ідэямі свайго часу. Ва ўмовах незалежнасці краіны нацыянальная класіка павінна набываць новае жыццё і ўсенароднае прызнанне, што, безумоўна, патрабуе ад укладальнікаў выданняў-анталогій і грунтоўнай тэарэтычнай падрыхтоўкі, і высокай эрудыцыі, і грамадзянскай адказнасці. Сёння можна пачуць даволі песімістычныя прагнозы наконт перспектыў сучаснай нацыянальнай літаратуры. Але яна — гэта васёлкавая мара пра шчасце, каханне і прыгажосць. А ў мары не можа не быць будучыні.

Памятаецца, у самым пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў аўтарытэтным маскоўскім літаратуразнаўчым часопісе давялося прачытаць проста разгромную рэцэнзію на адно двухтомнае біябібліяграфічнае выданне, у якім была зроблена спроба, даволі нясмелая, памяняць некаторыя ідэалагізаваныя акцэнты ў стаўленні да рускай літаратурнай спадчыны. У хуткім часе гэтае выданне трапілася мне на вочы ў адной з мінскіх профільных кнігарань. І сёння яно займае пачэснае месца на маёй кніжнай паліцы, нягледзячы на колішнія дужа крытычныя і ў большасці абгрунтаваныя ацэнкі. Хочацца верыць, што і анталогію "Беларуская літаратурная спадчына" напаткае шчаслівы лёс нялішняга выдання ў кнігазборах паспалітых беларускіх чытачоў.

# Дотык да мінулага

Ізяслаў КАТЛЯРОЎ,
фота Віктара Кавалёва

**“Каларыт незапазычаных пачуццяў” — так называецца экспазіцыя твораў Уладзіміра Зінкевіча, прымеркаваная да 50-годдзя горада Светлагорска. Назва невыпадковая. Не так даўно ў размове з аўтарам гэтых радкоў Уладзімір Леанідавіч зазначыў, што яго новыя творы будуць з каларыту незапазычаных пачуццяў, з усведамлення сутнасці быцця. І вось некаторыя з гэтых карцін — у светлагорскай карціннай галерэі “Традыцыя” імя Германа Пранішнікава.**



Адразу ж заўважаеш, што мастак значна пашырыў мастацкую прастору тых тэм, якім і раней аддаваў перавагу. Акрылавыя фарбы, якімі ён карыстаецца, тояць у сабе такія каларыстычныя магчымасці! Дымчатая, мяккая глыбіня, магія настрою, рухомасць, фрагментарнасць і… непарушная цэласнасць. Як і раней, сувязь паміж карцінамі Уладзіміра Зінкевіча і гледачом усталёўваецца дзякуючы пэўным адчуванням. Мы зноў пераконваемся: мастак адлюстроўвае тое, што знаходзіцца ў пачуццях, а не ў пэўнай рэчаіснасці.

Творы, прадстаўленыя ў экспазіцыі, складаюць тэматычныя цыклы: “Сцены старога замка”, “Кветкі старога саду”, “Рэчы старога дома”, “Легенда”… Над імі Уладзімір Зінкевіч працуе ці не на працягу ўсяго свайго творчага жыцця. Так, ён піша настрой, які ствараюць рамантычныя кветкі закінутага саду, самотныя сядзібы, прадметы побыту, што страцілі сваю ранейшую значнасць, але набылі новую існасць… Важныя мастакоўскія адчуванні робяцца і нашымі. Таленавіта ўвасоблена тое, што, здавалася, не мае ніякай знешняй прыгажосці. Аднак майстар выяўляе нешта шчымліва настальгічнае, патаемна прыгожае. І раскрывае рамантыку мінулых часоў.

Здаецца, гэтаму мастаку дадзены талент пісаць само паветра часу, аддаленага ад нас. А ў ім, таямніча-паўзмрочным, нібыта прывіды, узнікаюць жаночыя постаці. Чым больш углядаешся ў карціну, тым ярчэй праступае іх адухоўленая прыгажосць. Пра адзін з такіх твораў з назвай “Легенда” я запытаўся ва Уладзіміра Леанідавіча: якое паданне натхніла яго? Мастак паблажліва ўсміхнуўся ў адказ, даючы зразумець, што магічны рэалізм заўжды пазбягае канкрэтыкі, і патлумачыў, што легенды, у якіх прысутнічаюць жаночыя прывіды, ёсць у многіх краінах. Яны паўтараюцца, як паўтараецца само жыццё. Потым я доўга стаяў ля “Сцен старога замка”, адчуваючы невытлумачальны холад, у якім гэтак жа таямніча выглядала святло лампады. Што яно намагалася высветліць? Можа, вось гэтую, таксама загадкавую, жанчыну, якая прыхінулася да паўзмрочнай сцяны, з трапяткой чуласцю зводзячы пальцы рук, нібыта намацваючы тое, што ўжо знікла…

Магічная рэальнасць? Так, гэта яна. У стрыманым, шаравата прасветленым каларыце мастаку ўдалося захаваць шматколернасць незапазычаных пачуццяў. Яны і ў “Нацюрморце”, у якім, здаецца, ажывае нават ваза сярод травы, кустоў, рэшткаў сцяны… З паўзмроку і прасвятлення выяўляюць сябе “Кветкі старога саду”. А колькі зімовай фантазіі з марозната святла, срэбнай шэрані і пухнатых галін у яго “Кампазіцыі”!

Цэласнасць фрагментарнасці, бадай, больш за ўсё адчуваецца ў цыкле твораў “Рэчы старога дома”. І такое адчуванне вельмі натуральнае, бо паміж намі і гэтымі рэчамі страчваецца або страчаная повязь часу. Старадаўнія самавары, прасы, рэшткі нейкага посуду, гадзіннікі — у гэтых загадкавых выявах мастак праз стварэнне вобраза ўзнаўляе важныя для сябе адчуванні. Старыя ж рэчы захоўваюць нешта значна большае, чым памяць пра іх колішняе побытавае прызначэнне…

Радуе шчодрасцю талент Уладзіміра Зінкевіча. Тое, што яго новая выстаўка адкрылася ў Светлагорску падчас святкавання 50-годдзя горада, — прыгожы напамін, што мастак з’яўляецца яго ганаровым грамадзянінам. Нядаўна творчыя дасягненні гэтага майстра адзначаныя ордэнам Францыска Скарыны. І прыемна, што стасункі загадчыка кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, прафесара У. Зінкевіча з нашай карціннай галерэяй не парываюцца.

***На здымку: карціна Уладзіміра Зінкевіча з цыкла “Сцены старога замка”.***

# З гісторыямі — у Маскву

Галія ФАТЫХАВА,
фота Святланы Берасцень

**У галерэі “Artmix” расійскай сталіцы адкрылася выстаўка чатырох сучасных мастакоў з Беларусі. Экспазіцыя пад назваю “Кароткія гісторыі” прадстаўляе скульптурныя творы Аляксандра Шапо і жывапісныя работы Ганны Сілівончык, Таццяны Грыневіч ды Івана Сямілетава.**



Усе чацвёра скончылі Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, атрымалі веды ў лепшых традыцыях нацыянальнай мастацкай школы, але кожны з іх вылучаецца індывідуальнай сучаснай выяўленчай мовай. Наіўнасць вобразаў і простасць формаў, добры і цёплы настрой уласцівыя творам, уключаным у маскоўскую экспазіцыю. Навакольны свет нашы маладыя мастакі ўспрымаюць і ўвасабляюць ярка, дапаўняючы яго эмацыянальна і па-філасофску пераасэнсоўваючы. Кожны іх твор — кароткая гісторыя, якая абуджае фантазію гледача і дазваляе яму самому, ва ўласным уяўленні, дапоўніць прапанаваны мастаком сюжэт.

Незвычайнае і неадназначнае злучэнне вобразаў і сэнсу прываблівае да карцін, створаных Ганнай Сілівончык. Тут амаль заўсёды ёсць пэўная доля тонкага гумару; работы мастачкі даюць моцны эмацыянальны зарад, здзіўляюць дасціпнай метафарычнасцю, выклікаюць у гледача мноства нечаканых асацыяцый.

Для творчасці Таццяны Грыневіч характэрныя лёгкасць і паэтычнасць, палотны напоўненыя святлом і паветрам. У цэнтры яе ўвагі — чалавек і яго духоўны свет: пачуцці, перажыванні, адчуванні, фантазіі, сны, мары, прадчуванні — усё тое, што належыць сферы ірацыянальнага.

Тэмы карцін Івана Сямілетава — маўчанне, чаканне, вяртанне, адзінота... Тэмы вечныя і невычэрпныя, якія дазваляюць пэўныя ўзаемаадносіны ў соцыуме і садзейнічаюць разуменню ўласнага “Я”. Не сюжэт сам па сабе, не падзеі цікавяць аўтара, а душэўныя хваляванні яго прыдуманых герояў, якія шмат у чым падобныя да гэтага маладога мастака.

Творчасць Аляксандра Шапо можна ахарактарызаваць як гарманічнае спалучэнне розных, часам процілеглых, катэгорый і станаў: гратэску і рэалізму, гумару і філасофіі, пачуццяў і сузіральнасці. Зусім не падобныя між сабою работы аб’яднаныя агульным зместам, у кожнай з іх відавочная ўнікальнасць аўтарскай пластычнай мовы, вельмі выразнай, зразумелай і даходлівай.

Нягледзячы на малады ўзрост гэтыя творцы вядомыя многім аматарам мастацтва як у Беларусі, так і за мяжой: напрыклад, у той жа Маскве. Іх работы знаходзяцца ў музеях розных краін свету і ў прыватных зборах калекцыянераў. А на радзіме праекты Таццяны Грыневіч, Ганны Сілівончык, Івана Сямілетава ды Аляксандра Шапо заўсёды чаканыя: яны прываблівають аматараў выставак і выклікаюць грамадскі розгалас.

***На здымку: Ганна Сілівочык “Зімовы сад”.***

Алег АНАНЬЕЎ,
мастацтвазнаўца

# Лекавае святло мастацтва

**Сёлета Гомельскі абласны шпіталь інвалідаў вайны адзначае юбілей. За 70 гадоў сваёй гісторыі з невялікага эвакуацыйнага шпіталя ён ператварыўся ў адну з лепшых медыцынскіх устаноў былога Савецкага Саюза, а цяпер — Рэспублікі Беларусь. Тут сфарміраваўся высокапрафесійны калектыў, выкарыстоўваецца сучаснае абсталяванне, створаны добрыя магчымасці для лячэння і побытавыя ўмовы. За ўсю гісторыю шпіталя тут аздаравілася больш як чвэрць мільёна людзей.**



Знамянальнаму юбілею абласнога шпіталя прысвечана выстаўка гомельскіх жывапісцаў, графікаў і майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У холе шпіталя разгарнулася экспазіцыя з 16 твораў сучаснага мастацтва, аўтарамі якіх з’яўляюцца члены Гомельскай абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў: заслужаны дзеяч мастацтваў нашай краіны Мікалай Казакевіч, Аляксандр Гайлевіч, Ларыса Зуева, Аляксандр Касцючэнка, Святлана Курашова, Пётр Лук’яненка, Святлана Наздрын-Платніцкая, Міхась Паповіч, Анжаліка Шабалтас. Кожны з іх у асобнасці ўяўляе ўнікальны творчы сусвет; у гэтым праекце ўсе разам яны зніталі сваімі творамі панараму пазітыўных, дабратворных выяў.

Вялікае значэнне падобных выставак, уплыў мастацтва на з’яўленне лагодных эмоцый пацыентаў адзначылі галоўны ўрач шпіталя Алег Іванцоў, загадчык тэрапеўтычнага аддзялення Фелікс Каліноўскі.

Здаўна заўважана, што неабавязкова звяртацца да традыцыйнай тэрапіі. Сучасныя нейрабіёлагі высветлілі: каб палепшыць псіхалагічны стан, альтэрнатывай медыцынскай дапамогі ў такіх выпадках можа стаць наведванне маляўнічай галерэі.

“Цяжка ўявіць сабе чалавека без радасці, якую дастаўляе яму мастацтва, без шчасця эстэтычных азарэнняў. Душэўныя пачуцці ў штодзённым жыцці дапамагаюць нам успрымаць навакольную рэчаіснасць шматколернай”, — так лічыць старшыня Гомельскай абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў Ларыса Зуева. Шматлікім аматарам мастацтва Гомельшчыны добра вядомыя яе габелены, у якіх мастачка ўвасабляе адвечнае хваляванне перад таямніцай быцця, спасціжэнне ягонай крохкасці…

Гамяльчане ведаюць і пра тую шматгранную грамадскую работу, якую праводзіць мастачка, узначаліўшы яшчэ ў 1994 годзе дабрачыннае творчае аб’яднанне “Мастацтва, Экалогія і Я”. “МЭЯ” актыўна ўключылася ў рэалізацыю праекта ЮНЕСКА “Мастацтва ў бальніцы”. Дзякуючы дзейнасці аб’яднання было праведзена мноства дабрачынных акцый і выставак у лячэбных установах Гомельшчыны.

Медперсанал і пацыенты шпіталя выказалі мастакам сардэчную падзяку і за арганізацыю выстаўкі, і за падораны графічны твор з выглядам сабора святых Пятра і Паўла, што ўпрыгожвае знакаміты Гомельскі палацава-паркавы ансамбль.

***На здымку: работа Мікалая Казакевіча “Над Сожам”.***

# Розныя… таленты

Аляксандр РУНЕЦ

**У Палацы мастацтва ладзіліся сумесна ў адной экспазіцыйнай зале персанальныя юбілейныя выстаўкі двух крэатыўных, яркіх айчынных творцаў: шырокавядомага мастака-сцэнографа, заслужанага работніка культуры Беларусі і Украіны, лаўрэата прэміі “За духоўнае адраджэнне”, пачэснага ўладальніка медаля Францыска Скарыны Яўгена Ждана, прысвечаная 45-годдзю яго плённай выставачнай і тэатральна-дэкарацыйнай дзейнасці, і мінскага скульптара-партрэтыста Валерыя Калясінскага — з нагоды 50-годдзя з дня нараджэння майстра.**



*Валерый Калясінскі “Скульптурны партрэт Адама Міцкевіча”.*

Розныя па стылістыцы ды спецыфіцы выяўленчых сродкаў абраных відаў мастацтва, вобразным уяўленні светабачанні, дзесяці нераўназначныя па жыццёвым і прафесійным стажы-вопыце, найбольш удалыя творы гэтых адметных сучасных мастакоў (да таго ж, яны, як вядома, — выхаванцы зусім розных, непаўторных сацыяльна-гістарычных эпох!), тым не менш яднае агульная моцная жыццесцвярджальная, згарманізавана-гуманістычная скіраванасць, яскравасць, адухоўленасць, поліфанічнасць думак і пачуццяў, шанаванне класічнай спадчыны і традыцый мінуўшчыны. Усё гэта, натуральна, хвалявала, прыцягвала пільную ўвагу спецыялістаў, калег, усіх наведвальнікаў — аматараў Прыгожага (зразумела ж, з неаднолькавымі, часта процілеглымі, асабістымі эстэтычнымі густамі-перакананнямі).

Пра жывую легенду, агульнапрызнанага класіка найноўшай беларускай сцэнаграфіі Яўгена Ждана можна распавядаць бясконца. І, нягледзячы на шматлікія публікацыі пра яго творчасць, здаецца, нашы даследчыкі яшчэ не выказалі спаўна свайго станоўчага, адказнага “рэзюмэ” наконт яго персоны і пра тое выбітнае месца, якое па праве належыць яму ў станаўленні і развіцці сучаснай беларускай тэатральнай і мастацкай культуры.

Таленавіты самародак з вёскі Сноў Нясвіжскага раёна — “бойкага”, багатага на гістарычную памяць ды культурныя, народныя традыцыі гандлёва-рамесніцкага мястэчка-“раздарожжа”, тыповы прадстаўнік няўрымслівага савецкага пасляваеннага пакалення г.зв. “шасцідзесятнікаў-сямідзесятнікаў”, Яўген Іванавіч з юнацкіх гадоў марыў па-новаму, арыгінальна, годна, прыстойна, па-свойму, праз фарбы, уладкаваць-аздобіць навакольны побыт і свет. Амаль усё свядомае, сумленнае жыццё ён прысвяціў тэатру, своеасабліваму дэкарацыйнаму жывапісу, дзе цалкам рэалізаваў сябе як бліскучы мастак-пастаноўшчык, інтэлектуал-рэфарматар усесаюзнага кшталту — яшчэ за савецкім часам. Няспынна, напружана і шмат Я. Ждан працуе, актыўна, творча эксперыментуе і ў першыя гады дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі, і цяпер. Сапраўдны мастак ніколі не перастае здзіўляць, акрыляць публіку!

Бадай, не адно пакаленне нашых суайчыннікаў, наведваючы Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета ды Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр (з якімі ў 1967 — 1984 і ў 1995 — 2008 гадах адпаведна непасрэдна супрацоўнічаў Я. Ждан), выхоўвалася на неўміручых узорах сусветнай класікі ва ўражвальнай, змястоўнай, маляўнічай “інсцэніроўцы” Яўгена Іванавіча — цудоўных пастаноўках спектакляў: опер “Фаўст” Ш. Гуно, “Галька” С. Манюшкі, “Іаланта” і “Яўген Анегін” П. Чайкоўскага, “Рыгалета” і “Аіда” Дж. Вердзі, “Чараўнік Смарагдавага горада” В. Лебедзева; балетаў “Пасля балю” Г. Вагнера, “Бахчысарайскі фантан” Б. Асафʼева, “Паненка і хуліган” на музыку Д. Шастаковіча, “Капялюш Напалеона” А. Штраўса, “Дон Кіхот” Л. Мінкуса.

Ужо самы ранні самастойны праект маладога мастака, выпускніка Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута — афармленне оперы А. Барадзіна “Князь Ігар” — атрымаў І прэмію на Усесаюзнай выстаўцы дыпломных работ у Маскве ў 1967 годзе.

У 1984 — 1995 гадах ён быў галоўным мастаком Рэспубліканскай дырэкцыі эстраднага мастацтва, удзельнічаў у маштабным афармленні ўрачыстых галаканцэртаў, агульнанародных юбілейных свят: “Беларусь сінявокая”, “1000-годдзе хрышчэння Русі”, “1000-годдзе Славянскага пісьменства і культуры”, “1000-годдзе Полацкай епархіі”, “500-годдзе Францыска Скарыны” і інш.

Таксама, што цікава, ён, відавочна, адзіны ў краіне прафесійны мастак вышэйшай катэгорыі, які здолеў стварыць суцэльны ўнікальны цыкл “дзейсных” праваслаўных абразоў — “Пантэон усіх беларускіх святых”, асвечаны Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі Філарэтам і бескарыслівa перададзены майстрам нясвіжскаму Свята-Узнясенскаму храму. Да ведама: 1 верасня 2005 года адчыніў дзверы мясцовы філіял Нясвіжскага гісторыка-краязнаўчага музея — Дом-музей Яўгена Ждана (культурна-асветніцкі цэнтр з карціннай галерэяй) у в. Новы Сноў.



*Яўген Ждан “Святы Епіскап Піна Полацкі”.*

На сёлетняй персанальнай выстаўцы Яўгена Іванавіча гледачы мелі даволі рэдкую магчымасць грунтоўна пазнаёміцца са станковым жывапісам і віртуознай графікай слыннага сцэнічнага мага і чараўніка. На працягу апошніх 2 — 3 гадоў ён задумаў ажыццявіць цікавую справу: стварыць абагульнены цыкл карцін (партрэтаў, сюжэтных кампазіцый, нацюрмортаў, пейзажаў) пра любімую Нясвіжчыну, сваю малую радзіму, наогул — пра прывабны, родны беларускі край.

Так, мастацтвазнаўцамі, напрыклад, неаднойчы адзначалася арганічнае спалучэнне ў аўтарскай манеры Я. Ждана, здавалася б, несумяшчальных жывапісных стыляў: рэалізму, сюррэалізму, авангарда, кубізму, імпрэсіянізму; напэўна, тут можна дадаць яшчэ і маньерызм, фавізм, экспрэсіянізм (асабліва ў графіцы). Але, урэшце, згодзімся, што ў разнявоненых, быццам расквечаных усімі колерамі вясёлкі, жыццёва праўдзівых і надта назіральных палотнах-“феерыях” гэтага адметнага майстра-выназходніка, як правіла, дамінуюць пяшчотны, лірычна-паэтычны, душэўны, музычны настрой у суладдзі з дапытлівым мастакоўскім філасофска-духоўным роздумам пра таямніцы ўсяго існага пад сонцам. І насамрэч, глыбінныя вытокі яго творчага ўзлёту, натхнення — светлыя, рамантызаваныя ўспаміны з вясковага дзяцінства, апантанае захапленне народным дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам (маці Я. Ждана — вядомая ў рэгіёне майстрыха-вышывальшчыца), у прыватнасці — ткацтвам, фальклорам, этнаграфіяй, святочна-абрадавымі сялянскімі гульнямі. А праз паўтара дзясятка кіламетраў хады ад бацькоўскай хаты — лічы, побач! — знаходзіўся ж “казачны”, барочны радзівілаўскі Нясвіж…

Чалавек і Прырода, Чалавек і Сусвет, Чалавек і Радзіма, яго сакральная Спадчына — вось асноўныя тэмы інтрыгуючых, відовішчных, сардэчных творчых памкненняў Яўгена Ждана, якія заўсёды актуальныя.

Як адзначыла ў альбоме-манаграфіі пра мастака мастацтвазнаўца Г. Фатыхава (праўда, заўвага, галоўным чынам, датычыць яго скарбніцы іканапісу, але, мабыць, і не толькі, калі шырэй разглядаць), “характар вобразаў ягоных карцін славянскі, але лікі на яго палотнах адрозніваюцца ад лікаў усходніх славян, балгараў. Як сцвярджае сам мастак, усё гэта дадзена яму як дар Боскі, а ён толькі выяўляе тую субстанцыю, якая закладваецца ў яго галаве, сэрцы, розуме…”.

Вось ужо гэты “нашумелы”, абаяльны, мудры, усеахопны, гіпнатычны позірк шырока расплюшчаных даверлівых чалавечых вачэй у шматлікай партрэтнай галерэі Яўгена Ждана! І чамусьці ніводны фотаздымак не можа “якасна” занатаваць арыгінальныя жданаўскія лірычныя пейзажы, дзе столькі найтанчэйшых унутраных перажыванняў-адценняў, якіх не “пабачыць”, не “адчуе” нават самы дасканалы кампʼютар.

Прыемнай нечаканасцю для гледачоў з’явілася і юбілейная экспазіцыя акадэмічнай станковай скульптуры Валерыя Калясінскага. Так збегліся акалічнасці, што менавіта яму давялося трымаць адказны “экзамен” на прафесійную “сталасць” поруч з непараўнальным Я. Жданам. У выніку — добры тандэм атрымаўся! Заўважым, між іншым: не кожны сучасны скульптар змог бы так непрадузята і лёгка ўпісацца, як у дадзеным выпадку (а галоўнае — не згубіцца, безумоўна, са сваім асабістым, адмысловым творчым багажом), падтрымаць каштоўны плён працы вышэйадзначанага руплівага тэатральнага жывапісца.



*Яўген Ждан “Дзяўчына, якая марыць”.*

Валерый Францавіч прыйшоў у беларускае выяўленчае мастацтва ўжо не юнаком, а ў досыць дасведчаным, сфарміраваным узросце. Яму не трэба было сутаргава вынаходніцтва, каб выказаць сябе; ды й скульптура, па вялікім рахунку, усё ж-такі паважны, важкі від мастацтва, мала схільны да фармальных спецэфектаў, затое вельмі адчувальны да мастакоўскага зместу. Скончыў БДАМ у 1997 годзе. У 1998 — 2001 гадах працаваў у Творчых акадэмічных майстэрнях Міністэрства культуры Беларусі. Пільна вывучае сакрэты старабеларускага медальернага мастацтва, цікавіцца літаратурай, музыкай, гісторыяй, краязнаўствам, мастацтвазнаўствам. І, каб пашырыць далягляды ўласных магчымасцей, займаецца ў аспірантуры ў 2002 — 2006 гадах.

В. Калясінскі — актыўны ўдзельнік і адзін з ініцыятараў-арганізатараў шматлікіх рэспубліканскіх краязнаўчых скульптурных пленэраў ад Беларускага саюза мастакоў. Ён — аўтар здзейсненых цікавых манументальных праектаў: мемарыяльнага знака ў вёсцы Баруны Ашмянскага раёна, прысвечанага падзеям Першай сусветнай вайны, экіпажу самалёта “Ілья Мурамец”, і вядомай выявы ў інтэр’еры гродзенскага касцёла св. Францыска Ксаверыя гістарычнага дзеяча, караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя, фундатара-заснавальніка найпрыгажэйшай беларускай каталіцкай святыні.

Чулліва-эпічныя, патрыятычныя па духу творы В. Калясінскага ўпрыгожваюць пастаянныя экспазіцыі гісторыка-культурнага музея-запаведніка “Заслаўе”, Івянецкага музея народнай скульптуры, гродзенскія дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей ды музей атэізму і гісторыі рэлігіі і інш.

У творчых здабытках гэтага таленавітага, удумлівага, перспектыўнага айчыннага разьбяра дзівосным чынам пераплеліся гістарычная, культурная спадчына і шматлікія надзённыя праблемы сучаснасці. Асабліва ж карысная, доўгачаканай, надта злабадзённай у цяперашніх мастацкіх колах, уяўляецца шмат у чым удалая спроба Валерыя Калясінскага годнага, прывабнага, праўдзівага, саўдзельнага адлюстравання вобразаў-сімвалаў сучаснікаў — дарослых і дзяцей. Асноўнае месца экспазіцыі В. Калясінскага займаў старанна распрацаваны, па-майстэрску выкананы (з бронзы, чыгуну, граніту, шамоту), дакладны, псіхалагічны камерны скульптурны партрэт.

Побач з пранікнёнымі, выразнымі выявамі “зорных” паэтаў-рамантыкаў XIX стагоддзя А. Міцкевіча і А. Пушкіна-ліцэіста, кампазітара С. Манюшкі, тых жа самастойных, пошукавых варыянтаў бюста С. Баторыя ў “прысадзіста-ачалавечанай” аўтарскай інтэрпрэтацыі Валерыя Францавіча ўдзячныя наведвальнікі выстаўкі падоўгу затрымліваліся, не з меншай цікавасцю сузіралі непаўторныя, узнёслыя аблічча вядомых і простых людзей, сваіх аднагодкаў-суайчыннікаў: беларускага навукоўца-паланіста і грамадска-культурнага дзеяча Т. Тарасевіча, дацэнта Ф. Папова, дзяўчынак-прыгажунь Верачкі і Машачкі, маладога мастака-студэнта М. Канапелькі, пажылога мужчыны-працаўніка, абагульнены, экстравагантны вобраз сучаснай жанчыны-“Берагіні” (Дабрадзея), партрэт “Касмічнай” Ларысы”, які па сэнсе і выяўленчай мове так неверагодна перагукаўся з “тытульным” рэнуараўскім жаночым партрэтам на выстаўцы Я. Ждана — “Дар’яй”.

# Вузельчыкі на памяць

Наталля ЖУРАЎЛЁВА,
Наста ХАЦІЛОЎСКАЯ,
фота Наталлі Жураўлёвай

**Нас прыцягвае да сябе з неверагоднай сілай веліч вялікага горада. І здаецца, што толькі тут можна рэалізаваць свае жаданні і мары. Але... нечакана для сябе мы робім рашучы выбар і вяртаемся туды, дзе ўсё пачыналася. Дзе ўзнікла жаданне звязаць сваё жыццё з любімай справай.**

Вярнулася на сваю малую радзіму на Магілёўшчыну і Ганна Жураўлёва, маладая і перспектыўная майстрыха па ткацтве і выдатны кіраўнік дзіцячай студыі ручнога ткацтва "Лянок", створанай ёю з мэтай захавання і развіцця традыцыйнага беларускага рамяства. Два гады Ганна ўваходзіць у Беларускі саюз майстроў народнай творчасці, што дае ёй магчымасць удзельнічаць у фестывалях, конкурсах, майстар-класах рознага ўзроўню. Штогод яна прадстаўляе свае работы на выстаўцы-кірмашы "Горад майстроў", удзельнічала ў выстаўцы майстроў і ўмельцаў Магілёўскай вобласці "Могилёвский гостинец" (Масква), у творчым праекце "Вялікая сіла мастацтва" (Мінск), трэцяй Маскоўскай міжрэгіянальнай выстаўцы-конкурсе народных майстроў "Русь Мастеровая", абласным конкурсе па рэканструкцыі традыцыйнага ручніка (Магілёў) і ў іншых цікавых праектах. Навучэнцы студыі "Лянок", заснаванай маладой майстрыхай, атрымліваюць дапамогу спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, выязджаюць на міжнародныя фестывалі і конкурсы.

**Ганна Жураўлёва расказвае:**

— Свой творчы шлях я пачынала ў дзіцячай школе мастацкіх рамёстваў, дзе наведвала заняткі па мастацкай вышыўцы. Тады і вырашыла звязаць сваё жыццё з рамяством. Паступіла ў БДПУ імя М. Танка на факультэт народнай культуры, дзе навучылася прыёмам ручнога ткацтва. З тых часоў я працягваю вывучаць розныя віды ткацтва. Збіраю і вывучаю тканыя вырабы з розных рэгіёнаў Беларусі. Пасля заканчэння ўніверсітэта ў мяне была магчымасць застацца ў Мінску. Прапанавалі працаваць у Музеі старадаўніх народных рамёстваў і тэхналогій "Дудуткі". Але... Па-першае, мяне цягнула дадому, па-другое, я ведала, што ў маім раёне не было майстра-выкладчыка па ткацтве. Гэта цяпер надаюць больш увагі спрадвечнаму рамяству. Калі задумацца над пытаннем, што для мяне ткацтва — спосаб самарэалізацыі ці спроба зарабіць на жыццё, дык адкажу: зарабіць такім чынам амаль немагчыма. У наш час многія набываюць тканыя рэчы не з-за іх ужытковага прызначэння, а таму, што гэта модна. Для мяне ручная праца не мае цаны. Майстар стварае непаўторны шэдэўр, укладае ў яго часцінку сваёй душы і фантазіі. І няма ніякай розніцы, дзе рэалізоўваць свае мэты. Галоўнае, каб было жаданне і магчымасці ўвасобіць свае ідэі. Мае работы, работы маіх вучняў экспануюцца не толькі на раённых, абласных, рэспубліканскіх выстаўках, але і за межамі краіны. Удзельнічаючы ў конкурсах і фестывалях рознага ўзроўню. Гэта спрыяе творчаму настрою і з'яўляецца добрым стымулам для маіх выхаванцаў. Садзейнічае падтрымцы ініцыятыў, накіраваных на зберажэнне і развіццё народных традыцый. Ткацтва асвойваюць маладыя, значыць, у яго ёсць будучыня. І яшчэ. Сапраўдны знаўца мастацтва адчуе розніцу паміж фабрычным і сатканым уручную поясам ці ручніком. Тым больш, рэч, зробленая майстрам, — гэта шэдэўр. Ён і каштаваць будзе даражэй. А мэта фабрыкі — штампаваць. Такія рэчы нават і энергетыкі ніякай не маюць.

— Раней пояс быў неабходнай дэталлю жаночай і мужчынскай вопраткі, яму надавалі вялікае значэнне, — працягвае Ганна Жураўлёва. — Ён быў засцярогам чалавека і як элемент матэрыяльнай культуры азначаў жыццё. З паясамі было злучана шмат прыкмет і звычаяў. Напрыклад, выраз "завязаць вузельчык на памяць": дзяўчына дарыла віты паясок з мноствам вузельчыкаў хлопцу, які ёй падабаўся. Калі хлопец насіў гэты пояс, было зразумела, што ён ужо "заняты" і іншая дзяўчына на яго не прэтэндавала. Ручнік, як і пояс, меў вялікае значэнне для чалавека і ўсё жыццё суправаджаў яго. Для мяне важна захаваць спрадвечныя традыцыі. І хаця я не абмяжоўваю сябе ў мастацкіх пошуках, выкарыстоўваю ў творах узоры самага рознага паходжання, ніколі не забываюся, што кожны арнамент нясе ў сабе пэўную інфармацыю. Не выдумляю новыя сімвалы, але спрабую кампанаваць іх па-новаму, стылізаваць, спрабую задаць ім нейкі настрой, зрабіць іх непаўторнымі, адзінкавымі.



***На здымку:** узор ручнога ткацтва.*

## Творчы праект

Ірына КАРЭЛІНА

# Заапарк у музеі

**Анімалістычны жанр — даволі рэдкая з'ява для беларускага выяўленчага мастацтва. Прынамсі, жыхары горада на Дзвіне ўбачылі выстаўку з "жывёльнай" канцэпцыяй упершыню. Артпраект рэспубліканскага маштабу «ZOOparking "Ноеў Каўчэг"» прытуліўся ў Віцебскім мастацкім музеі.**

Тое, што экспазіцыя будзе карыстацца папулярнасцю, паказала ўжо яе адкрыццё: столькі зацікаўленай моладзі на вернісажах я дагэтуль не бачыла. Дзіва што: праект ладзілі асобы не проста творчыя, а мегатворчыя! Яго канцэпцыі адпавядала кожная дэталь — ад назвы да печыва ў форме жывёл для гасцей выстаўкі. Дарэчы, аўтар задумы, член Беларускага саюза мастакоў, дацэнт кафедры выяўленчага мастацтва Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава Алег Кастагрыз, з усмешкай адзначае, што прозвішча абумовіла сферу яго творчай дзейнасці.

Цяга да анімалістыкі з'явілася ў Алега яшчэ падчас навучання на мастацка-графічным факультэце ВДУ. "Мяне вабіць прыгажосць і гармонія гэтага жанру. Калі быў студэнтам, я шмат малюваў з натуры ў заапарках Масквы, Ленінграда, Рыгі, — прызнаецца мастак. — Многія беларускія жывапісцы прафесійна займаюцца анімалістыкай — я падумаў: чаму б не сабраць такія творы пад адным дахам? Спачатку агучыў сваю ідэю сярод знаёмых мастакоў, потым падключыліся творцы з розных гарадоў краіны". На выстаўцы можна ўбачыць выбітныя работы Андрэя Савіча, каларытныя карціны Уладзіміра Ганчарука, казачныя палотны Алены Шлегель, скульптуры Марыны Капілавай, Сяргея Бандарэнкі, Сяргея Сотнікава, — творы мастакоў з Брэста, Пінска, Мінска, Віцебска. Экспануецца таксама 5 работ з фондаў Віцебскага мастацкага музея. Гэта карціна І. Рэпіна "Здраўнёва", палотны Ю. Пэна "Галава каня", П. Сакалова "Навальніца прайшла", Н. Свярчкова "Ваўкі даганяюць" і бронзавая скульптура "Вершнік" А. Абера. Іх уключэнне ў выстаўку стварае своеасаблівы мост паміж эпохамі.

"ZOOparking" — больш як звычайны артпаказ. Гэта спроба асэнсаваць месца жывёл у сучаснай цывілізацыі, паказаць узаемасувязь свету прыроды і чалавека. Анімалістычнае мастацтва гаворыць само за сябе: "Паглядзіце на гэтых грацыёзных, дасканалых істот... Яны вартыя захаплення і годнага стаўлення". У хуткім часе "Ноеў Каўчэг" павінен прыплысць у Мінск — так плануюць арганізатары праекта.

## Афарызм

*Мне быць з людзьмі хочацца, а не падрабляцца пад іх.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

## З глыбінкі

# Вяселле па-беларуску

У аршанскім этнаграфічным музеі "Млын" праходзіць выстаўка "Беларускае вяселле: традыцыі і сучаснасць". Ініцыятарам і арганізатарам яе з'яўляецца Рэспубліканская маладзёжная грамадская арганізацыя "Студэнцкае этнаграфічнае таварыства", у якую ўваходзяць маладыя мастакі, гісторыкі і архітэктары.

Выстаўку распачынае арт-праект "Беларускі стыль". Штуршком да ўзнікнення гэтага праекта стала паездка маладых этнографаў у Швецыю. Незабыўнае ўражанне на іх аказалі адносіны шведаў да сваёй спадчыны і сфарміраванае ў іх паняцце "шведскі стыль". Таму галоўнай мэтай для арганізатараў выстаўкі стала прэзентацыя ўласна беларускага стылю.

Экспазіцыя складаецца з дзвюх частак, якія ўмоўна можна падзяліць на старажытную і сучасную. У першай — старыя фотаздымкі, што дэманструюць значныя фрагменты вясельнага абраду. Яны прадстаўлены жыхарамі рэгіёнаў, якія студэнты наведалі падчас экспедыцый па родным краі. У другой частцы — фотаздымкі сучасных вяселляў, якія ладзіліся з улікам беларускіх народных традыцый. Спецыяльна для такіх вяселляў выраблялiся строі рознай ступені стылізацыі, запрашаліся музыкі. Рэчы, прадстаўленыя на выстаўцы, таксама маюць як старажытнае, так і сучаснае паходжанне. Частка рэчаў — экспедыцыйныя знаходкі, частка выканана для выстаўкі сябрамі таварыства з выкарыстаннем старажытных тэхналогій.

**Марыя ГАЛУБЦОВА,**
**г. Орша**

# Добрая памяць пра мастака

У Дзяржынскім гарадскім Доме культуры адкрылася выстаўка твораў выдатнага беларускага мастака Васіля Мініча пад назвай "Памяць у часе".

З адкрыцця выстаўкі пачалося святкаванне 50-гадовага юбілею Дома культуры, у якім Васіль Мініч працаваў на працягу 30 год мастаком-афармiцелем. У гэты час ён выявіў сябе і як таленавіты пейзажыст. На выстаўцы карціны з відамі роднага мастаку Палесся чаргуюцца з пейзажамі Дзяржыншчыны, якая была для мастака другой малой Радзімай.

Васіля Мініча як мастака ўзгадавала цудадзейная прырода Палесся. Нарадзіўся ён на Жыткаўшчыне. Пасля заканчэння мастацкага вучылішча імя А. Глебава з 1978 года і да апошніх дзён свайго жыцця Васіль Мініч працаваў у Дзяржынску. У гэтым горадзе, які стаў для яго родным, мастак пазнаёміўся і ажаніўся з Галінай — таксама мастачкай. Іх дачка Марыя пайшла па сцежцы бацькоў, яна мастацтвазнаўца.

У свой час у Дзяржынску былі арганізаваны дзве персанальныя выстаўкі Васіля Мініча, выстаўляўся ён таксама ў Мінску і ў шэрагу краін замежжа. Творы яго ёсць у прыватных калекцыях Германіі, ЗША, Галандыі, Ізраіля і інш. Памёр мастак у 2008 годзе, не пражыўшы і 60 год. Але і сёння жыве пра Васіля Мініча добрая памяць.

**Лявон ЦЕЛЕШ,**
**г. Дзяржынск**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"
Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2845
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк
20.10.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне
№ 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 5046
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12